ЮРЫ СТАНКЕВІЧ

# ЛУП

БІБЛІЯТЭКА ЧАСОПІСА



Маладосць

У зборнік Юры Станкевіча ўвайшлі аповесць «Луп» і апавяданні «Пераправа», «Рванае Вуха», «Бела-чырвоная птушка шчур».

У сваіх творах аўтар даследуе свет нашага сучасніка; на першы погляд невялікія і нязначныя экалагічныя і маральныя праблемы, якія паўстаюць перад людзьмі, але нечакана вырастаюць у глабальныя, што ўплываюць на жыццё ўсяго жывога. Апавяданне «Пераправа» — на гістарычную тэму.

Гуманізм, філасофскі роздум — усё гэта акантавана вострым і дынамічным сюжэтам.


Бібліятэка
часопіса «Маладосць»
1989

# ЛУП

*АПОВЕСЦЬ*

*Снежань, 198... года. Субота.*

*8 гадзін.*

З дзевятага паверха ён бачыў шэрыя дамы — адзін зеўраў чорнымі адтулінамі вокнаў — яшчэ не паспелі зашкліць. Па абочыне новай вуліцы бетонныя слупы роўнай шарэнгай цягнуліся ўдалечыню. Ні дрэўцаў, ні кустоўя. На дроце там-сям гайдаліся пад халодным ветрам самотныя, прыціхлыя вароны.

Уступаў пакрысе ў свае ўладанні бог зімы — Зюзя. Ішоў з поўначы лысы, барадаты, несамавіты дзядок, і з кожным яго подыхам узнімаліся завірухі, а пад босымі, пасінелымі нагамі адразу камянела, стыла зямля, і ўсё жывое пачынала адчуваць страх і няўпэўненасць у існаванні, бо лёс жывога залежыць ад шматлікіх прычын і век яго кароткі — жывое ж увогуле нешта парушае, нейкія важныя законы фізікі, якія існуюць па-над намі.

— З'явімся на свет і адразу нешта парушаем,— сказаў Мастак,— такі закон.

Ён стаяў і пазіраў праз акно на вуліцу. Зіма абяцала быць халоднай і працяглай, бо з палёў сабралі незвычайна вялікі ўраджай (старыя казалі, што гэта не на дабро), у садах восенню ламаліся сукі ад яблыкаў, груш, сліў, а ў лесе дубы паскідалі столькі жалудоў, што хапіла б і на некалькі гадоў; грыбы таксама ўрадзілі: і белыя, і падасі-

навікі, і апенькі, і ваўнянкі, і грузды, і шампіньёнаў на пакінутым палігоне за горадам было столькі, што можна касіць касой. Рабіны ламаліся ад ягад, палымнелі чырванню, мурашкі ўзнялі вышэй свае мурашнікі, а пчолы амаль поўнасцю заляпілі ляткі воскам. Ішла зіма. З раннімі прыцемкамі, піліпаўкай і маразамі.

На Мастаку быў цёплы світэр і джынсы, бо ў кватэры адчуваўся ўсё той жа восеньскі холад. Светлыя дрэнна падстрыжаныя валасы лахмаціліся над шырокім яго лобам. Прыжмураныя вочы былі шэра-зялёныя, а кароткая рудая бародка дзенідзе пачынала, нягледзячы на яго малады ўзрост, сівець. Сарамяжлівая, прыгожая ўсмешка часам асвятляла змрачнаваты твар.

З-за расчыненых дзвярэй выйшла жанчына. Шырокі баваўняны халат толькі падкрэсліваў яе цяжарнасць. Твар з крыху кірпатым носам і меднага колеру валасамі быў зусім просты. На бледнай скуры выдзяляліся карычневыя перадродавыя плямы.

Жанчына сказала:

— Адпачываў бы яшчэ. Час жа дазваляе. Усхапіўся і адразу за свае сусветныя праблемы.

— Мужчына павінен заўсёды нешта шукаць,— сказаў Мастак.— Свой дом і дастатак патрэбны, але ж яны разбэшчваюць. Спрадвечны бой, спакой нам толькі сніцца, нас кліча барацьба...

— Дажартуешся. Няўдачнік. Пакуль кватэру ў рэшце рэшт атрымалі, дык работу страціў у горадзе. Цяпер па лясах блукай. І там пачнеш сваё даказваць, зноў апячэшся, ведаю.

— Добра, Рыта,— прымірэнча сказаў Мастак.— Не будзем сварыцца на дарогу, бо шлях мой цёмны, а раніца пужае...

Але жанчына толькі ўзяла разгон.

— Ну, адхілілі некалькі карцін, не прынялі на выстаўку. Іншы б паціху свайго дамогся, а ты ў пакрыўджаныя адразу. Хто хоча мёду, той пчол не дражніць. А раней што было, ты памятаеш?

Мастак нервовым рухам узлахмаціў валасы.

— Раней былі сямідзесятыя. Дзе ты, маё юнацтва? Куды цябе, убогае, затаўклі?

— Адно табе зараз наканавана. У балота. Ты ж сам казаў, што той запаведнік — скрозь балота, ды не простае, а адно з буйнейшых у Еўропе.

— Затое я там галоўны мастак-афарміцель.

— А ў вас ёсць і негалоўныя мастакі? — нязлосна спытала жонка.— Ці доўга і там утрымаешся? Учора ж стагнаў цэлы вечар, што дырэктар прасіў жончын партрэт намаляваць, а ты нуль увагі — за нацюрморты ўзяўся. Яшчэ здзіўляешся пасля таго, што ён глядзіць на цябе, як...

— Як бык на новае шула,— падказаў Мастак.

Ён павярнуўся і абвёў рукой сцены, на якіх шчыльна віселі карціны.

— Дырэктар? Што ён такое? Бачыла б ты яго пошлы твар. Затое глядзі сюды. Мае карціны — маё багацце. Калі я памру, ты не прападзеш. Вось.

Жанчына пастукала пальцамі ад сурокаў па самаробным стале са скрыняў.

— Не трэба так жартаваць. Які ты неспакойны. Заўчора зноў піў віно, спрачаўся з сябрамі.

— Угхм...— вінавата ўздыхнуў Мастак.

Яна ўталопілася ў буянства фарбаў на сценах.

— Вы адзін аднаго не разумееце, а ты скардзішся, што не запрашаюць на афіцыйную выстаўку... І дзе ты бачыў такія істоты, такіх жывёл? Такіх не існуе. Фантастыка.

— Памыляешся,— вяла адказаў ён.— У Анры Русо, напрыклад. А ён ніякіх істот не бачыў, ак-

рамя як на сваёй мытні. І ўвогуле, хто ведае, што там, па-за намі?

Мастак зноў уздыхнуў, сеў на зэдлік (мэблю яны яшчэ не набылі) і так жа напаўжартам працягваў:

— Я ўспрымаю свет правым паўшар'ем. У адных усё кантралюе левае — іх большасць, ну, а ў мяне правае. А які яно бачыць свет — правільны, ці не — гэта слушнае пытанне. Дарэчы, які погляд правільны? Хто дакажа і якія суддзі?

Рыта ўважліва паглядзела на мужа і страсянула валасамі. Яна зморшчыла лоб і на кароткі час задумалася.

— Вядома, туды далёка дабірацца,— працягваў Мастак,— але там простае жыццё, цудоўная прырода. Вось летам прыедзем утраіх,— ён падкрэсліў, што ўтраіх,— і застанемся назаўсёды. Назаўсёды — на ўлонні прыроды. Драўляная хата, лес па начах шуміць, і людзі простыя, без хітрыкаў. І ніякага ўціску. Бо, дзе начальства ходзіць, там ніва не родзіць.

Рыта разгублена ўсміхнулася і сказала:

— Хутка мне адной ужо нельга будзе заставацца. А раптам дрэнна стане? Тэлефона і ў суседзяў няма. Дый за цябе душа баліць.

Ён пакратаў лоб.

— Праз два тыдні вазьму адпачынак, а потым пабачым. А сёння трэба ехаць. Пакуль дабяруся да тых Лаўнікаў, якраз будзе заўтра.

І Мастак пачаў расказваць пра Лаўнікі — якая гэта незвычайная вёска ў глыбінцы. Так, сапраўды незвычайная. І вёскі, і гарады, і людзі вельмі ж адрозніваюцца адзін ад аднаго. У тых Лаўніках, напрыклад, сяляне ўсё самі вырашаюць. Там у іх нешта накшталт савета старэйшын. Нават міліцыю ніколі не выклікаюць, калі на-

шкодзіць хто часам ці паб'юцца маладыя. Самі пакараюць вінаватых. І браканьерства амаль не здараецца, хаця жыўнасці навокал хапае. Працуюць сумленна, жывуць сціпла.

— Ты, вядома, ідэалізуеш тую суполку,— сказала Рыта, збіраючы мужу рукзак.— Хутка заспяваеш зусім іншае: варта пасварыцца там з кім-небудзь. Але я адсюль нікуды больш не варухнуся нават. Досыць па чужых кутках бадзяліся. Нараджу дзіцё і буду проста жыць.

— Ісціну кажаш. Каб усе жанчыны меркавалі так, свет быў бы інакшы.

Рыта падумала і сказала:

— Твая бяда ў тым, што ты ўвесь час імкнешся той свет перайначыць. А ў яго свае законы. Баюся я за цябе, нібы за дзіцё малое.

Мастак задумаўся.

— Ды не,— сказаў ён няўпэўнена,— зусім не. Я толькі хачу маляваць свае карціны і каб мне не перашкаджалі.

Рыта машынальна спрачалася, каб адцягнуць час, і паволі збірала яго ў дарогу. Яна хадзіла на кухню, заглядала ў ванную, напакавала цэлафанавую торбачку. Прынесла рукзак. Раптам спынілася.

— Ты паедзеш, а мне чамусьці вусцішна. Быццам нешта благое павінна здарыцца. І сон прысніўся дрэнны. Нібы забегла да нас дзіцё чужое, ды нейкае яно страхалюднае, пачварнае, галава ненатуральна вялікая, як у карліка. Нечаканасць будзе, і нядобрая.

Мастак паціснуў плячыма.

— Забабоны.

Ён зноў падышоў да акна і пачаў глядзець. Прыкметна ўжо развіднела, і ён бачыў удалечыні шашу, якая агінала іх раён. Убаку ад шашы від-

нелася між новабудоўляў плошча памерамі амаль са стадыён, з драўлянымі павецямі, лаўкамі, невялікімі цаглянымі буданчыкамі — гэта быў так званы «птушыны рынак». Неўзабаве яго збіраліся зносіць, але пакуль што рынак жыў. І ў халодную гэту раніцу ён нагадваў мурашнік: завіхаліся паасобку альбо, наадварот, паўсюдна збіраліся ў гурты людзі.

Мастак не любіў развітанняў, не любіў пакідаць жытло і адпраўляцца ў дарогу, калі на вуліцы золак, а жонка адчувае сябе блага. Але праз якія дзве-тры гадзіны ён мусіў ісці. У нядзелю запаведнік мелася наведаць сталічная дэлегацыя, і яму загадалі прыехаць раней. Мастак, хоць і належаў да багемы, быў чалавекам з ярка выяўленым пачуццём абавязку, і таму лічыў, што служба, якая б яна ні была, усё-такі служба і нічога тут не зробіш.

Рыта паставіла рукзак, дакранулася да мужавага пляча.

— Не крыўдуй. У цябе цудоўныя карціны. Але я не хачу заставацца адна.

Мастак прытуліў яе.

— Не трэба палохацца адзіноты. Як сказаў мысліцель, пекла — гэта іншыя.

— Не буду.

— Вось і разумніца.

Мастак паклаў рукзак на зэдлік і зазірнуў, што там ёсць. Здаецца, усё было пры ім — бялізна, ручнік, зубная шчотка, шкарпэткі, бутэрброд. Кніга ў дарогу. Ён зноў вярнуўся да акна.

*9 гадзін.*

Машына збочыла якраз там, дзе шаша шырокім кальцом агінала горад звонку. Шафёр, хло-

пец гадоў дваццаці, быў чамусьці асабліва пахмурны і незадаволены. Пад яго злосным позіркам (адно вока было зялёнае, другое блакітнае) Гаспадар мітусліва адчыніў задні борт і па-старэчы закрактаў — палез у кузаў.

Толькі тады ён падхапіўся, бо зразумеў, што трэба скакаць уніз. Ён моўчкі ўзняў вялікую лабатую галаву і скасавурыў вока на Гаспадара. Той выцягнуў з кішэні і соўгаў шафёру ў рукі пакамечаную паперку.

— Дзякуй, Рыгор,— сказаў Гаспадар.— Вось, бяры. А просьба ўсё тая ж: будзеш ехаць назад, дык забярэш і мяне. Мо аднаго, а мо і з ім прыйдзецца вяртацца.— Ён тузануў ланцуг.

— Не для мяне ўсё гэта,— пагардліва пакруціў галавой Рыгор і адпіхнуў паперку.

— Зроб ласку, братка!

— Мо сорам у кішэню і ўвогуле з табой тут застацца?

— А ты і службу служы і сябру дапамажы!

Рыгор задумаўся, пасля незадаволена кіўнуў і палез у кабіну.

— Ну, чакай!

Яго машына кранулася з месца і неўзабаве згубілася на шашы сярод такіх жа машын. Гаспадар схаваў грошы і агледзеўся.

Было вусцішна і золка. На бетонных слупах яшчэ гарэлі начныя ліхтары. Чарада варон павольна махала крылямі ў хмарным халодным небе. Часам налятаў на перамену надвор'я парывісты, куслівы вецер, узнімаў пад нагамі слупкі пылу. Чэзлыя дрэвы паабапал шашы паспелі ўжо агаліцца ад лісця. Стаяла позняя восень, але снегу яшчэ не было.

Гаспадар крануў ланцуг, і ён пакрочыў следам, зрэдку пазіраючы яму ў спіну жоўтымі ва-

чыма, у самай глыбіні якіх часам мільгала нешта каламутнае і цяжкое. Дарога, па якой яны рухаліся, вяла, дарэчы, да «птушынага рынку», ці Рабаўнічай Гары,— месца, дзе калісьці напаўлегальна, а зараз законна гандлявалі ўсялякай жыўнасцю і гаспадарчай дробяззю.

Нягледзячы на тое, што было яшчэ рана, на рынку было шмат людзей. Прадавалі і куплялі тут усё: катоў, свіней, трусоў, пародзістых і беспародных сабак, галубоў, канарэек і папугайчыкаў, варон, якія маглі вымаўляць некалькі слоў, гусей і хамякоў, паўсонных ужо вожыкаў, малявак для акварыумаў, а таксама футравыя зімовыя шапкі-кучумкі і старыя ношаныя галёшы, салдацкія боты і абажуры ў стылі «рэтра», вопратку, клеткі для звяркоў і птушак, скрыні для пасылак, дубовыя бочкі і лыжкі, венікі для лазні, пласцінкі пяцідзесятых гадоў, касеты з рок-музыкай і шмат чаго іншага.

Цэлы рад быў заняты гандлярамі, якія прапаноўвалі журавіны, познія грыбы і арэхі. Там-сям грувасціліся невялічкія купкі чагі, пукі святаянніку, валяр'яну, рамонкаў, папаратніку, кары вярбы, сушаных чарніц, чарнаплоднай рабіны, шыпшыны і іншых лекавых ягад і траў.

Кааператыўшчыкі ў суседнім радзе заклікалі купляць іх сваёй гатоўкі вырабы: шырокія, як мяхі, нагавіцы, світэры, сукенкі, фотакопіі катоў з зялёнымі д'ябальскімі вачыма, біжутэрыю.

Гаспадар пасунуўся з ім уздоўж плота, бо там было менш людзей, і скіраваў да адносна свабоднага кутка, дзе стаяла пазабіваная цвікамі будка шаўца. Тут ён разматаў ланцуг і як наймацней прывязаў яго канец да жэрдкі паміж плотам і будкай. Пасля пахукаў на азалелыя рукі і агледзеўся навокал.

Тое, што ён, Сямён Карнюшка, вырашыў падацца ў гандляры, не вельмі спадабалася яму самому, бо абяцала наперадзе шмат клопатаў, якіх не вартыя былі і грошы, а вялікіх грошай ён атрымаць не спадзяваўся. «Але ж,— думаў ён,— усё можа быць. Можа, і пакупнік добры знойдзецца на яго «тавар». І Карнюшка азірнуўся на таго, каго ён сюды прывёз.

На зямлі стаяў і пабліскваў пахмурнымі бурштынавымі вачыма воўк-трохгодка. Падгалісты, з падцягнутым жыватом, вострымі вушамі, ён не садзіўся і не лажыўся, а, насцярожана прыўзняўшы пысу, трымаўся спінай да сцяны. Сабакі пачулі яго і, захлынаючыся істэрычным брэхам, ірвалі павадкі, але ён не звяртаў на іх увагі.

Луп быў худы і занядбаны, бо кармілі яго ў апошні час дрэнна. Поўсць месцамі, асабліва на шыі, збілася, выпіналіся рэбры і вузлаватыя мышцы на лапах. Адчувалася, што справы яго кепскія, праз год-два зачахне і ціха сканае ў якую з начэй, але пакуль трымаецца за жыццё, як трымаюцца за яго ўсе жывыя істоты і людзі таксама.

Але Сямён Карнюшка і не збіраўся ацэньваць яго. Ён кляў цяпер сябе за тое, што тры гады таму не забіў ваўчаня разам з усім вывадкам, які выпадкова знайшоў у лесе ля ручая, амаль побач з вёскай. Тое, што рэдкія па цяперашнім часе ваўкі чамусьці не сяліліся ў дрымучых лясах, у нерушы, а ўсё часцей выводзілі патомства вось так, непадалёку ад чалавека,— у гэтым была таямніца.

У вывадку было пяцёра ваўчанят. Ён прынёс усіх дадому і, не зважаючы на крыкі жонкі і маўклівую пагарду Лявона, сына-васьмікласніка, узяў сякеру і панёс усіх за пуню.

На зямлі яны не разбягаліся, а гулялі: напада-

лі і абараняліся, імітавалі бойку, гірчэлі зусім як сабачыя шчанюкі, і кожнае, калі ён браў яго за шкуру за вушамі і трымаў, спрабавала кусацца, і тады ён узнімаў сякеру і гаварыў:

— Цябе, ваўчару, заб'ю, але тым уратую іншых!

Бледны Лявон стаяў і глядзеў. Спытаў толькі:

— Якіх іншых?

— А тых,— адказаў ён,— якіх гэтыя стварэнні, калі вырастуць, жыцця пазбавяць.

На што Лявон, смаркач яшчэ, заўважыў:

— Не ты ім жыццё даваў, не табе і адбіраць!

Пятае ваўчаня, самае ладнае, ён чамусьці пакінуў. За чатырох, якіх прывёз у райзаг, яму далі даведку, па якой ён атрымаў дзвесце рублёў, бо за кожнае ваўчаня, якое не дасягнула трохмесячнага ўзросту, выплочвалі па пяцьдзесят рублёў, а за дарослага ваўка — сто.

Праз тыдзень ён, ужо на падпітку, выхваляўся перад суседзямі дармовымі грашыма і запрашаў усіх паглядзець ваўчаня.

Спачатку былі салодкія хвіліны. Аб тым, што ў яго гадуецца воўк, напісала ў раённай газеце карэспандэнтка — маладая, гаваркая і, на яго думку, вялікага розуму жанчына. У старонцы аховы прыроды з'явіўся артыкул, у якім расказвалася пра калгасніка Карнюшку (ён працаваў у калгасе палязодам) і яго сябра — Лупа. Менавіта яна ўзнагародзіла ваўка мянушкай, якая і прыліпла, хаця Карнюшка прапанаваў сваю. Неяк праз год ён зноў сустрэў на дарозе знаёмы «ўазік», і там сядзела тая самая жанчына-карэспандэнт — праўда, састарэлая і заклапочаная, хаця Карнюшку пазнала, і ён тады не ўтрымаўся, спытаў: чаму менавіта Луп? Жанчына ўсміхнулася і растлумачыла, што гэта ад лацінскага лупус — воўк. І Кар-

нюшка адразу згадзіўся: а як жа, вельмі трапная мянушка.

З несамавітага чалавека ён адразу стаў вядомым. Яго з ваўком сфатаграфавалі ў газету, і Карнюшка ўзняўся на новы прыступак пакрысе затухаючай славы.

Але далей справы пайшлі горш. Луп рос і станавіўся ўсё болей неспакойнай істотай. Карнюшку давялі, што ваўчыцу яшчэ можна прыручыць, а вось самца — наўрад. «Усё роўна ўцячэ,— гаварылі яму,— як ваўка ні кармі, ён у лес глядзіць». «А ланцуг нашто?» — адказваў на тое Карнюшка.

Кармілі Лупа збольшага. «Лепш яшчэ аднаго кабанчыка трымалі б»,— не раз даводзіла жонка, але Карнюшка злаваў і гнуў сваё. А Луп рос, і таму тонкі і не вельмі моцны ланцуг замяніўся на даўжэйшы, з тоўстымі звеннямі. Пасля неаднаразовых дарэмных спроб перагрызці яго Луп пакінуў свае намаганні. А на трэцім годзе жыцця ён упершыню падаў голас.

У клубе праходзіў справаздачны сход, а пасля выступалі мясцовыя музыкі і спевакі. Карнюшка збіраўся дадому, калі пачуў раптам дзіўныя гукі. У зале таксама пачулі і пачалі перашэптвацца.

Пакуль іграў самадзейны аркестрык, Луп моўчкі ўслухоўваўся ў ледзь чутную мелодыю, а калі музыкі зрабілі перапынак і нехта расцягнуў гармонік, не вытрымаў. Ён нібы кідаў выклік, распавядаў сваю самоту маўкліваму небу ў россыпе зорак, далёкаму лесу і поўні, якая раптоўна выбегла з-за пуні і вісела ў цёмнай халоднай пустэчы.

— Г-у-у-оў-у-у-у-у!

Раптам узнялося над вёскай, над асмужанымі паплавамі і рэчкай выццё, адгукнулася рэхам у далёкім лесе.

Адразу сціхлі, перасталі гаманіць людзі ў клубе, чамусьці ўсім стала вусцішна. Музыкі, а следам і гледачы пацягнуліся да выхаду. У хатах старыя пералажагналіся, а немаўляты прачнуліся і пачалі енчыць і плакаць.

— Што здарылася?

— Карнюшкаў воўк вые.

— А я ваўкоў і не чуў ніколі!

— Малады, таму і не чуў. І не дай бог чуць.

— О-у-у-у-у-у-у-у-у-у!

Луп цягнуў спачатку хрыпла і няўпэўнена, але потым адолеў адну даўгую і чыстую ноту, і голас яго ўзнімаўся ў вышыню і, здаецца, рассякаў халоднае восеньскае паветра.

Карнюшка ўспомніў, як ён прыбег раззлаваны дадому, і не стрываў — хвастануў ваўка палкай, але Луп таргануў пашчэнкамі, і палка з храбусценнем пераламалася. Яму стала ніякавата, нават страшна, і ён задумаўся: а што рабіць з ваўком далей? Забіць і здаць шкуру ў райзаг? Але там, пэўна, таксама чыталі газеты і бачылі здымак. Што яны скажуць? Бадай, і грошай не выплацяць,— меркаваў ён.— Знойдуць прычыну, ім жа абы не заплаціць. Пачнуць круціць: маўляў, воўк, нібы сабака, сядзіць на ланцугу, ручны, дык, пэўна, ужо і не воўк. Ім закон — сваяк, а мне — чужынец. Злупіць шкуру на шапку таксама нялёмка, бо суседзі пачнуць кпіць. Пачнецца такая плявузгота...

Ноччу Луп зноў выў, але Карнюшка ўжо не стаў паднімацца з ложка — чорт з імі з усімі. Ён слухаў, як злосна мармытала нешта жонка, глядзеў, як хмары ў акне то засланялі месяц, то ён зноў вісеў у небе, як цені ад дрэва варушыліся па сцяне, і ўсё гэта пад ваўчынае выццё, ад якога беглі па скуры мурашкі і хацелася стаць зусім

малым і непрыкметным і закапацца ў якую нару.

З раніцы вёска падзялілася на два лагеры. Людзі сталага ўзросту патрабавалі ад Карнюшкі зрабіць што хоча, але каб больш выцця па начах не было. Другі, меншы, лагер аб'яднаў маладых дзяўчат і хлопцаў на чале з мясцовым настаўнікам Тамковічам. Яны пачалі абараняць Лупа — дзе яшчэ пачуеш такое дзіва? Толькі ў іхняй вёсцы. Настаўнік Тамковіч, які выкладаў у школе біялогію і якога ў вёсцы лічылі злёгку прыдуркаватым, гаварыў, на думку старых, зусім недарэчнае. Быццам мы ўсе страцілі пачуццё супольнасці з Прыродай, а ваўчынае выццё нібы зноў вяртае нас да тых далёкіх часоў, калі чалавек быў самнасам з вечнасцю. Свае думкі ён абгрунтоўваў тым, што, маўляў, у Канадзе, а там жыў яго сваяк, які зрэдку слаў яму пісьмы, турысты прапануюць добрыя грошы, каб іх звазілі ў тундру, дзе яны ноччу слухаюць ваўкоў, якія блукаюць непадалёку ад іх вогнішчаў, і што за мяжой нават выдаецца часопіс, які так і называецца — «Выццё».

Але настаўнік Тамковіч не меў аўтарытэту ў большасці вяскоўцаў, бо ён быў не тутэйшы, не хацеў жаніцца і заводзіць гаспадарку і жыў, на іх погляд, абы-як. Тым не менш Карнюшку трэба было нешта вырашыць. Вось тады і паспела ў яго думка прадаць Лупа на рынку, як звычайнага сабаку.

*10 гадзін.*

Пакрысе вакол Лупа і яго гаспадара сабраўся натоўп. Чутка аб тым, што прадаюць жывога ваўка, абляцела рынак.

Луп па-ранейшаму стаяў спінай да сцяны. Ён не збіраўся класціся на зямлю, нібы сабака, хоць

і стаміўся. Яшчэ ніколі ў сваім жыцці ён не бачыў столькі жывых істот. Ён быў чужынцам і тут, на рынку. Людзі тыцкалі ў яго пальцамі, а сабакі аж заходзіліся ў брэху, вядома, на бяспечнай ад яго адлегласці. Але Луп ненавідзеў і пагарджаў імі, як пагарджаюць тымі, хто значна ніжэйшы за цябе.

Вясковыя сабакі надакучвалі яму і раней. Яны вольна бегалі за плотам, брахалі, пачуўшы яго, але болей па звычцы; пакідаючы меткі, з нахабнай знявагай пырскалі на плот мачой і ўрэшце знікалі. З часам Луп навучыўся не звяртаць на іх увагі. І зараз любога з іх, калі б выпала, ён разарваў бы на кавалкі, нават вялікага і дужага. Як знішчыў ён аднойчы Рэкса.

Луп, вядома, не мог ведаць, што блатнаваты суседскі хлопец Віталь, уладальнік Рэкса, уплываў на Лявона, які вучыўся ўжо ў прафтэхвучылішчы і якраз прыехаў на канікулы; што гэты Віталь іншы раз біў Лявона проста так, каб баяўся, а потым зноў наближаў да сябе — прыручаў. Тады яны якраз хадзілі разам і Віталю карцела ведаць, хто мацнейшы: аўчарка ці воўк? Яны выбралі час, калі Карнюшка з жонкай пайшлі з дому, і нацкавалі іх.

Рэкс быў рослы і смелы сабака, мацнейшы за ваўка. Яго не забываліся карміць штодзень і не раз, і да таго ж ён быў старэйшы ледзь не на два гады і больш вопытны, таму што на ланцугу яго трымалі мала. Ён шмат вандраваў ля вёскі, асабліва летам. Усе навакольныя сабакі баяліся яго.

Пачуўшы ваўка, чатырохгадовы Рэкс пачаў ірваць павадок, сіпеў і гірчэў — імкнуўся ў бойку. Лявон так і не рашыўся зняць з яго, Лупа, ланцуг, на што ён вельмі спадзяваўся. Таму ён адразу і апынуўся ў небяспецы, калі ў загарадку з рыкан-

нем уляцеў Рэкс, якога Віталь наўмысна спусціў з павадка. Ланцуг блытаўся між лап і абмяжоўваў манеўр. Але ж калі Рэкса і магчыма было чым-небудзь спужаць ці прымусіць адступіць, то яго, Лупа,— не, бо ён не ведаў страху, нават перад людзьмі, бо і яны былі для яго ў чымсьці разгаданымі, а значыць, зусім не страшнымі істотамі.

Яны схапіліся грудзі ў грудзі і пакаціліся па зямлі. Рэкс добра пад'еў раніцай, быў увогуле цяжэйшы, таму праз якую хвіліну паваліў яго, пракусіў лапатку і падбіраўся ўжо да горла, але ў абодвух яно было абаронена аброжкамі, што не давала ніводнаму з іх хуткай перамогі. Мо тады, пад сабакам, які люта гірчэў над ім, ён раптам упершыню адчуў свае адзіноцтва і безабароннасць у гэтым назаўсёды варожым яму свеце, але адчуванне было імгненнае і хуткаплыннае, як маланка. Ён тады зразумеў — такі яго лёс і доўга біцца яму не выпадае: Рэкс перагрызе яму жылы на лапах ці дабярэцца да жывата і — канец. Лютасць перапаўняла абодвух, бо сутыкнуліся прадстаўнікі смяротна варожых відаў. Ашаломленыя хлопцы нібы спруцянелі, назіраючы за бойкай.

Чыстапароднасць Рэкса таксама выключала боязь і псіхалагічную няўстойлівасць — любы дварняга з прымессю іншароднай крыві спачатку абмачыўся б ад страху, а потым падставіў бы горла, бо воўк — гэта ўсё-такі воўк — дзікі і злосны звер.

Рэкс, дарэчы, браў верх, а ён, Луп, задыхаўся (седзячы другі год на ланцугу, ён быў пазбаўлены руху, і гэта цяпер адбівалася), і здаецца, тут яму і пагібель, але ж інстынкт і вопыт шматлікіх пакаленняў зрабілі сваё. Ён падкурчыў задніх лапы і з усіх сіл тарганўў імі, калі адчуў цёплы, мяккі і безабаронны жывот ворага. Так звычайна ро-

бяць ваўкі, нападаючы на буйную жывёлу, калі кідаюцца падніз і хапаюць за горла. Рэкс заскуголіў і адваліўся ад яго, залівачы крывёю ўтаптаную брудную зямлю. З разверненага жывата пацягнуліся кішкі.

Вечарам у той жа дзень аўчарку прыстрэлілі і закапалі пад яблыняю.

Чутка аб яго перамозе абляцела ўсю вёску, і ён чакаў тады нейкай для сябе кары, але нічога такога не здарылася. Гаспадар нават прынёс аднекуль горкага на смак (ён паспрабаваў языком) парашку і пасыпаў яму на разарваную лапатку, бо над ранай ужо нахабна зазвінелі мухі, якіх прыходзілася бесперапынна адганяць, і ён не мог адпачнуць. Пасля парашку мухі зніклі, і ён заснуў у будцы, куды Гаспадар дагэтуль кінуў свежаскошанага сена. Пахі травы прынеслі яму дзіўныя і трывожныя сны. Яму прыснілася, што быццам на ім не было ланцуга, сніўся поплаў за парканам, ён хутка ачуўся і доўга не мог супакоіцца, ▪ калі зноў заснуў, то яму ўжо снілася, што ўсе хадзілі з ланцугамі на шыях. Нават людзі вадзілі адзін аднаго на ланцугах. Прачнуўшыся, ён тады ў каторы ўжо раз паспрабаваў ікламі жалезныя звенні і, паступова раздражняючыся, пачаў разглядаць праз драцяную агароджу падворак, па якім хадзілі куры, качкі і індыкі, а потым жонка Гаспадара выгнала свінню і падсвінка.

Чаму ж істоты, якіх ён сустракаў, хадзілі без ланцугоў, нават куры і надзьмутыя індыкі, якімі ўсе пагарджалі? Ён не раз з нянавісцю сачыў за імі праз агароджу і ўяўляў, што зрабіў бы з імі, каб не ланцуг, бо праз агароджу ён бы з лёгкасцю пераскочыў. Як завішчэла б дурніца свіння і кінуўся наўцёкі нахабны падсвінак, які з самаўпэўненым рохканнем капаў лычом ў зямлі, як раз-

ляцеліся б у смяротным страху пустагаловыя куры і індыкі. Але яны не звярталі на яго ніякай увагі, нават іншы раз спароўваліся ў яго на вачах.

Цяпер, на рынку, ён зноў ненавідзеў усіх: занадта цікаўны натоўп, сабак, што захлыналіся ад брэху, нават Гаспадара з яго вострым, хітраватым тварам. А Гаспадар быў усё-такі істотай вышэйшага парадку. Калі б Луп быў таксама такой жа істотай і мог растлумачыць свае пачуцці з пазіцыі розуму, ён бы вызначыў тое, што часам адчуваў да Гаспадара,— як нейкі рэлігійны экстаз. Але, тым не менш, іншы раз ён грэбаваў і пагарджаў ім.

Сабакі асабліва назалялі яму. І калі на яго аднекуль з віскам выскачыла махнатая курацапая балонка (яна, пэўна, была смялейшая, але ж і дурнейшая за ўсіх), ён нават не варухнуўся, толькі выскаліў вільготныя іклы і матнуў цяжкай галавой, і сабачка істэрычна завішчаў і кінуўся прэч пад нечыя ратавальныя ногі.

— Дурную сучачку і ваўком не спалохаеш! — пракаменціраваў Карнюшка.

Навокал засмяяліся.

Што ж, у гэтым варожым свеце Луп і не чакаў іншага. Вось толькі чаму Гаспадар прывёз яго сюды на пачварнай грукотнай машыне? Мо тут з яго ўрэшце здымуць ланцуг, які, дарэчы, перашкодзіў яму ўцячы раніцай на дарозе?

Яны выехалі, калі яшчэ было цёмна. Неўзабаве дарога пацягнулася праз лес і машына запаволіла ход. З хваляваннем ён лавіў незнаёмыя пахі. З маленства пазбаўлены волі, ён усё-такі захаваў памяць аб сваім доме, памяць пакаленняў, якія існавалі да яго. Ён нервова замітусіўся і хваляваўся ўсё больш, пакуль, урэшце, рашучасць перамаг-

ла, і тады скочыў праз борт, адчуў штуршок — ланцуг затрымаў яго і пачаў душыць, і ён біўся аб борт і хрыпеў. Гаспадар з Рыгорам адчулі благое, і машына спынілася. Першы выскачыў Рыгор, а за ім — Гаспадар. Рыгор збегаў па рукавіцы, і яго запіхнулі назад у кузаў, падкарацілі ланцуг, і тады ён ужо не глядзеў больш па баках — ні на бледны месяц, які паступова знікаў, раствараўся ў асмужаным небе, ні на маўклівы лес, а лёг на бок, адкінуў, нібы мёртвы, галаву і заплюшчыў вочы.

...Сямён Карнюшка зноў быў у цэнтры ўвагі. Гаспадары і пакупнікі, малыя і старыя, розныя людзі абступілі яго і Лупа шчыльным кальцом, але блізка ніхто не падыходзіў.

Да Карнюшкі праціснуўся няголены малады мужчына, у якога з-пад кажуха выторквалася кволая галоўка шчанюка пароды мексіканскі тэр'ер. Пачуўшы звера, шчанюк тонелька вішчэў і імкнуўся выслабаніцца.

— Сапраўды воўк?

— Не, Чырвоная Шапачка,— з'едліва адказаў Карнюшка.

У натоўпе засмяяліся, загаманілі. Пытанні пасыпаліся з усіх бакоў.

— Прадаеш, ці як?

— Прадаю.

— А колькі хочаш?

— Восемдзесят.

Карнюшка яшчэ дома вырашыў прасіць восемдзесят рублёў, бо сто — гэта прэмія за дарослага ваўка. А калі дадуць семдзесят ці шэсцьдзесят, нават пяцьдзесят — таксама добра. А вось меней — не, не прадаваць.

— А што ён можа?

— Тое, што і сабака. Ахоўваць двор, не пускаць чужых у дом.

— А брэша ці не?

— Не, не брэша,— неахвотна прызнаўся Карнюшка.

— Ваўкі выюць,— растлумачыў нехта.

Карнюшка адразу ўспомніў, што ў яго апошні час былі непрыемнасці з суседзямі. Луп меў звычку выць перад захадам сонца, апоўначы і раніцай. Гаварыць пра ўсё гэта тут, на рынку, было не варта, і Карнюшка схлусіў:

— Выюць тыя, хто ў лесе. Мой — не.

— І хвастом не віляе?

— Віляе, калі ў гуморы, калі корміш.

З натоўпу ўпікнулі:

— Не вельмі ты яго корміш. Вунь які нягеглы!

— Купляй і кармі ад пуза,— адпарыраваў Карнюшка.

— А пакусаць можа?

— Запраста,— сказаў Карнюшка.— Хто не верыць, можа падысці бліжэй і пераканацца.

— Няма дурных, шукай другіх!

— А цябе не спрабаваў калі ўкусіць? — спыталі з натоўпу.

— Гаспадара не кусае.

Праз натоўп прасунуліся бліжэй высокі мажны даўганосы мужчына з гожым тварам і хлопчык, які трымаў яго за руку. Мужчына быў апрануты ў плашч, шыракаполы капялюш насунуты на лоб. Усмешлівыя вочы ўпэўнена глядзелі навокал. Хлопчык, вельмі падобны на яго, светлавалосы і круглагаловы, здзіўлена ўталопіўся ў Лупа.

— Ваўка прадаеш, дзядзька? — гучна спытаў мужчына.

Гаварыў ён па-мясцоваму, як гавораць у вёсках, і ў натоўпе адразу прыслухаліся, ажывіліся. Хаця

мужчына звярнуўся да яго так панібрацкі, усміхнуўся раптам і Карнюшка.

— Самы сапраўдны звер,— сказаў ён.

— Хм, а якое ты маеш права трымаць яго на ланцугу?— спытаў мужчына, і нават Луп узняў галаву і змрочна зірнуў на яго.

Карнюшка зноў усміхнуўся, але няўпэўнена.

— А вы хто такія, прабачце, будзеце? — нясмела спытаў ён. Яму раптам нагадалася, што мажны мужчына ў доўгім плашчы і чорным капялюшы з таварыства аховы прыроды ці ўвогуле з міліцыі. Цяпер, з ваўком побач, Карнюшка быў не зусім упэўнены ў правамоцтве сваіх дзеянняў.

Мужчына незалежна абвёў усіх вачыма.

— Што ж, дазвольце прадставіцца. Я Наркевіч, акцёр абласнога тэатра, у якім ты (ён кіўнуў на Карнюшку), пэўна, ні разу не быў. Выконваю ролі каралёў, імператараў і іншых уплывовых асоб.

Хлопчык таргануў яго за руку і паказаў на Лупа.

— Чаму ён так злосна глядзіць?

— А гэта сын мой, Ігар,— растлумачыў усім Акцёр, нібы працягваючы сваю напаўжартоўную гульню ў шчырасць і наіўнасць і ўносячы тым самым нейкую тэатральнасць у тое, што адбывалася.

— Вось жадае набыць сабе сябра, ну хоць хамяка якога, ці што.

— Каго? — перапытаў Карнюшка. Пазбавіўшыся ад падазрэнняў, ён адразу супакоіўся.

— Жывёліну,— зычліва растлумачыў Акцёр.— Яна ж лепшы сябар. А ён любіць розных звяркоў. Таму сюды і прыйшлі.

— Тата,— заенчыў раптам Ігар, і шчокі яго зачырванеліся ад усхваляванасці,— не трэба хамяка, давай вось яго купім,— і ён тыцнуў пальцам у Лупа.

— О, сын мой, сын мой,— сказаў Акцёр, у той жа час заклікаючы ў сведкі ўвесь натоўп,— няўжо ты хочаш стаць падобным на апантанага, які не ведае, што вытварае (ён тыцнуў нечакана невялікай, пухлай рукой у Карнюшку), і трымаць на ланцугу вольнага звера?

— Я потым яго адпушчу,— сказаў Ігар,— ну, толькі крыху патрымаю.

У натоўпе прыслухоўваліся. Карнюшка ажывіўся. Ён і не думаў крыўдзіцца.

— Прашу нядорага,— сказаў ён лісліва,— восемдзесят рублёў. У вас дача, пэўна, ёсць, вам вартаўнік патрэбны. Воўк якраз падыдзе.

— Тата,— зноў страпянуўся Ігар,— купім, га?

— Навошта ён табе? — здзівіўся Акцёр.— Пацешыцца перад сябрамі? А дзе трымаць, чым карміць?

— Казаў, купіш усё, што захачу,— з крыўдай выціснуў Ігар.

*11 гадзін.*

Акцёр набраў паветра ў грудзі і хацеў ужо сказаць, што ў яго кішэні толькі чырвонец, але стрымаўся, бо ўражанне ад яго самога тады сапсавалася б у вачах усіх гэтых людзей. А ён любіў выглядаць велічным, шыкоўным і шчырым. Ён сапраўды быў акцёрам абласнога тэатра, але хлусіў у іншым, бо апошнім часам ужо не выконваў роляў ні каралёў, ні імператараў, ні нават дырэктараў заводаў ці начальнікаў цэхаў. Добры, мяккі, хаця іншы раз і рашучы, ён любіў багемнае жыццё, любіў карты з блізкімі сябрамі, каньяк і марачны вермут, які называў «бермутам». Апошні час «пулькі» распісваліся аж пад раніцу, невялікія і так грошы прайграваліся ці ішлі на выпіўку. А калі

грошы канчаліся — таксама не бяда. Ён быў папулярны ў горадзе, і яго запрашалі ў госці калятэатральныя «дамы напаўсвету» і дробныя правінцыйныя снобы, якім было прэстыжна і прыемна прымаць яго ў сябе дома. Па наіўнасці і нейкай інфантыльнасці ён не ведаў, што рабілася ў яго за спінай, а там збіраліся хмары, і рэжысёр якраз нашаптаў дырэктару, што Наркевіч на рэпетыцыях спіць, і ад яго іншы раз пахне гарэлкай, і што гэта становіцца ўжо непрыстойна. Таму і было для яго як гром пасярод яснага неба адлучэнне ад першых роляў.

Акцёр пакутаваў, закінуў на нейкі час піць вермут, нават абвясціў, што кароль усіх він — партвейн, але не ўлічыў таго, што бяда адна не прыходзіць. Жонка пайшла ад яго і забрала з сабой сына.

Акцёр пачакаў з тыдзень, а потым накіраваўся да цешчы, дзе жыў цяпер яго «народ», але памілавання пакуль што не атрымаў. Тым не менш сына адпусцілі з ім на дзень, і вось ён тут, на птушыным рынку.

— Пачакай, Ігар,— сказаў Акцёр сыну,— давай спачатку разбяромся, што робіцца на белым свеце.

— Татка, табе абы пасмяяцца!

— Калі вам трэба хамяка, я вас адвяду да свайго сябра, тут недалёка,— параіў Акцёру мужчына са шчанюком тэр'ера за пазухай,— у яго ёсць добрыя экземпляры.

Да іх праціснуўся старэнькі ў лінзах-акулярах, якія трымаліся на буйным носе. Пра такія насы звычайна кажуць: дзюба. Ён агледзеў усіх маленькімі, як у крата, вочкамі, якія здаваліся яшчэ меншымі праз лінзы, і дадаў:

— Паслухайце мяне, не бярыце іх больш як

два, бо самкі звычайна адкусваюць самцам хвасты. Паверце, відовішча не з прыемных.

— Хм,— сказаў Акцёр.— Трызню я, ці гэта сон? Якія хвасты? Якія самкі? А вы хто такі?

— Я жыву непадалёку, мяне тут усе ведаюць, завіце проста дзядзька Федзя,— прадставіўся стары.— Я зараз пенсіянер, звычайны мешчанін, як кажуць. Не бачу, дарэчы, у гэтым слове нічога кепскага.

— І я не бачу,— сказаў Акцёр.— Давай да нас, Мешчанін, будзеш нашым дарадчыкам.

Той радасна заўсміхаўся, нібы яго ўзнагародзілі, і стаў побач.

Мешчанін сапраўды жыў побач, у прыватным доме, які чамусьці, як калі-нікалі бывае, не закранулі новабудоўлі, і хата яго з шасцю соткамі зямлі засталася стаяць паміж новымі шматпавярховымі дамамі. Калісьці Мешчанін працаваў аграномам. Дзеці яго раз'ехаліся па свеце, жонка памерла, і Мешчанін займаўся тым, што разводзіў жывёл, выпісваў і вывучаў з гэтай нагоды спецыяльную літаратуру. Птушыны рынак быў яго і горам і захапленнем.

— Кожны тыдзень сюды хаджу, а каб ваўка на продаж прывялі — упершыню бачу,— сказаў Мешчанін.

— Ну, з гэтага дзіва ні гарэлкі, ні піва!

— Чаму, на ўсё пакупнікі знаходзяцца!

— У бога дзён многа — мо хто і купіць.

Прыкметна ўжо развіднела, і восеньскае неба раз-пораз агалялася ад хмар якім сваім кавалачкам, і тады на зямлю, на твары людзей падаў рахманы і недаўгавечны сонечны прамень. Чалавечая стракатая рознагалосіца няспешна віравала навокал.

Да іх гуртка звярнуўся высокі, худы мужчына з жоўтым хваравітым тварам.

— У мяне таксама пытанне,— сказаў ён.— Тут, я бачу, ёсць дасведчаныя людзі.

— Што за пытанне? — пацікавіўся Акцёр і працягнуў таму далонь.— Давайце пазнаёмімся, я ж адчуваю — мы інтэлігентныя людзі.

— Міронін,— усміхнуўшыся, сказаў мужчына з жоўтым тварам і дадаў: — А я вас ведаю, бачыў калісьці ў «Рычардзе III». Я ў машынабудаўнічым тэхнікуме працую, філасофію выкладаю.

— А, дык ты Філосаф,— проста, як старажытны рымлянін, сказаў Акцёр.— А калі так, то растлумач нам, што тут адбываецца. Дзе я, людзі?

— Тата, пакінь!

— Мы з вамі на рынку,— не здзівіўся Філосаф.— А рынак, калі пільна ўгледзецца,— гэта мадэль чалавецтва. Тут людзі на розны густ і ўсе жывёлы з Ноева каўчэга.

— Так,— пацёр далоні Акцёр.— А ты навошта тут?

Філосаф закурыў чарговую цыгарэту.

— Дачка малая захварэла. Кажа, хачу птушку, каб скакала побач і спявала. Мяркую, як цяпер дзіцяці дагадзіць. Хіба ж я ведаю, якую птушку купіць?

— Я дапамагу,— з годнасцю пасунуўся да яго Мешчанін.— Я ў гэтых справах спецыяліст.

— Так, слухаю,— ажывіўся Філосаф.

— Птушкі адрозніваюцца па спосабу харчавання. Адны зерне ўжываюць, другія — насякомых, трэція — мёд, плады ці нават рыбу. Лепш купіць тую, што ўсім пакрыху харчуецца. Напрыклад, сініцу. Я бачыў, тут прадае адзін. Ёй крыху насення, вітамінаў, і яна будзе спяваць. Можа, і не так

прыгожа, як канарэйка, але ж і сініца спявачка вядомая.

— А вітаміны якія? — зацікавіўся Філосаф.

— З групы дэ. Калі іх не даваць, птушка загіне. Купіце сініцу. Як у доме без жывёлы?

— Чуеш, тата? — таргануў за рукаў Акцёра сын.

— Толькі ваўка ў дом засталося прывесці,— сказаў Акцёр.— Узрадуецца цешча.

У натоўпе засмяяліся.

— Бадай, згодны на сініцу,— сказаў Філосаф Мешчаніну.

— Зойдзем потым да мяне, я вам і зерня дам на першы час,— адобрыў той.

— Вельмі ўдзячны,— сказаў Філосаф і задумаўся. Ён затушыў недакурак і машынальна закурыў новую цыгарэту. Пальцы ў яго былі жоўтыя ад нікаціну.

Філосафу, як ахрысціў яго Акцёр, было за трыццаць. Але ён усё яшчэ не мог трывала ўладкавацца ў жыцці, што даўно зрабілі яго аднагодкі і былыя аднакурснікі.

Філосаф жыў у інтэрнаце для маласямейных з жонкай і хворай дачкой. Зарабляў ён не так ужо і многа, але мусіў, як шмат такіх жа гаротнікаў, трываць, пакуль не атрымае кватэру. Птушыны рынак, які ён бачыў упершыню, зрабіў на яго моцнае ўражанне. Ён ніколі б і не здагадаўся, што ў вялікім горадзе побач з людзьмі і незаўважна ад іх можа існаваць столькі жывых істот, якіх прынеслі, прывялі ці прывезлі сюды людзі, каб прадаць, абмяняць ці неяк інакш спажыць для сваёй карысці. Філосаф і сам пакутаваў ад хваробы,— парадантозу,— у яго днямі вырвалі некалькі зубоў, настрой у яго быў кепскі. Але воўк на ланцугу, хмарнае халоднае наваколле і хвароба — усё

гэта нейкім чынам уносіла ў яго душу адзіны сумны матыў і чамусьці супакойвала.

— Воўк увогуле лішняе звяно ў прыродзе,— звярнуўся Філосаф да Карнюшкі,— а калі ён усё-такі існуе, то павінен жыць там, дзе нарадзіўся.

— Многа ён у лесе пражыве,— скрывіўся Карнюшка,— заб'юць і прэмію атрымаюць.

— А заапарк навошта? Калі здаць туды небараку, дык і яму будзе добра, і грошы атрымаеш.

— А дзе той заапарк? Няма.

Філосаф задумаўся. Сапраўды, ён не ведаў паблізу ніводнага заапарку.

— Негуманна на ланцугу цягаць,— буркнуў Акцёр.

Мешчанін падтрымаў:

— Якая там гуманнасць! Вось я днямі чытаю ў паважанай газеце: паляўнічы пасткамі злавіў некалькі лісіц. А ў некаторых, хваліцца, лапы засталіся. А што адчувае жывёла, адгрызаючы сабе лапу?

— Калі квезала (птушка такая) пазбавіць волі, яна памірае ад разрыву сэрца,— сказаў Акцёр. Ён не ведаў, што гэта за птушка, але помніў выраз з нейкай ролі.

— А вы не задумваліся, што есці жывёл, такіх жа жыхароў планеты, як і мы, па меншай меры неэтычна? — спытаў Мешчанін.— Леанарда да Вінчы, напрыклад, не еў.

Акцёр фыркнуў.

— А што зробіш? Таблетак такіх пакуль няма, каб праглынуў — і сыты. Я не гурман, згодзен і на таблеткі.

— Усякае жыццё свяшчэннае,— сказаў Мешчанін.

— Як жа тады яго асноўны закон? — спытаў Філосаф.

— Які закон? — зацікавіўся Акцёр.

Філосаф выдыхнуў дым.

— Натуральны адбор. Адно жыццё адвяргае іншае. Слабейшы гіне.

— Калі ўсякае жыццё свяшчэннае, то навошта клапы, тараканы? — пасунуўся да іх мужчына з тэр`ерам.— Што нам іх існаванне?

— Пэўна ж, ёсць нейкі сэнс,— сказаў Філосаф,— некаторыя віды жывуць і па чатырыста гадоў. Шэрая варона, напрыклад, ці чарапаха.

— Крыўдна,— абурыўся Мешчанін.— Я памру хутка, а нейкі клоп нас усіх пераражыве.

— Ведай, мала адпушчана чалавеку,— важна сказаў Акцёр.— Узнавіў да сябе падобных і памры!

У натоўпе заварушыліся, засмяяліся, загаманілі кожны сваё.

— Каб чалавеку жыць далей, яму ўсё больш трэба бялку,— сказаў Філосаф,— насельніцтва ж расце. Навошта тады нам воўк у экалагічнай нішы? Няхай яго месца зойме авечка.

Мешчанін захваляваўся:

— А як тады мядзведзі, рысі, совы, коршакі? Усе ж яны мясам харчуюцца! Дык што, усіх пад корань? Мо і кітоў — яны ж таксама бялок ужываюць, хаця і раслінны?

— На тое флатылія «Слава»,— сказаў Акцёр.— Нават оперу стварылі, фільм каляровы паставілі. Гранатамі кітам у спіны — і ўсё пад музыку! Я, між іншым, такога ніколі не прыму!

— Кіты ўплываюць на клімат усёй планеты,— заўважыў Мешчанін.

Філосаф выкінуў недакурак.

— Свет хаатычны, ім ніхто не кіруе,— падвёў ён вынік.— Цягнік ляціць, а наперадзе бездань і машыністаў даўно няма.

Акцёр стаў у позу:

— Чытаю днямі ў кнізе: каго мы возьмем з сабой у наасферу? І далей пералік ідзе. Таго ашчаслівім, а другога на той свет накіруем. Мядзведзя, магчыма, возьмем, бо ён толькі ранняй вясной мяса ўжывае, а потым — вегетарыянец, а ваўка ці там рысь не возьмем. Так вось. А сам ці трапіць туды, малпа дурная? Я чалавека маю на ўвазе. Бо хто ён, як не саманадзейная малпа? І Чарнобыль нічому не навучыў! У наасферу, бач ты, сабраліся. Пакуль тое, дык адны клапы і застануцца. Казаў жа калісьці Дастаеўскі, што вечнасць, магчыма, будзе звычайнай лазняй з павукамі па вуглах!

— Брава! Вось гэта прамова! Ніколі такога і не чуў!

Да іх купкі, а некаторыя, паглядзеўшы на Лупа, разыходзіліся, падышоў малады хлопец. Высокі, сутулаваты, ён з цікавасцю агледзеў ваўка і людзей навокал жоўтымі, шырока расстаўленымі вачыма. Светлыя валасы яршом стаялі над яго лобом.

— Іш, ваўчара,— сказаў ён ласкава.— Прадаецца?

— Купі,— вяла прапанаваў Карнюшка.

— Няма купіла,— усміхнуўся той.

Акцёр заўважыў:

— Вочы ў цябе і ваўка падобныя, аднолькавыя, ці што.

— Я ж не зяруга які, а звычайны студэнт. Так вось, дзядзька.

— Калі адзін від занадта размножыцца, то ён натуральна пагражае іншым,— зноў пачаў мужчына з тэр'ерам,— а вось што з ім самім потым будзе?

— Пакуль такое назіраецца толькі за чалавекам,— сказаў Акцёр.

— Я гадоў пяць таму і трусоў біў, і свінню мог шылам у сэрца, а цяпер не, не магу,— умяшаўся раптам Студэнт.— Прыеду ў вёску да маці, да сваякоў і, як ні ўпрошваюць, не магу.

Студэнт паглядзеў на Лупа, сустрэўся з ім позіркам і адвёў вочы першы. Ён раптам успомніў, адкуль ідзе, з кім быў некалькі гадзін запар, і нібы гарачая хваля падступіла яму да сэрца. Студэнт быў закаханы і правёў ноч са сваёй дзяўчынай, але вымушаны быў рана пайсці ад яе, бо яна жыла ў асобным пакойчыку ў інтэрнаце, куды ён вечарам ледзь-ледзь прайшоў, бо пасварыўся з вахцёркай. Цяпер ён быў у тым асаблівым узрушаным настроі, калі хочацца зрабіць нешта добрае, значнае, і забрыў сюды, на рынак, проста так, але смела далучыўся да падзей, якія разгортваліся перад ім у гэтым кутку, адкуль пабліскваў на яго вачыма воўк, да якога ён таксама адчуваў нейкую незразумелую сімпатыю.

— Пэўна, з узростам, са свядомасцю прыходзіць і спачуванне,— сказаў Акцёр.

— У каго як,— кпліва кіўнуў на Карнюшку Мешчанін.

Карнюшка зразумеў:

— А ён што, травой харчуецца? На волі толькі і робіць, што забівае!

Філосаф пакратаў зуб і паморшчыўся.

— У яго праграма — санітарныя функцыі выконваць, ён жа драпежнік. Але ў наш час ён не патрэбны.

Мешчанін захваляваўся:

— А многа іх у нас, ваўкоў? Ну, тысяча ў рэспубліцы, не больш. А сабак у горадзе тысяч трыц-

цаць будзе, а на Зямлі, чытаў, больш як паўмільярда. Колькі яны таго ж бялку з'ядаюць?

Філосаф падумаў і прызнаў:

— Так, ланцуг — гэта занадта. Забі, а не катуй.

— Дзіўная логіка,— усміхнуўся Студэнт.

— А ты ведаеш, што такое воля? — раптам пыхліва спытаў Карнюшку Акцёр, і ўсе навокал заківалі галовамі, загаманілі: «Так, так, воля...»

— Вам, вучоным, відней,— сказаў Карнюшка.

— Дык вось, воля,— Акцёр на секунду задумаўся, усміхнуўся і працягваў шматзначна,— воля — гэта пазнаная неабходнасць!

Ён узняў палец і звярнуўся да Філосафа:

— Правільна я кажу?

— З погляду класікаў правільна.

Мешчанін пакутліва зморшчыў лоб і хацеў нешта сказаць, але яго апярэдзіў Студэнт.

— Давайце прымем радыкальнае рашэнне і пакараем яго за пазбаўленне волі,— Студэнт кіўнуў на Карнюшку.

— Не маеш права,— узлаваўся той, тым не менш ашаломлены неспадзяваным націскам.

Луп па-ранейшаму стаяў спінай да плота і раўнадушна пазіраў на натоўп. Ён амаль супакоіўся, але быў усё-такі насцярожаны, бо нешта падказвала яму, што ўвесь гэты гармідар мае дачыненне да яго. Ён адчуваў моцны голад, але Гаспадар не думаў пакуль што карміць яго. Яму хацелася легчы, бо ён стаміўся, але падсвядомае адчуванне сваёй выключнасці, нейкай засцярогі перашкаджалі яму. Луп трываў, чакаў, калі ўсё скончыцца і Гаспадар пойдзе з ім дамоў ці куды-небудзь яшчэ. Ён прывык трываць. Прама перад сабой ён бачыў хлопчыка (гэта быў сын Акцёра), які ўвесь час сустракаўся з ім позіркам, і Луп пакрысе пачаў адчуваць нейкую раздражнёнасць.

*12 гадзін.*

— Пара.

Мастак апрануў на світэр куртку, зверху штармоўку і ўскінуў за плечы рукзак.

Рыта таксама пачала апранацца.

— Праўду цябе крыху, усё роўна ў магазін трэба.

Мастак паморшчыўся, але кіўнуў у знак згоды — ён не любіў праводзін.

Яны выйшлі на вуліцу, і халодны паўночны вецер адразу накінуўся на іх, разлахмаціў валасы. Між дамоў, нібы ў аэрадынамічнай трубе, ён быў асабліва дакучлівы і ўчэпісты.

— Што, пойдзеш праз рынак?

— Рынак не яма — пайду прама...

Яны спыніліся ля таго месца ў агароджы, дзе жалезны прут быў выламаны і да дзіркі вяла сцежка. Туды і назад пралазілі час ад часу людзі.

— Так бліжэй, адразу на прыпынак выйду.

Мастак прыхіліў да сябе жонку. Яе нос даставаў якраз да верхняга гузіка яго штармоўкі.

— Мужчыны не ведаюць, што такое чакаць,— сказала Рыта.— Я баюся чамусьці.

— Прымхі,— усміхнуўся Мастак.— А калі б ты была жонкай марака, бортправадніка ці футбаліста?

Ён махнуў рукой і палез у дзірку. Амаль праз дзесятак крокаў плынь рынку праглынула яго. Нейкі маладзецкага выгляду дзяцюк адразу прапанаваў яму ношаныя боты за пяць рублёў і ватоўку за чырвонец; пацягнуліся рады гандляроў-кааператараў, падлеткі са шчанюкамі, дзядзька з ваўёркай у дротавай клетцы. Таксама ў клетцы, толькі драўлянай, прадавалі ястраба з падрэзанымі крыламі. З кардонных скрынак вытыркаліся

трусіныя вушы. З другога канца рынку чутны быў віск — прывезлі свіней.

Мастак ямчэй ускінуў рукзак і пайшоў праз натоўп, часам спыняючыся і ўглядаючыся ў тое, што міжволі цікавіла яго. Спачатку, як толькі яны з Рытай атрымалі ў гэтым раёне кватэру, ён часта заходзіў сюды — паназіраць. Але выгляд жывёл, якіх пазбавілі волі, быў яму непрыемны. Тым не менш Мастак скіраваў у той бок, дзе была пакінутая будка шаўца — там ён убачыў людзей, якія схлупіліся разам, і пацікавіўся: што прадаюць? Ён ужо некалькі разоў пачуў слова «воўк». Мастак праціснуўся бліжэй і сапраўды ўбачыў на ланцугу ваўка. Ён згледзеў, што гэта быў даволі буйны экземпляр. Блукаючы ў запаведніку, ён бачыў аднойчы такіх жа, толькі вольных, якія прамільгнулі на ўскрайку лесу і зніклі бязгучна, як цені. Ён успомніў, што, здаецца, чуў ад некага пра тое, быццам у адной з навакольных вёсак трымаюць ваўка, але ж такія выпадкі былі нярэдкія. Здаралася, ваўкоў гадавалі леснікі.

Мастак пачуў: людзі вакол жывёліны ўсхвалявана спрачаюцца. Ён прыслухаўся.

— Ты б, дзядзька, выпусціў свайго звера ў лес,— гаварыў высокі ўсмешлівы хлопец, якога тут звалі Студэнтам,— а мы цябе ўхвалілі б.

— Тата,— падтрымаў Студэнта Ігар,— няхай яго адпусцяць!

Карнюшка спахмурнеў.

— Калі не прадам, ён і далей мне замест сабакі будзе.

Мешчанін абурыўся.

— На ланцугу ён усё роўна загіне. Прырода свайго патрабуе.

Акцёр велічна падняў руку.

— Ты ведаеш, лабідуда, на што ты яго пасадзіў? — спытаў ён.

— Ведаю,— разгубіўся Карнюшка.— На ланцуг.

— На сумленне сваё!

У натоўпе загаманілі.

— Не разумею я сучаснай вёскі,— працягваў Акцёр,— і што за людзі там жывуць — невядома! Там усе такія, як ты?

Карнюшка засоп.

— Ды не,— сказаў Студэнт,— ён выключэнне.

— Спецыяльнасць нават ёсць — забойшчык жывёлы,— гнуў сваё Мешчанін.— Днямі ў мясцовай газеце вычытаў: патрабуюцца вучні.

— Вясёлага мала,—згадзіўся Філосаф,—але ж, мяркую, некалі чалавецтва не стане есці жывёл.

— Каго ж яно будзе есці?

— Генная інжынерыя. Уплываючы на гены, можна вырошчваць, напрыклад, спецыяльных мясных чарвякоў. Завёў сабе дома такога і адсякай па кавалку. А ён будзе рэгенерыраваць, аднаўляцца. Кармі толькі. Пазбавімся ад зброі, зоймемся медыцынай, і людзі, магчыма, будуць жыць па трыста ці пяцьсот гадоў.

Студэнт не згадзіўся.

— Малаверагодна,— сказаў ён.— Я вось чытаў, што Сусвет увогуле імкнецца да неарганічнага стану. І мы не ведаем нашых аналагаў, ці ж гэта не дзіўна?

Філосаф аспрэчыў:

— Розум прывядзе нас да братоў. Існуюць жа недзе іншыя цывілізацыі.

— А я не веру ў розум, не гаворачы аб цывілізацыях,— сказаў Акцёр.— Ці такі ўжо ён мэтазгодны? Пакуль што розум толькі разбурае. А калі менавіта ён прыводзіць від, які ім надзелены,

да экалагічнага тупіка? Існуюць жа думкі, што працягласць жыцця чалавека як віду максімум некалькі стагоддзяў — з пачатку работы першага радыёперадатчыка.

— Чаму радыёперадатчыка?

— Радыёхвалі. Іх можна слухаць за сотні светавых гадоў. Але ж мы нікога не чуем. Пустэча. Можа, хто і быў, пакаўкаў крыху, як мы, і —гамон!

Навокал зноў засмяяліся.

— Усё залежыць ад нас,— запярэчыў Філосаф.

— Лухта! — сказаў Акцёр.— Чалавек — гэта не гучыць горда! Занадта паўсюдна гора, каб спяваць сабе асанну!

— Мо ўсякае арганічнае інстынктыўна мадэлюе варожасць у адносінах да розуму, бо адчувае, што ён у рэшце рэшт прынясе яму пагібель? Чаму ў блажэнных, у юродаў няма ворагаў?

— А раптам усё яшчэ больш складана? Мо сатанінскія сілы змагаюцца з намі? А поле бітвы — наша Зямля?

Навокал загаманілі. Гутарка цікавіла многіх. Карнюшка слухаў з разяўленым ротам. Крыху ўбаку маўкліва стаяў Мастак.

— Я падтрымліваю,— раптам сказаў Мешчанін.— Вось знікне азонавае покрыва, загінуць жывёлы, дык ці доўга і мы працягнем пад купаламі са штучнага шкла?

— У свеце, можа, няма мэты і сэнсу, а жыццё выпадковае,— буркнуў Студэнт.

— А калі яно не выпадковае?

— На што намякаеш?

— На тое, што і ты.

— Бадай. Але як праверыць?

— Праверыць то і нельга! Але ж якая малая імавернасць падзей, які ланцуг паслядоўны!

— Можа, тэхнакраты хаваюць ад нас нешта, нібы старажытныя жрацы? — спытаў Філосаф і зноў пакратаў адзін з пярэдніх зубоў. Зуб хістаўся.

— Ёсць шмат, Гарацыо, на свеце таямніц,— уздыхнуў Акцёр.

— Хто многа ведае, той дрэнна спіць...

Спрэчка працягвалася.

— Кажаш, генная інжынерыя? — зноў узвысіў голас Акцёр.— Але ж гэта выраджэнне ўсяго і ўся! Адны яе сумленна прымяняць будуць, другія — на зло!

— Сітуацыя не безнадзейная,— стаяў на сваім Філосаф.— Усё будзе можна кантраляваць.

— А СНІД? Яго як кантраляваць? А землятрусы, азонныя дзіркі, смог?

— Мяркую, пачатак ёсць,— змрочна ўсміхнуўся Студэнт.— Фініш ужо блізкі. Садом і гамора.

— Так,— сказаў Акцёр.— Мо Страшны Суд ужо даўно пачаўся, а мы не ведаем.

— Калі — даўно? — спытаў Мешчанін.

— А вось калі ўключыўся першы радыёперадатчык. Калі першае балота асушылі.

— Містыка,— сказаў Філосаф.

— І ўсё-такі жыць цудоўна,— вырвалася раптам у Студэнта.— Нават ваўком на ланцугу. Але я супраць усіх ланцугоў у свеце.

— Ціха! — Акцёр узняў руку.— Вернемся да справы. Студэнт мае рацыю: гэта жывёла павінна стаць вольная!

— Так, так, вольная,— загаманілі, заківалі навокал, толькі Карнюшка маўчаў.

Філосаф падтрымаў Акцёра.

— Адпусці ваўка,—звярнуўся ён да Карнюшкі.

— Я яго адпушчу, а ён дзіцё сустрэне дзе-не-

будзь ля вёскі ды загрызе — што тады? — спытаў Карнюшка.

У натоўпе прыціхлі.

— Ды ён ад аднаго выгляду чалавека ўцячэ,— тыцнуў на Лупа Акцёр.— Мы абрыдлі яму горш за ўсё!

Ігар, які слухаў размову і адначасова назіраў за Лупам, раптам так хутка, што ніхто не здолеў яму перашкодзіць, кінуўся да ваўка і апынуўся перад ім. Луп уздрыгнуў ад нечаканасці і прыўзняў сваю цяжкую галаву. Усе раптам прыціхлі, а Акцёр сутаргава сціснуў рукі. Ён памкнуўся следам за сынам, але інтуітыўна адчуў, што яго дапамога можа скончыцца дрэнна, бо напад звера можа быць некантралюемы, а яго словы проста глупства, і спыніўся.

— Ігар, назад! — выдыхнуў ён.

Але хлопчык працягнуў пачырванелую на холадзе далонь да галавы звера, вось ён дакрануўся да кончыкаў ваўчыных вушэй і па скуры Лупа хвалямі прайшла дрыготка, і вось далонь апусцілася на ваўчыную галаву.

Луп, вядома, зразумеў, што чалавечае дзіця не пагражае яму, але ж усялякі напад, свядомы ці не, усялякае ўварванне на яго тэрыторыю заўсёды лічыў як замах на яго, які ён павінен быў адбіваць. Луп адчуваў усё гэта вельмі акрэслена і дакладна. Ён адчуваў бы сябе значна лепш, каб яму на галаву паклалі галавешку, чым гэта дзіцячая далонь, пяшчотнае цяпло якой пякло яго зараз больш за агонь. Ён увесь дрыжэў, верхняя губа прыўзнялася, і паказаліся вострыя белыя іклы, і ўсе чакалі са страхам, але ён раптам, нібы ад спакусы, адвярнуў галаву ўбок і заплюшчыў вочы. Хлопчык перамог.

Карнюшка, які спачатку стаяў як слуп, кінуўся

да іх, але хлопчык ужо зняў руку з галавы ваўка, павярнуўся, ішоў назад і ўсміхаўся пераможна. Акцёр падхапіў сына на рукі.

Людзі загаманілі, заварушыліся, пачуўся нават смех. Напружанне спала.

— Ну што, пераканаўся? — з вышыні спытаў Ігар.— Чаму ж ён мяне не ўкусіў?

— Смелы малец, малайчына.

— А калі б кінуўся — ды за горла?

— Усё-такі звер.

— Якія тут жарты, дзягу зняць ды аперазаць...

— А воўк несапраўдны, не...

— Замест вартаўніка не пакінеш.

— З яго карысці, што ад свечкі цяпла.

— Лепш тую шаўку, што пад нагамі бегае. Яна хоць гаўкаць умее!

Акцёр, які толькі апрытомнеў і перамог немалую боязь, раптам адчуў гонар за сына.

— Ну што,— спытаў ён у Карнюшкі,— чаму твой звер не кусае?

Карнюшка ссунуў шапку са змакрэлага лоба.

— Дзіўна,— сказаў ён.— Цуд!

Мастак, які назіраў увесь час за ваўком, зрабіў крок наперад і скінуў рукзак.

— Больш не раю нікому падыходзіць,— сказаў ён змрочна.— Я іх звычкі крыху ведаю. Папярэджваю — не рабіце глупства!

— Чаму? — спытаў Акцёр.

— Ваўкі незвычайна чуллівыя і нервовыя істоты,— растлумачыў Мастак.— Пра іх мне шмат парасказвалі. Па-першае, яны беспамылкова вызначаюць небяспечных для сябе людзей, а па-другое — ён дзіцё пашкадаваў, а даросламу не даруе.

Мастак хацеў ісці далей, але раптам перадумаў. Ён выцягнуў з рукзака вялікі блакнот, з бакавой кішэні дастаў аловак і пачаў маляваць. З'явіліся

лабатая галава, моцныя лапы, падгалістае тулава, ланцуг.

Студэнт з цікаўнасцю зазірнуў яму ў блакнот жоўтымі вачыма.

— А вось і Мастак з'явіўся,— з павагай сказаў ён.

Акцёр апусціў на зямлю сына і ўсхвалявана агледзеў купку людзей.

— Людзі! — сказаў ён.— Людзі мы ці не? Чаму пакутуе жывёла на ланцугу? Што мы збіліся, як авечкі ў дождж?

— Волю ваўку! — падтрымаў яго Студэнт.— Ён дастойны яе!

— Так,— ажывіўся Філосаф.— Волю яму!

— Адпусці звера!

— Няхай жыве!

— У лес яго!

— Яшчэ чаго,— сказаў Карнюшка.— Карміў колькі, а цяпер адпусціць? Няма дурных!

— Досыць! — ускіпеў Акцёр. Ён зняў з галавы капялюш (галава аказалася вялікая, а на макаўцы была лысіна), выцягнуў з кішэні чырвонец і кінуў туды.— Вось усё, што маю! Падтрымайце! Выкупім жывёліну, і няхай яна будзе вольная! Навошта яму ненавідзець нас, а нам яго!

У натоўпе заварушыліся.

— Я дам,— раптам сказаў Мешчанін.— У мяне восем рублёў.

Філосаф дастаў і паклаў у капялюш грошы.

— І я даю пяцёрку.

— А я траяк,— сказаў Студэнт.— Больш няма.

— Вось дык дзівакі! — крыкнуў нехта.

— І я дам,— сказаў Мастак і палез у кішэню.— Прымаеце ў кампанію?

— Брава! — крыкнуў Акцёр.— Хто яшчэ, чалавекі?

Купка людзей пачала прыкметна радчэць. Вецер узмацніўся, па небе ўвесь час беглі хмары. Самотная варона, седзячы на слупе, аглядала з вышыні рынак. Яна зрэдку каркала металічным голасам і чысціла дзюбу аб бетон.

Мастак дастаў з кішэні грошы, аддзяліў пяцёрку і паклаў Акцёру ў капялюш. Ён зноў ускінуў рукзак на плечы і хацеў рушыць прэч, але Акцёр спыніў яго і таропка пацiснуў яму руку сваёй невялікай, пухлай даланёй.

— Дзякуй, малады чалавек!

— Слава Мастаку! — крыкнуў Студэнт.

*13 гадзін.*

База «Райаграпрамзаб», дзе Рыгор павінен быў атрымаць па абменнаму фонду рухавік, знаходзілася ўбаку ад птушынага рынку. Такім чынам ідыёцкая, на погляд Рыгора, выдумка Сямёна Карнюшкі з ваўком абяцала і яму лішні клопат. Каб Карнюшка не быў з ім з адной вёскі, Рыгор увогуле не паехаў бы на рынак, не паліў бы дарэмна бензін.

Тое, што «Райсельгастэхніка» днямі перагрупавалася ў «Райаграпрамзаб» і «Аграпрамтэхніку», было яму даспадобы. Каб адрамантаваць рухавік, ужо не трэба чакаць тыдні, а то і месяцы. Варта здаць яго, і адразу атрымаеш новы па абменнаму фонду.

Але Рыгору не шанцавала. На базе доўгі час не было ні загадчыка майстэрні, ні начальніка. Рыгор пабадзяўся па тэрыторыі, пасядзеў у кабіне, пакорпаўся ў рухавіку і паціху зазлаваў. Урэшце загадчык з'явіўся, але на Рыгора, які адразу падляцеў да яго, глянуў няўважліва, сказаў:

— Згода, твой рухавік забіраем, але ж новы не выдаём.

— Абгрунтуйце мне ўсё пісьмова, каб я свайму старшыні прад'явіў,— патрабаваў Рыгор.

— Ты, хлопец, не крыўдуй, але без подпісу начальніка не магу. Справа нязвыклая. Аддам табе за тваё ламачча новы рухавік, а потым, калі што не так, дык мне адказваць. А Фядосавіч хварэе.

— Марудна нешта перабудоўваецеся,— злосна ўпікнуў Рыгор.

— У мяне адна галава! — незалюбіў загадчык.

— Без рухавіка дамоў не паеду,— зацята сказаў Рыгор.— Аднаго бензіну спаліў колькі. Грошы ж калгасныя!

Загадчык падумаў і параіў:

— А ты з'ездзі да Фядосавіча дамоў. Падпішы паперу, і мы цябе ўлагодзім.

Рыгор павесялеў.

— Давайце адрас.

...Ён неўзабаве знайшоў дом і кватэру, дзе жыў начальнік, але доўга прастаяў ля парога, усё ціснуў на званок, які, пэўна, быў няспраўны. Потым дзверы адчыніліся, але замест Івана Фядосавіча, начальніка базы, якога Рыгор бачыў раней, перад ім узнік малады хлопец, яшчэ падлетак. З рухавага скуластага твару на Рыгора падазрона ўталопіліся заспаныя вочы. Пафарбаваныя валасы пасмамі тырчэлі ўгору.

— Што трэба? — спытаў ён.

— Івана Фядосавіча,— сказаў Рыгор.

— А, да пахана,— паспакайнеў хлопец.— Ну, заходзь.

Гаспадар, рухавы, вельмі ўвішны мужчына гадоў сарака, але таўсматы, апрануты ў махровы халат, сустрэў яго незадаволена.

— Няма і дома спакою,— роблена забурчэў ён.— Ну, што ў цябе?

Рыгор растлумачыў.

— Як ты думаеш, гэта добра, што яны без мяне і дробязь вырашыць не могуць?

«Дарослы мужчына, а какетнічае, як баба»,— мільганула ў галаве ў Рыгора, але ён сказаў:

— Гаспадар, як стырнавы ў моры, пэўна ж, за ўсё адказвае.

Іван Фядосавіч уважліва ўгледзеўся ў Рыгораў твар і не паверыў:

— Ты, бачу, жук,— урэшце сказаў ён.— У арміі служыў ці не?

— Анягож,— пацвердзіў Рыгор.

— Тады жыццё разумееш. А то зараз моладзь. Унь мой яшчэ саплямі булькае, а паспрабуй што сказаць супраць — глядзіць скоса. У арміі, мяркую, навучаць.

Рыгор неакрэслена паціснуў плячыма.

— Хм. Ну, згода. Не буду цябе затрымліваць, такога нецярплівага,— сказаў Іван Фядосавіч і дастаў ручку.— Вось пішу табе цыдульку, і кіруйся да майго намесніка. Хоць,— ён глянуў на гадзіннік,— наўрад ці да абеду паспееш, а з двух да трох там нікога не будзе.

— Нічога,— сказаў Рыгор,— гадзіну якую пачакаю.

Іван Фядосавіч аддаў яму паперку.

— Машына твая ўнізе? — спытаў ён.— Ты адзін?

— Але.

Іван Фядосавіч гукнуў:

— Арцём!

— Ну чаго табе? — усунуў галаву ў пакой пасматы.

— Вось што,— сказаў Іван Фядосавіч Рыго-

ру,— у цябе ўсё роўна амаль гадзіна ў запасе, дык зрабі і мне ласку, адвязі з маім бэйбусам — ён ведае, куды ехаць,— майму сябру Пятру Данілавічу адну невялікую рэч. Я зараз прынясу.

— Гэта недалёка,— пацвердзіў Арцём. Ён, здаецца, быў не супраць ехаць, абы з хаты.— Пракацімся і па сваіх справах што-небудзь зробім.

Іван Фядосавіч неўзабаве вярнуўся і паказаў Рыгору чорную скрыначку памерам з хлебны акраец, ад якой адыходзілі два тонкія блакітныя дроцікі з клемамі на канцах.

— Звычайны супрацьбалявы электрастымулятар,— растлумачыў ён.— Калі ў цябе радыкуліт, то лепшай рэчы ў гаспадарцы не знойдзеш. Прыклеіў клемы пластырам, уключыў і — лячыся. Але ж паспрабуй купі — нідзе няма. А я дастаў. Цяпер з Пятром Данілавічам ратуем адзін аднаго. Ён мне чым дапаможа, а я яму. Тэлефанаваў вось з раніцы, што ўчора спіну прастрэліла, не магу, кажа, распраміцца. Ну, трэба адвезці. Зразумеў, хлопча?

— Адвязу,— сказаў Рыгор,— чаму не дапамагчы чалавеку?

Арцём забраў у бацькі скрыначку, а Рыгор старанна схаваў паперку ў кішэню, і яны пайшлі ўніз.

— Слухай,— сказаў Рыгор, заводзячы рухавік,— мне галоўнае — на базе ўсё вырашыць, дык я цябе да таго Данілавіча завязу, а назад ты ўжо сам дабірайся. Згода?

Арцём пакрыўдзіўся.

— Быццам дамовіліся. Заедзем спачатку ў бюро паслуг, што ў Доме быту,— касеты мае забяром. Там у мяне «кент» працуе. Калі хочаш, ён і табе класную музыку перапіша. «Дэпэшэ Мод», «Металіка», «Круіз». Ну, заплоціш, колькі там каштуе, і

на лапу дасі. І яму жыць трэба. Касеты толькі давай.

— Мне яшчэ на птушыны рынак заехаць,— растлумачыў Рыгор.— Там ваўка аднавяскоавец прадае. Прадаў ці не, а забраць яго трэба, дамоў абяцаў завезці. А рок я наш люблю, беларускі.

Арцём страпянуўся.

— Ваўка?

Рыгор неахвотна расказаў пра Карнюшку, пра Лупа, пра тое, што ў вёсцы і дасюль спрачаюцца: быць ці не быць ваўку.

— Кажаш, штодня вые? — не паверыў Арцём.

— Тройчы ў суткі,— абыякава сказаў Рыгор і дадаў: — Ты ж гавары, куды ехаць.

— Прама, потым улева. А колькі той пэйзан хоча за яго?

— Хто?

— Пэйзан. Ну, селянін.

— А-а,— усміхнуўся Рыгор.— Казаў, рублёў семдзесят.

Арцём захваляваўся.

— Дык едзем разам. Я куплю!

— А грошы?

— Скінемся. У мяне трохі ёсць і з сяброў па чырвонцу.

Рыгор здзівіўся.

— Навошта ён табе?

— У пахана ж дача. А ён там амаль і не бывае. А я таго Лупа туды б адвёз. Карміць адзін стары будзе, сусед. Мне і трэба, каб выў! Уяўляеш, Новы год хутка, збяромся там з дзяўчатамі, а ён завые. Вось будзе ўсім страху! Кайф, га?

Рыгор толькі ўсміхнуўся:

— Дзе разумны гаруе, там дурны весяліцца.

— Хто дурны, я?— удакладніў Арцём.

— Ну, не я ж,— нявесела сказаў Рыгор.

Арцём спахмурнеў. Яго маленькія чорныя раскосыя вочкі злосна блiснулi.

— Плявузгота твая мне не ў масць.

Пусты грузавік лёгка каціўся па асфальце. Рыгор пільна ўглядаўся ў знакі: у цэнтр горада грузавому транспарту ўезд звычайна забаронены і ён баяўся як-небудзь прапусціць. «Праб'юць дзірку ці ўвогуле правы адбяруць»,— падумаў ён.

— Ды што ты разумееш, дзярэўня,— зноў помсліва пачаў Арцём,— вось у мяне раней таксама падарунак для гасцей жыў на дачы. Птушка. Раўла ноччу. А сама невялікая, ну з кілаграм важыла. Рыбай у асноўным харчавалася. А голас — быццам бык раве. Толькі паснуць усе, а яна як раўне! От хіпеж узнімаўся!

— Бугай балотны, ці хто? — спытаў Рыгор.

— Чорт яе ведае. А зараве — поўны балдзёж!

— Ну і дзе яна зараз?

— Здохла. Стары, што карміў, запіў.

— І ваўка туды ж перавядзеш,— сказаў Рыгор.

Але Арцём раптам спыніў яго.

— Стой, пачакай тут трохі.

Рыгор затармазіў ля звычайнага пяціпавярховага дома і выключыў матор. «Што з яго возьмеш,— думаў ён пра Арцёма.— Крыўдаваць на такога няма чаго. Так яго выхавалі. Шчанюк яшчэ. Сапраўды, пасталее, пройдзе армію, тады і жыццё пачне разумець».

Арцём вярнуўся хвілін праз дзесяць. Ён быў не адзін. Разам з ім падышлі да машыны двое: рыжы змрочны хлопец з вострым падбародкам і прыўзнятым левым плячом і высокі пафарбаваны пад бландзіна вельмі худы, апрануты ў джынсавы касцюм-камбінезон.

— Прывітанне!— сказаў бландзін, пазяхаючы.

Рыгор кіўнуў яму і ўбачыў, што з Арцёмавай нагруднай кішэні, як і раней, выторкваліся блакітныя дроцікі — значыць, здагадаўся ён, не ў гэтым месцы жыў Данілавіч. Павёз, шпачок настырны, спачатку ўсё-такі да сваіх сяброў. Рыгор узлаваўся. Ён крануў ключ запальвання.

— Да пабачэння! Няма калі з вамі, хлопцы, у мяне работа чакае.

Але Арцём апярэдзіў яго, затрымаў руку.

— Падкінь нас на птушыны,— папрасіў ён і як ні ў чым не бывала падміргнуў сваімі незразумелымі раскосымі вачыма.

— Ты сур'ёзна?— спытаў Рыгор.

— Анягож,— адказаў за Арцёма Бландзін.— Купім ваўка і назад. Бо, як кажа мой бацька, не адкладай работу на суботу, а... на старасць.

— Не паеду,— рашуча буркнуў Рыгор.— Прадалі даўно таго ваўка.

— А вось гэта невядома,— сказаў Арцём.

— Вам забава, а людзям клопат,— стаяў на сваім Рыгор.

— Што ты за «кента» нам падсунуў? — зневажальна спытаў у Арцёма Рыжы.

— Я табе не «кент»,— абурыўся Рыгор.—Шукай таксі і едзь куды хочаш, а мне з табой не па дарозе.

— Можам і на таксі,— спакойна заўважыў Рыжы.— У нас грошай не лічаць. Гэта ты жабрак.

— І без цябе, гандзюля, дабяромся,— засмяяўся і Бландзін.

Ён плюнуў, і сліна трапіла на крыло машыны. Чамусьці гэта ўзвар'явала Рыгора больш за ўсё, і ён выскачыў з кабіны.

— Ану вытры!

Але Рыжы, які стаяў да яго бліжэй за ўсіх,

спрактыкавана і хутка, так, што Рыгор не паспеў і падумаць, без размаху стукнуў яму бакавым злева, і ён абсунуўся долу, не ўпаў, паспеў ухапіцца за ручку кабіны, але ў галаве загуло і фігуры ўсіх траіх на імгненне расплыліся перад ім. Ён патрос галавой.

— Не трэба больш,— сказаў ляніва Арцём.— Досыць яму!

— Ну што? — спытаў Бландзін здзекліва.— Як свінг [1]? Ведай, цябе чэмпіён вобласці пачаставаў, не хто-небудзь!

Рыгор ірвануўся да яго і з усёй сілы ўдарыў яму галавой у твар. Усё-такі і ён нешта кеміў у байцы. Бландзін рохкнуў, нібы япрук, і пачаў асядаць на зямлю. З носа ў яго пырснула кроў. Але Арцём трымаў ужо яго за рукі, а Рыжы зноў ударыў, спакойна, нібы па мяху ў спартыўнай зале, і Рыгор зразумеў, што яго адолеюць.

— Бі!

— Па пысе яму!

— Вытры сам, пралетарый вясковы! Ёлуп!

Яго таропка білі хвіліны дзве, пакуль не закрычалі прахожыя. Потым хлопцы лагодна і не спяшаючыся пайшлі прэч. Рыгор кінуўся за манціроўкай, але інструменты былі схаваны далёка пад сядзеннем — пакуль дастанеш. «Ды што манціроўка,— падумаў ён раптоўна.— Хіба ёй навучыш такіх?»

Ён зірнуў у бакавое люстэрка і пакратаў сківіцу. Пад вокам імкліва распухала чырвань. «Дажыўся — падлеткі падмаладзілі».

Бландзін азірнуўся і крыкнуў амаль весела:

— Калхознік!

Але гэты зусім дурны вокрык чамусьці наадва-

---

[1] Свінг — бакавы ўдар у боксе.

рот супакоіў Рыгора. Ён прыклаў да вока ключы ад запальвання і палез у кабіну.

*14 гадзін.*

Ля будкі шаўца, дзе паўкругам тоўпіліся і з цікавасцю аглядалі Лупа людзі, з'явіўся аднекуль малады, зухаваты хлопец. Спачатку ён прыслухоўваўся. Гутарка навокал ішла шчырая, але бяссэнсавая. Хлопец быў апрануты ў цёплы спартыўны камбінезон. Вочы яго цупка ўглядаліся ў кожнага чарговага прамоўцу, але ўвесь час неяк кпліва. Асіметрычны твар са зрэзаным падбародкам і ямкай пасярэдзіне быў акуратна паголены. Даўгія рукі даставалі амаль да каленяў. Урэшце ён энергічна пасунуўся бліжэй да Карнюшкі і спытаў напаўголасу, але выдалася паўза і яго пачулі.

— Выліняў твой звер ці не? Памацаць я ж не магу.

Карнюшка няўцямна зірнуў на яго і адказаў няўпэўнена:

— Мусіць, ліняў.

Луп раптам захваляваўся, выскаліў іклы, поўсць на яго спіне стала дуба. Ланцуг нацягнуўся.

Хлопец адступіў на крок.

— Даю чацвяртак, і расход,— сказаў ён.

— Ага, уладальнік дачы з'явіўся. Так ці не?— спытаў хлопца Акцёр.

— Няма яшчэ дачы.

— А воўк навошта?

— Згадзіцца ў гаспадарцы. Немаўлятка і тое да сябе ўсё цягне. Чулі такую ісціну?

Мешчанін выступіў наперад. Ён прыкметна хваляваўся.

— Ведаю я тваю гаспадарку.— сказаў ён,—

Злупіш шкуру і шапку пашыеш. Потым прадасі.

І ён звярнуўся да ўсіх, удакладніў:

— Сусед мой, па прозвішчу Шахоцька. Усіх сабак навокал пазводзіў, сабакар ты чортаў! Мой Пірат летась прапаў. Твая работа!

— Цьвэнькаеш абы-што, салавей стары! Надакучылі мне твае песні.

— Сабакар ты там ці хто, усё ж цішэй крыху,— уладна заўважыў яму Акцёр.— Бачыш, мы тут важную справу вырашаем. Замры!

І Шахоцька змоўк, хоць і не думаў пужацца. Ён не стаў пярэчыць, бо паважаў сілу, а Акцёр быў раза ў паўтара буйней за яго, да таго ж з ім былі ўсе гэтыя дзіўныя, на яго погляд, людзі: Студэнт, Філосаф, нават нягеглы сусед, якога тут празвалі Мешчанін.

— Мабыць, нешта не так? — спытаў ён.— Прадаюць, а я купляю. А ты, суседзе, яшчэ пашкадуеш.

— Грозен рак, ды вочы ў с...— буркнуў Студэнт.

Навокал засмяяліся.

Філосаф кіўнуў на Мешчаніна і паўшчуваў:

— Навошта суседа крыўдзіш?

— Ён паклёп на мяне ўзвёў!

— Годзе! — узвысіў голас Акцёр і махнуў капялюшам.— Хто яшчэ за свабоду?

Але грошай больш ніхто не ахвяраваў.

— О тэмпера, о морэс!— уздыхнуў Акцёр і зняў з рукі танны электронны гадзіннік.

— Прадаю!

— Колькі? — спытаў Шахоцька.

— Пятнаццаць!

— Чырвонец даю!

— Ну і таракан!— фыркнуў Студэнт.— І ён з майго пакалення?

— Забірай,— сказаў Акцёр.— Няхай звер жы-

ве свабодны. За тое, што сына майго не крануў.

Ён кінуў у капялюш чырвонец.

Валерый Шахоцька паклаў гадзіннік у кішэню. Ён увогуле меў звычку прыбіраць да рук усё, што давала прыбытак. У яго сапраўды было своеасаблівае хобі, занятак, які прыносіў яму добрыя грошы. Ён лавіў беспрытульных сабак, забіваў іх, а з меху выраблаў кучумкі, унты, нават дублёнкі тыпу «аляска». Сабачы мех толькі дурням здаецца нічога не варты. У яго ж усё прыносіла грошы: сабакі, кошкі, тхары, краты, іншы раз і лясны звер. Але паляўнічым Шахоцька не быў. Дый навошта яму клопаты з ружжом, порахам, ліцэнзіямі? Цікуюць за паляўнічымі ўсе, нават піянеры, а за зверам трэба добра пабегаць. Час трэба. А час — гэта грошы. Куды зручней і мэтазгодней магутны матацыкл, добры мех, а ў кішэні дзесяцізарадны малакаліберны пісталет Марголіна ■ бязгучнай насадкай на ствале. Усё гэта ў яго было напагатове.

Сабакі з шэрай, карычневай ці рыжай поўсцю асабліва вабілі яго. Шкуру яму вырабляў сусед — стары інвалід, а вырабы з іх шыла жонка-краўчыха. Кожная шапка прыносіла яму не менш як сто рублёў, унты яшчэ больш, бо іх упадабалі жанчыны, а дублёнкі яны хапалі за любыя грошы. Жанчына ж нічога не пашкадуе, каб выглядаць лепш за сяброўак. А што мех сабачы, хіба яна ведае? Кажы янотападобны сабака ці ўвогуле амерыканскі янот, і табе абавязкова паверацць, бо хочуць верыць.

У кааператыў Шахоцька афармляцца не хацеў, баяўся падаткаў, таму «з понтам», як ён любіў гаварыць, уладкаваўся нарыхтоўшчыкам у прыгараднае сельпо. Ён меў не толькі матацыкл, а і дзевятую мадэль «Жыгулёў», кааператыўную

кватэру і глядзеў далей. Яму яго хопіць. Убачыўшы ваўка, ён хутка сцяміў, што за ваўчыную шапку можна атрымаць не менш як дзве паперы — дзвесце рублёў.

Між тым у капялюш, які трымаў Акцёр, кінулі рубель, потым нехта яшчэ адзін. Акцёр патрос капялюш і пачаў лічыць.

— Сорак дзевяць рублёў,— сказаў ён і звярнуўся да Карнюшкі:

— Можа, досыць табе?

— Не. Шэсцьдзесят. Меней не аддам.

— Прагнасць цябе загубіць,— заўважыў Студэнт.

— Паменшацца статкі твае, і занядбае хата твая,— буркнуў Акцёр.

Мешчанін узняў руку, і вочкі яго бліснулі за шкельцамі акуляраў.

— Пачакайце, у мяне ідэя!

— Ну? — спытаў Філосаф паважліва.

— Я ж побач жыву. Зараз прынясу грошы. Вось і справа вырашыцца.

— Чуеш? — ціхенька сказаў Студэнт на вуха Карнюшку.

Той адсунуўся ад яго ўбок.

— Мне спяшацца няма куды.

— Благаслаўляю цябе! — узнёсла сказаў Акцёр Мешчаніну і жартоўна перахрысціў.— Ідзі, сын мой!

Радасны Мешчанін растварыўся ў натоўпе.

— А як сініца? — спытаў Акцёр у Філосафа.— Бадай, цяпер не купіш,— паспачуваў ён.

Той усміхнуўся.

— Каб тыя грошы! Скупіць усіх птушак ды на волю выпусціць! А дачцы пра ваўка раскажу — яна не пакрыўдзіцца. Кажуць, што дзеці жорсткія, але, мяркую, яны ўсё ж лепей за нас.

На кароткі час з-за хмары выслізнула сонца. Акцёр прыжмурыў вочы, Філосаф выпрастаў з-за каўняра няголеныя, з ранняй сівізной шчокі, Студэнт знерухомеў і задумаўся. Карнюшка зняў сваю «васьміклінку», і нават Луп уздрыгнуў, паварушыў вушамі — адчуў цяпло.

— Ідзе! — раптам сказаў Студэнт.— Я бачу.

Здалёк Мешчанін узняў руку. У яго кулаку былі заціснутыя грошы.

— Дзесяць. Больш няма,— сарамліва паведаміў ён.

Акцёр падставіў капялюш.

— Пяцьдзесят дзевяць.

— Чорт з вамі,— махнуў рукой Карнюшка.— Забірайце і рабіце з ім што хочаце. Давайце грошы!

Акцёр раптам задумаўся.

— Як забіраць? — спытаў ён.— А калі ён мяне пакусае? Куды, у які лес яго весці? Я ж не ведаю.

— Сапраўды, як нам яго прыдбаць, калі ён толькі свайго гаспадара прызнае? — разгубіўся і Філосаф.

— Няхай наморднік надзене,— параіў Студэнт.

— Адкуль той наморднік? — сказаў Карнюшка. — І ланцуг мне самому патрэбны! Давайце свой ці вяроўчыну якую.

— Чорт! — зазлаваў Акцёр.— Вось яшчэ не хапае клопату! Дзе мне ўзяць тут ланцуг і наморднік?

Усе пераглянуліся і паціснулі плячыма. Студэнт зашаптаў Карнюшку на вуха. Той зноў адхіснуўся.

Шахоцька, які ставіўся да Акцёра і асабліва да

Студэнта варожа, тым не менш запабягаў і ліслівіў перад імі. Ён параіў Карнюшку:

— А ты прадай ім разам з аброжкам і ланцугом. Яны купяць.

— А за што? — спытаў Студэнт.— Купіла дзе? Купіў бы сяло, ды грошай гало. Узняць цябе дагары нагамі ды патрэсці як след, дык і грошы былі б.

Шахоцька не пакрыўдзіўся і не спужаўся.

— Грошы, як і вошы,— сказаў ён,— абы ў каго не заводзяцца.

Мешчанін усміхнуўся засмучана.

— У мяне сапраўды больш няма,— сказаў ён.— Хіба пазычыць у каго да пенсіі.

— Пяцёрку дабаўце,— не ўступаў Карнюшка.

— Пачакай,— прыгразіў яму Студэнт,— буду ў вашых месцах — я табе зраблю адведкі!

— Не падабаецца — ідзі. Я цябе не трымаю.

— Скнара! Тхор!

Філосаф, які задумліва смактаў чарговую цыгарэту, раптам узняў руку.

— Дарэчы, ёсць адна думка.

— Ну, гавары.

— Ён жа дамоў праз лес паедзе,— паказаў на Карнюшку Філосаф.— Няхай выпусціць жывёлу па дарозе. А нам слова дасць, што не падманіць, не схлусіць.

— Саламон! — крыкнуў Студэнт.— А я і не здагадаўся б ніколі!

Шахоцька скептычна ўсміхнуўся танкагубым шырокім ротам.

— А калі ён яго зноў дадому звязе?

— Не падумаў,— сказаў Філосаф і звярнуўся да Карнюшкі.— Што скажаш, чалавеча?

Карнюшка засоп.

— Мастаку б ваўка аддаць, ён жа ў запаведнік

якраз кіраваў,— параіў Мешчанін,— няхай бы выпусціў у нерушы.

— Дзе ўжо той Мастак!

Акцёр пачухаў патыліцу.

— Вось грошы. Выпусціш яго ў лесе?

Карнюшка згодна кіўнуў галавой.

— Надакучыла ваша плявузгота,— сказаў ён.— Даю слова. Адпушчу. Вось толькі Рыгор мяне забярэ і вывезе адсюль.

— Які Рыгор?— спытаў Студэнт падазрона.

— Зямляк мой. Шафёр.

— Ну і добра,— сказаў Акцёр.— Чуеш, Ігар? Яго адпускаюць на волю!

— Ну, я пайшоў,— раптам сказаў Студэнт.— Бывайце!

Ён сарамяжліва ўсміхнуўся і паціснуў усім рукі. Следам за ім пачалі развітвацца і астатнія. Натоўп зноў парадзеў.

Рынак бачна пераступіў ужо свой пік, і людзі, якія з раніцы завіхаліся тут, нагледзелі, пэўна, тое, што ім было патрэбна, альбо разышліся да чарговага разу. Вецер адчувальна пачынаў працінаць плечы, халадзіў да чырвані твар. Карнюшка павярнуўся да яго спінай і ўтуліў галаву. Ён бачыў, як абыякава, амаль нерухома, толькі зрэдку пазвягваючы ланцугом, стаяў Луп, як поўсць на яго худой спіне калі-нікалі ўздымалася ад ветру, і ўпершыню нешта падобнае на слабае спачуванне варухнулася ў яго душы, але хутка знікла. Бо спачуваюць слабым, а Луп ніколі не быў такім.

*15 гадзін.*

Сямён Карнюшка дастаў з торбачкі загорнутыя ў газету сала, хлеб і пачаў есці. Луп бачыў, як

рухаліся ягоныя сківіцы, адчуў пах ежы, але нават не падаў выгляду, што хоча есці, што галодны. Ён не мог ведаць, чаму Гаспадар прывёў яго сюды, але адчуваў, што гэта прынясе яму неспадзяванасці, вось толькі якія? Зноў раздражненне пакрысе авалодала ім. Луп паспрабаваў, ці трымае яго ланцуг, тарганууся наперад, у бакі, але той трымаў моцна. Гаспадар, які стаяў побач, ад штуршка знянацку выпусціў з рук кавалак хлеба, але падбіраць не стаў, а нагой падсунуў да яго носа, кінуў яшчэ і скурку ад сала. Але Луп пагардліва адвярнууся.

Карнюшка, між тым, думаў, як яму лічыць дзень, праведзены на птушыным рынку: удалым ці не? Непрададзены Луп прынёс яму амаль шэсцьдзесят рублёў, часу яшчэ хапала, каб да цемнаты вярнуцца дамоў, а калі Рыгор пад'едзе, як і абяцаў, а шаснаццатай гадзіне, то можна будзе забегчы ў краму і купіць тое-сёе. Значыць, меркаваў ён, усё не так ужо і дрэнна. Дзе які дурань згубіць, там ён, Карнюшка, знойдзе. А тое, што нагаварылі яму ўсякія дзівакі тут, на рынку, дык гэта ўсё лухта. Калі б ён жыў па-іхняму, дык даўно з торбай у свет пайшоў. Яны людзі вучоныя, у жыцці ўладкаваныя, а яму ў рот ніхто не пакладзе.

Ён праглынуў апошні кавалак, запіў малаком з бутэлькі, пералічыў і паклаў у пулярэс грошы і адчуў сябе зусім няблага. Карнюшка зноў агледзеў Лупа, парадзелы натоўп і зразумеў, што наўрад ці хто і купіў бы ў яго ваўка, што ўвогуле яго задума на мяжы глупства і, бадай, прыйдзецца вяртацца з ім назад, а ў лесе выпусціць на волю. Вось толькі выпусціць ці не? — упершыню з'явілася акрэсленая думка. А калі адвезці дамоў, ды ўсё-такі здаць у райзаг, яшчэ сто рублёў

атрымаць? Прыстрэліць, вядома, спачатку, бо не павядзеш жа на ланцугу. Засмяюць потым. А што слова даў, дык гэта ж смеху варта: што ён, піянер? І што такое ўвогуле слова? Гук — не больш.

Малады хлопец, якога тут назвалі Шахоцькам, зноў падышоў да яго.

— А ты, дзядзька, зух. Хочаш яшчэ зарабіць?

Карнюшка недаверліва засоп.

— Як?

— Вось табе прэзент,— Шахоцька выцягнуў з кішэні і пакруціў Акцёравым гадзіннікам у яго пад носам.— Мне воўк, табе гадзіннік. Згода?

Луп адразу захваляваўся. Поўсць на спіне ўзнялася, вочы бліснулі. Ён моўчкі скокнуў, але ланцуг паваліў яго назад, на спіну, але ён зноў кінуўся, і зноў ланцуг спыніў яго.

— Адыдзі, нешта ён цябе не выносіць,— сказаў Карнюшка.

— Прадасі, не?

Карнюшка азірнуўся навокал, набраў у грудзі паветра і рашыўся.

— Давай пяцьдзесят рублёў і забірай.

— Нахабнік ты, дзядзька. А хто слова даў, што ў лесе ваўка свайго выпусціць, хто дармовыя грошы атрымаў?

— І яшчэ атрымаю.

— Ёлуп ты, дзядзька. Чацвяртны даю.

— Пяцьдзесят,— несла Карнюшку.— А не хочаш, не чапіся. Мне толькі за яго шкуру сто рублёў дадуць.

— Ну, то глядзі.

Шахоцька адышоў убок. Ён быў не з тых, хто лёгка адракаецца ад сваіх задумак, і таму, памеркаваўшы, стаў на пустую скрыню і абвёў рынак вачыма. За гандлёвымі радамі ён убачыў таго, каго меўся ўбачыць,— чалавека ў міліцэйскай

форме. Шахоцька злез са скрыні і рушыў да яго.

— Участковы Мень,— прадставіўся малады круглатвары сяржант, калі Шахоцька крануў яго за плячо. Ён нават узняў руку да фуражкі.

— У чым справа, грамадзянін?

Шахоцька сціпла апусціў вочы.

— Таварыш Мень,— пачаў ён,— тут, на рынку, творыцца чорт ведае што. Прывёз адзін дурань ваўка і людзей палохае. Воўк без намордніка, на людзей кідаецца. Бяда можа здарыцца. Мяркую, ён увогуле шалёны. Чуеце, як сабакі брэшуць? Прыстрэліць яго трэба.

Сяржант агледзеў Шахоцьку з галавы да ног і задумліва ссунуў фуражку на патыліцу.

— Воўк? Не можа быць!

— Самы сапраўдны,— пацвердзіў Шахоцька.

Сяржант вагаўся.

— Ану пайшлі глянем,— урэшце згадзіўся ён.

Шахоцька кінуў цупкі позірк на кабуру і з надзеяй спытаў:

— А пісталет пры вас?

— Усё, што належыць, пры мне,— сказаў міліцыянер і зноў падазрона агледзеў Шахоцьку.

Яны праціснуліся праз рады кааператыўшчыкаў і апынуліся перад прывязаным ваўком і Карнюшкам, які стаяў побач. Сяржант прыклаў руку да фуражкі, прадставіўся, і адразу нехта сярод разявак, пачуўшы яго прозвішча, хіхікнуў.

— Як ён сказаў?

— Мень — рыба такая ёсць.

— Ха-ха, мень. Ану дай зірнуць!

Міліцыянер спахмурнеў.

— Чаму парушаеце? Хто такі будзеце?

Шахоцька глядзеў і ўсміхаўся танкагубым ротам.

Карнюшка сумеўся.

— Вось, прадаю,— сказаў ён.
— Чаму без намордніка? Гэта сапраўды воўк?
— Так, воўк.
Сяржант з непрыхаванай цікавасцю ўгледзеўся ў Лупа.
— Каго ён пакусаў?
— Нікога,— развёў рукамі Карнюшка.— Спытайце ў людзей, яны праўду скажуць.
— Не паспеў, дык яшчэ пакусае,— вытыркнуўся Шахоцька, і Луп адразу кінуўся. Жоўтыя вочы яго злосна бліснулі, а поўсць стала дубка.
— Бачыце, таварыш Мень,— сказаў Шахоцька.
Нехта зноў засмяяўся.
— Так, усё ясна,— адрэагаваў сяржант.— Адвязвайце яго і пайшлі.
Карнюшка спалохаўся.
— Куды ісці, навошта?
— Куды трэба. Хаця б у лясок за шашой. Там усё і вырашым.
І сяржант выпнуў грудзі і красамоўна пакратаў кабуру.
— Не маеце права,— сказаў Карнюшка.— Воўк прыручаны. Аб ім у газетах пісалі.
Сяржант задумаўся.
— Усё роўна трэба штрафаваць. Прашу за мной у падсобку, аформім пратакол. Пасля — ваўка адсюль прэч.
Карнюшка не на жарт спалохаўся.
— За што, даражэнькі? У мяне і грошай няма.
— А хто табе іх цэлы капялюш насыпаў? — кпіў Шахоцька.
— Навошта чапляешся? — спыталі Шахоцьку з натоўпу.— І Меня гэтага прывёў. Якая табе карысць?
— Што за Мень такі жвавы?

— Не Мень, а мент,— скаламбурыў нехта.

Навокал зноў засмяяліся. Сяржант зазлаваў.

— Даставім прымусова, калі сам не пойдзеш. Супраціўляцца не раю.

Як толькі міліцыянер з паніклым Карнюшкам пайшлі да службовага памяшкання ў глыбіні рынку і натоўп зноў парадзеў, Шахоцька пашукаў вачыма і ўрэшце заўважыў тое, што яму было і трэба: напаўсагнуты жалезны прэнт з метр даўжынёй. Прэнт ляжаў убаку, ля плота. Шахоцька падняў яго, прасунуў адзін канец у шчыліну між дошкамі і выправіў.

Луп з яўным хваляваннем сачыў за ім увесь час, і хваляванне яго прыкметна ператварылася ў лютасць. Ён адчуваў нянавісць да чужынца, якая ўзрастала ўсё больш, ведаў: тое, што той робіць,— не жарт і дзівіўся, чаму людзі, якія ходзяць ці стаяць побач, не кінуцца на яго і не пасадзяць на ланцуг. Луп адчуваў варожасць, якая здаецца, выпраменьвала ад чалавека з прэнтам, але ніхто з людзей быццам і не бачыў небяспекі, што было яму вельмі дзіўна і незразумела. З першага погляду на чужынца Луп беспамылкова адчуў, што той хоча яго смерці. Зразумеўшы гэта, Луп пачаў рыхтавацца да схваткі, якая, як ён ведаў, адбудзецца вельмі хутка.

Шахоцька агледзеў невялікі гурт людзей, якія стаялі побач. Некаторыя з іх, зірнуўшы на ваўка, пакрысе адыходзілі, другія затрымліваліся, абменьваліся думкамі. Пасля таго, як разышліся Акцёр, Студэнт, Філосаф і Мешчанін, размова, якая цікавіла многіх, увогуле, як кажуць, звялася на дуду, і доўга тут ніхто цяпер не заставаўся. Шахоцька ўпэўніўся, што нікога з яго неприхільнікаў няма, і адчуў сябе значна вальней. Непрыкметна трымаючы прэнт у руцэ, ён наблізіўся да

звера, дакладна разлічыўшы даўжыню ланцуга і рывок ваўка.

Луп пільна сачыў за ворагам і адразу кінуўся імкліва і люта, і тады Шахоцька ўдарыў. Удар прыпаў не ў галаву, як ён цэліў, а слізнуў па шыі і ўздоўж пысы. Луп адчуў моцны боль, зноў рынуў насустрач, але ланцуг адкінуў яго назад. Ён прамахнуўся і сцяміў, што ў нечым памыліўся, што трэба быць вельмі асцярожным, бо ўсё тут зараз супраць яго. Але сэрца яго білася холадна і разлікова, бо ён ведаў, што наступіла тое самае імгненне, калі толькі ён сам можа сябе ўратаваць. Не было побач ні Гаспадара, ні мажнога чалавека з капялюшам у руцэ, ні яго дзіцяці, ні тых некалькіх людзей, якія, як ён адчуваў, маглі б і здолелі абараніць яго. Ён бачыў ворага, руку, у якой быў заціснуты прэнт, маўклівы натоўп, ад якога не даходзіла да яго яўнай варожасці, але і спачування таксама.

Людзі навокал сапраўды стаялі нерухома, і ніхто з іх пакуль не памкнуўся спыніць Шахоцьку.

— Шалёны ён! Дзіцё ледзь не загрыз!

Падбухторыўшы іх такім абвінавачваннем, Шахоцька злаўчыся і торкнуў вастрыём у жывот звера.

Луп зноў кінуўся, і ланцуг, як і раней, затрымаў яго.

— На дзіцё напаў? — спыталі з гурту.— І што?

— Лухта,— сказаў нехта.— Я бачыў, нічога такога не было.

На гэты раз у натоўпе заварушыліся і пачуліся выкрыкі:

— Эй ты, звар'яцеў, ці што?

— Пакінь жывёлу, дурань!

— Хіба яна не яго?

— А то не ж!

— Што робіш, чалавеча?

Шахоцька спыніўся і кінуў позірк туды, дзе знік Карнюшка з сяржантам.

— Не ваша справа!

Ён заспяшаўся, бо абставіны мяняліся не на яго карысць. Яшчэ раз замахнуўся, і ўдар трапіў па галаве, зачапіў вока, але ўжо нехта схапіў ззаду за рукі, яго трымалі. Шахоцька засіпеў, напружыў рукі і вырваўся. Нехта ўчапіўся за прэнт і цягнуў да сябе.

— Адбярыце ў яго жалязяку!

— Самога б па пысе!

— Спусціць ваўка з ланцуга — тады б зведаў!

Шахоцька кінуў прэнт пад ногі і адышоў убок.

*16 гадзін.*

Сяржант Мень сам быў родам з вёскі, і таму паводзіны селяніна Карнюшкі, які сядзеў перад ім у падсобцы, не з'яўляліся для яго вялікай загадкай. Ён ведаў, што выціснуць з таго штраф амаль немагчыма: на гэта трэба змарнаваць фантастычную колькасць энергіі, таму пастрашыў яго дзеля парадку і адпусціў.

Падышлі да будкі шаўца. Карнюшка адразу ўбачыў, што тут нешта здарылася. Луп быў узбуджаны і нервова торгаўся на ланцугу. Ён прыкметна кульгаў, а на галаве каля вока не паспела яшчэ запячыся кроў.

— Гуляеш, дзядзька, а жывёлу тваю забіваюць,— пакпілі з гурту.

— Як так?

Яму расказалі пра Шахоцьку і спробу таго забіць ваўка. Карнюшка абурыўся.

— Валацуга! Ну пачакай жа!

Але ў душы ён ведаў, што нават калі сустрэне таго ж Шахоцьку, то нічога яму не зробіць, не

дасць рады, бо той і мацнейшы і хітрэйшы за яго. А такіх людзей Карнюшка абыходзіў.

Ён адвязаў ланцуг і тузануў Лупа за сабой. Яны пайшлі, цiснучыся да плота (Карнюшка цяпер баяўся, каб Луп сапраўды каго не пакусаў), выйшлі за агароджу рынку і пацягнуліся да шашы.

Як і раніцай, Луп ішоў за Гаспадаром які крок ззаду, кульгаў і пазіраў таму ў спіну сваімі жоўтымі вачыма, адно было падбітае і зацягнула крывёю. Ён здагадаўся, што тая мэта, з якой яго прывялі сюды, не здзейснілася, і міжволі яго павага да Гаспадара, як і не раз у апошні час, паменшылася, бадай, пахіснулася зусім. Ён адчуваў да яго нават варожасць. Жаданне напасці на чалавека... У гэтым была спакуса. Але нешта больш магутнае стрымлівала яго, нешта набытае за тое жыццё, якое ён пражыў побач з людзьмі. То быў не страх перад чалавекам, а зусім іншае пачуццё, што ён моцна адчуў нядаўна, на рынку, калі далонь дзіцяці легла яму на галаву.

На нейкі час хмары разбегліся, і восеньскае няяркае сонца асвяціла ўсё навокал: і чэзлыя дрэвы, і лісце, і павуцінне, якое раптам з'явілася невядома адкуль, і зашмальцаваную траву пад нагамі.

Карнюшка спыніўся на абумоўленым месцы, прыкладна там, дзе яны раніцай злезлі з машыны, толькі з другога боку. Ён агледзеўся, дзе б прысесці, але нічога не знайшоў, прывязаў канец ланцуга да прыдарожнага слупка, а потым сам сеў на яго, хаця было мулкавата.

Луп лёг на траву і паклаў цяжкую галаву на лапы. Яго злёгку ванітавала. Абодва яны стаміліся. Машыны адна за другой праносіліся побач і знікалі ўдалечыні. Патыхала бензінам, адпрацава-

ным маслам, гарам. Трэба было чакаць Рыгора, а калі ён не прыедзе, то галасаваць якой спадарожнай.

Сядзець на слупку стала зусім няёмка, і Карнюшка выцягнуў з кішэні торбу, у якой вёз сюды свой абед, падаслаў яе пад сябе, сеў побач з Лупам і выпрастаў ногі. Спіна яго ўпіралася ў слупок, а ногі ён прыхіліў да боку жывёлы і адчуў сябе ніштавата. Луп зірнуў на яго сваімі жоўтымі, колеру бурштыну, вачыма, але адразу адхіліў галаву і стаў глядзець у неба, далёкае і халоднае. Там ледзь бачнай чорнай кропкай кружыў коршак.

...Рыгор убачыў іх здалёк, прытармазіў машыну і паволі вылез з кабіны. Здзіўлена глядзеў ён на Карнюшку, які паспеў ужо задрамаць. Воўк ляжаў з ім побач і глядзеў прама на яго, не міргаючы. Адно вока яго было скрываўленае, але позірк такі спакойны і разумны, што Рыгор аж сцепануўся. Вушы Лупа ўзняліся, цела напружылася, толькі вось, пакуль Рыгор не пераступіў нябачнай мяжы, што раздзяляла іх, ён не ўставаў.

— Гэй! — урэшце гукнуў Рыгор, і Карнюшка падхапіўся, а разам з ім падняўся на ногі воўк.

— Не ўзялі тавар? — з'едліва спытаў Рыгор.— Ну што стаіш, як сасватаны?

Карнюшка ўзрадаваўся.

— Не пакінуў мяне, Рыгорка, маладзец. А то я спруцянеў, чакаючы.

Ён агледзеў машыну, убачыў, што ў кабіне пуста, а значыць, дадому ён даедзе з камфортам, і бадзёра паляпаў па сцёгнах рукамі.

— Тавар, як бачыш, пры мне,— дадаў ён.

Рыгор у адказ паўшчуваў:

— Па руках бы цябе за гэткі тавар. Усё б з лесу цягнулі: дрэвы, грыбы, ягады, нават ваўкоў.

Карнюшка прапанаваў лісліва:

— Не крыўдуй, Рыгорка, мо лепш ля якой крамы спынімся?

— Навошта?

Карнюшка красамоўна пстрыкнуў сабе па шыі.

— Я б узяў. Сёння ж субота, да пяці даюць. Ля дома і пацягнем.

— Не хачу,— сказаў Рыгор.— А чаму твой Луп кульгае?

— Тут мне адзін сабакар, каб яго халера, даваў за яго чацвяртак,— распавядаў Карнюшка, адвязваючы Лупа.— Пэўна, на кучомку злупіў бы шкуру. А я не згадзіўся — дык ён, гад паўзучы, ледзь яго не забіў. А каб зараз, дык аддаў бы, чорт з ім!

— Гэ-эх,— закруціў Рыгор галавой. Толькі цяпер Карнюшка заўважыў, што ў яго сіняк пад вокам.— У гадах ты, дзядзька, а разважаеш, як пэтэвушнік перад стыпендыяй: спагнаў, прадаў! Скажу прама: я табе рады, як цвіку ў боце!

— Нешта злосны ты, Рыгорка,— прымірэнча буркнуў Карнюшка.— А рухавік абмяняў?

— Унь жа, новы,— паказаў у кузаў Рыгор.

— А пабіўся з кім, ці як?

— Садзі свайго Лупа і лезь сам у кабіну, бо няма часу,— незалюбіў той.— Бо замёрз, як прус!

Не выпускаючы ланцуга, Карнюшка таропка падбег да задняга борта і апусціў яго. Новы рухавік блішчэў срэбрам у кузаве.

Луп моўчкі назіраў за тым, як мітусіўся Гаспадар, як Рыгор палез у кабіну. Ён пачакаў, пакуль дадуць знак, і скокнуў у кузаў, але ледзь не сарваўся ўніз ад болю ў лапе. Гаспадар падцягнуў яго за ланцуг і дапамог ускараскацца наверх. Там Луп адразу лёг і заплюшчыў вочы. Ён чуў, як Гаспадар прывязаў ланцуг, як пасля палез у ка-

біну да Рыгора і як кранулася машына. Яго загайдала, і ён задрамаў. Асфальт неўзабаве скончыўся, бо яны з'ехалі на бальшак, які вёў да вёскі.

Рыгор і Карнюшка сядзелі ў кабіне. Рыгор умела вёў свой «зілок», але быў невясёлы, хаця рухавік атрымаў на базе без затрымкі і мусіў вярнуцца дамоў да цемнаты. Невясёласць яго тлумачылася бязглуздай бойкай з падлеткамі, але была і яшчэ прычына. Прыкладна тыдзень таму ён зрабіў прапанову дзяўчыне з суседняй вёскі Восава. Рыгор з Марынай ведалі адзін аднаго каля трох гадоў — увесь час, пакуль служыў, Рыгор атрымліваў ад яе наіўныя лісты, у якіх падрабязна паведамлялася аб усіх падзеях і зменах у вёсцы. Але цяпер Марына была зусім іншая, і ад яе наіўнасці не засталося амаль нічога. Вось каб яны жылі ў горадзе! Мясіць гразь на ферме гумавымі ботамі, як маці,— не, гэта не па ёй. І маці яе падтрымала: толькі ў горад, дачушка! Досыць, яна за іх абедзвюх адпрацавала. Не ў маладзёжны ж жывёлагадоўчы атрад ісці. Стварылі яго гады тры назад. Гаварылі пра яго ў раёне шмат, пісалі ў газеце, абяцалі многае. Але, акрамя дрэнна пашытай формы, нічым не забяспечылі. Пашумелі, пакрычалі, а на ферме транспарцёр так і не працуе. А на заўвагу Рыгора, што час змяніўся і ў лепшы бок, Марына толькі пакпіла: жыццё ж кароткае, а мне жыць не горш за іншых ахвота. Паглядзіш вунь тэлевізар, дык зайздросна...

У глыбіні душы Рыгор адчуваў, што не зусім удалася характарам яго каханка, але іншыя дзяўчаты ў іх вёсцы былі зусім не тое, а прыгажосць усё-такі, думаў Рыгор, як ні круці, а вялікая сіла. І кожная жанчына аддасць за яе і розум, і душу, і нават шчасце. Бо і мужчыны імкнуцца не да разумных ды добрых, а да тых, якія ім смачнейшыя.

Цяпер, па дарозе дамоў, Рыгор думаў пра тое, што калі ў дзяўчыны ў галаве завяліся такія думкі, то справа яго ўвогуле дрэнь. «Бо хто я такі? — раптам успомніў ён.— Калгаснік. Вось дык слова — мянушкай стала!»

І Рыгор проста так, каб пачуць якое спачувальнае слова, хацеў ужо расказаць Карнюшку, як яго набілі і абазвалі калгаснікам, але передумаў і пачаў расказваць іншае — як у арміі ім прыслалі новага ўзводнага, і той узводны, малады, дуркаваты яшчэ лейтэнанцік, вучыў іх страявой: ну што ты як калгаснік ходзіш, казаў ён, ану падцягніся, так тваю і гэтак... Нехта са старэйшых афіцэраў пачуў і павёў з сабой таго лейтэнанціка. Праз якую гадзіну той вярнуўся і калгаснікамі больш нікога не называў.

Але, зірнуўшы на суседа, расказваць далей Рыгор не стаў, бо Карнюшка раптам пачаў даводзіць сваё. І да Рыгора пастулова пачаў даходзіць сэнс яго слоў. Карнюшка выхваляўся:

— От лабідуды! Вучоныя дзятлы! Ты толькі паслухай пра мае прыгоды. Сабралі мне шэсцьдзесят рублёў і кажуць: давай, дзядзька, бяры грошы, а ваўка свайго ў лесе выпусціш! А нам слова дай, што не падманіш. Адзін такі мажны, артыстам назваўся, усё мяне ўшчуваў: навошта жывёлу катуеш? Маўляў, траву трэба есці, мяса нельга. А другі, нягеглы, філосаф быццам, ці хто, яму даводзіць, што хутка ўсім спецыяльных мясных чарвякоў выдаваць будуць, кармі, адсякай па кавалку і еш, а тыя зноў вырастуць. А потым усе да мяне — ваўкі карысныя, іх трэба на волі трымаць. А ты што скажаш, Рыгор? Ён жа перш-наперш на той волі каго-небудзь загрызе, бо яму есці трэба. І не што іншае, а мяса. Вось той зімой, да слова, загналі ваўкі на лёд лася і там яго лёгка ўзялі, бо

на лёдзе што лось, што карова — адзін чорт. А лось грошы вялікія каштуе.

— І што ты плявузгаеш, дзядзька. Якія чарвякі, якія ласі?

— Каб цябе перуном! — пакрыўдзіўся Карнюшка.— Я ж табе ўсю праўду кажу!

— Ну й што далей? — вяла спытаў Рыгор.

— Ты, хлопец, нічога, пэўна, не зразумеў. Далі яны мне грошы, быццам купілі майго Лупа, і кажуць: ты яго ў лес адвядзі і выпусці. А то нам нязручна, нас пакусаць можа! Слова ім дай... А слова гэтае — цьфу! А я вось вазьму ды ў райзаг яго здам, сто рублёў яшчэ атрымаю ці шапку пашыю са свайго Лупа. Хе-хе...

Абапал дарогі пацягнуліся рэдкія дрэвы, а потым «зілок» нырнуў у лес. Шлях быў няроўны, там-сям траплялiся ямы, запоўненыя бруднай вадой, але разбітая каляіна вяла ўсё далей, і матор цягнуў добра.

*17 гадзін.*

— Дык, кажаш, талакой сабралі грошы, каб адпусціў? — урэшце зразумеў і здзівіўся Рыгор.

— Я і кажу — ёлупы. Ты не думай, я табе яшчэ траяк дамо, аддзячу. Не дарма ж вязеш.

— Што мне твае траякі,— спахмурнеў Рыгор.

— Траяк да траяка — і паважаюць сваяка!

— Паслухай, Сямён,— пачаў, як з роўным па гадах, Рыгор.— Ты вось неяк лесніком хацеў стаць, у горад ездзіў вучыцца. А лес ты любіш?

— А чаго яго любіць? Ён не баба.

— Яно, можа, і так, але ж, мяркую, якое хараство — лес... Зірні навокал. А спыніцца, паслухаць. Ветрык падзьме, і шолах пойдзе, зашумяць

дрэвы. І слухаў бы тое ці ўдзень, ці ноччу ля вогнішча.

— Цх-х-х,— выдыхнуў Карнюшка.— Дзівак ты, Рыгорка.

Рыгор працягваў:

— Я ў арміі, ты ж ведаеш, далёка адсель служыў, усякага пабачыў. Там таго, што ў нас, і блізка няма. Таму і цягнула дамоў, кожнае дрэўца ў думках успаміналася, кожны кусцік, рэчка наша гаротная, невялічкая. Вось аб моры спяваюць, кніжкі пішуць. А лес наш горш за тое мора? Не...

— Дзіўны ты чалавек,— зноў ахалодзіў яго Карнюшка.— А нам, татарам, адзін чорт!

— Дрэнь ты, братка,— памаўчаўшы, сказаў Рыгор.

— Малады яшчэ лаяцца на мяне,— засычэў пакрыўджана Карнюшка.— Пажыві з маё, паспытай ліха.

— Табе людзі паверылі, грошы далі, а ты як таракан, усё б зжор.

— Людзі тыя жыцця не ведаюць нашага. Ім у цацкі гуляць. А жыццё — гэта ведаеш што?

— Ну?

— Натуральны адбор. Нехта гіне, каб другі жыў.

Рыгор здзівіўся:

— Ты, дзядзька, разумнік сваёй гадоўлі.

— Анягож,— згадзіўся Карнюшка.

— А ў сталіншчыну ты што рабіў?

Карнюшка папярхнуўся.

— Што вярзеш, хлопец? У які бок?

— Ведаеш жа, на што намякаю, у які бок хілю.

— Цьфу! — плюнуў Карнюшка.— Я ў тыя гады, калі цябе, да слова, і ў праекце не было, падшыванцам бегаў. Ды што ты можаш аб тым часе ведаць?

— Характар у цябе адпаведны. Неблагія стукачы з такіх выходзілі. У кожнай вёсачцы, у кожным калгасе, а ў горадзе ў кожным двары свой стукачок. Пашчыравалі крывасмокі!

— Лухта. Я пры чым? А вось ты даўно ў мяне на падазрэнні.

Рыгор здзівіўся.

— Гавары, ну!

— Скажу. Мяркую, кантужаны ты быў ці паранены ў галаву. А сёння дабавілі, дык ты і балбочаш абы-што і злуеш. Дурня ж і ў царкве б'юць.

Тое, што ён, як казалі ў іх вёсцы, хацеў лізнуць, а выйшла, што гаўкнуў, Карнюшка зразумеў адразу, бо Рыгор спыніў машыну.

— Вось што, дзядзька. Слухай мяне. Рабі зараз жа тое, што людзям абяцаў, а потым сам, дарэчы, вымятайся!

— Ты што, Рыгорка? — залісіў Карнюшка.— Я ж пажартаваў, а ты ўсур'ёз. Ну куды я пайду на ноч гледзячы? У лесе? А ваўка навошта адпускаць? Яшчэ пакусае каго, бяда будзе!

Рыгор адчыніў кабіну і зазірнуў праз борт у кузаў.

— Я сам яму волю дам. Людзі грошы сабралі, спадзяваліся. А ты вёску нашу ганьбіш!

Луп драмаў, але адразу ачуняў, калі машына спынілася, і моўчкі рвануўся да Рыгора, які закінуў нагу на борт. Той адхіснуўся.

— От дурань. Я ж цябе вызваліць хачу!

— А ён не хоча! — узрадаваўся Карнюшка.

Не дастаўшы Рыгора, Луп больш не лажыўся. Голад і боль у параненай лапе зноў пакрысе развярэджвалі ў ім лютасць. Машына, між тым, стаяла на месцы, а Гаспадар з Рыгорам спрачаліся, і ў голасе Рыгора ён чуў уладныя інтанацыі, а Гаспадар адказваў, як залежны. І зноў у яго свядо-

масці ўзніклі дзіўныя думкі аб тым, што Гаспадар не такі ўжо ўсемагутны і моцны, якім здаваўся дагэтуль. Сёння ён упершыню мог параўноўваць таго з іншымі людзьмі, асабліва на рынку, і параўнанне было не на карысць Гаспадара.

— Вылазь, дзядзька,— стаяў на сваім Рыгор.

— Паехалі,— енчыў Карнюшка.— Ну што ты такі злосны, Рыгорка? Не паспаўшы, не паеўшы, а хутка і цямнець пачне...

— Каб не з адной мы вёскі, дзядзька Сямён, я б цябе проста выспеткам у азадак! Няхай бы пахадзіў з ваўком па лесе, пашпацыраваў у нерушы, мо хто з вас і злупіў бы з другога шкуру па дарозе.

— Хе-хе-хе,— з палёгкай засмяяўся Карнюшка. Ён адчуў, што навальніца мінула і Рыгор памякчэў.

Яны зноў паселі ў кабіну, і машына рушыла. Рыгор доўга маўчаў, думаў аб нечым сваім, выкурыў цыгарэту, а потым, калі Карнюшка пачаў было дзяўбці носам, сказаў:

— Не спі, дзядзька. У дарозе, кажуць, без размоў, што ў хаце зімой без дроў. Дык ты як, жывёлу сваю выпусціш ці папрэш здаваць у райзаг?

— А навошта лішняе звяно ў прыродзе? Няхай за яго лепш авечка жыве. Яму ўсё роўна гамон, а я сто рублёў страчу.

Рыгор здзівіўся.

— А ці салодка небараку на ланцугу? Што за жыццё?

— Жыць многія хочуць — і пасцельныя клапы, і мухі, і чарвякі, што ў страўніку, бывае, завядуцца,— сказаў Карнюшка сугучна думкам, якія чуў на рынку.— Але не ўсім ім жыць дазволена.

— Цьфу, параўнаў! — Рыгор зноў здзівіўся такім яго словам.

— То маўчы. Адзін уратуе, а другі заб'е. А што атрымаецца, калі мы яго ў лесе пакінем? Ён жа сам сабе ежу не здабудзе. Загіне.

— Ну, гэты хутка навучыцца. А загіне — дык хоць вольны.

Ехаць было яшчэ парадкам. Гутарка іх з узаемнымі папрокамі (Карнюшка, праўда, больш не рызыкаваў абразіць Рыгора) памалу перабівалася ўсё больш працяглымі паўзамі, а потым і ўвогуле спынілася. Карнюшку па-ранейшаму хіліла ў сон. Праз якую гадзіну ён ужо спаў. Галава яго апусцілася на грудзі, і ён нават захроп. Рыгор некалькі разоў знарок піхнуў яго плячом, але той не прачынаўся. Тады ён спыніў машыну, рухавік не выключаў і зірнуў праз акенца ў кузаў. Ужо цямнела, але ён убачыў Лупа, як двума агеньчыкамі бліснулі яго вочы.

Рыгор асцярожна вылез з кабіны і зазірнуў за борт.

— Не бойся, дурань,— сказаў ён.

Словы хутчэй адносіліся да яго самога, бо каб смела залезці ў кузаў і скінуць з ваўка аброжак з ланцугом — на гэта ён рызыкнуць не мог. Але нешта трэба было зрабіць менавіта цяпер, пакуль Карнюшка спаў. Рухавік, між тым, заглух.

Луп змрочна зірнуў яму ў вочы і злёгку прыўзняў верхнюю губу, так што агаліліся вострыя белыя іклы. І тады, баючыся, што прачнецца абрыдлы яму чалавек і перашкодзіць зрабіць тое, што ён даўно хацеў зрабіць, Рыгор стаў на прыступку кабіны, намацаў, гледзячы ў насцярожаныя бурштынавыя вочы, вузел ланцуга, разблытаў яго, размахнуўся і выкінуў за борт.

Ланцуг бразнуў у цішыні. Нерухома стаялі абапал дарогі дрэвы, дробнае кустоўе, зелянелі яшчэ высахлыя папаратнікі. Там-сям хіліліся долу па-

валеныя сухія галіны елак. Карэнні, мох. У вышыні ціха-ціха шумелі верхавіны соснаў. Невядомая птушка раптам жаласна крыкнула адтуль, потым яшчэ раз, але ёй ніхто не адазваўся.

— Скачы,— сказаў Рыгор.— Калі пашанцуе, то і сам пазбавішся ад ашыйніка, можа, і жыць будзеш. А не скочыш — такі табе лёс: назад у сабачую будку ці шкуру ў райзаг.

Луп зірнуў на яго спадылба, вочы ваўка зноў блiснулі, і Рыгор не вытрымаў позірку. Луп жа раптам адчуў, што нешта змянілася. Пад нагамі быў усё той жа насціл кузава, побач смярдзючая рэч, ад якой патыхала машыннай змазкай (гэта быў рухавік); стаяў паблізу лес, шапацелі ўсё тыя ж сосны, але нешта было не так. Ланцуг. Ён быў адвязаны і ляжаў за бортам. Луп убачыў, як Рыгор вынес з кабіны рукавіцы, надзеў іх, падышоў ззаду да машыны, падняў з зямлі ланцуг і пацягнуў. Цяпер ён не сумняваўся ў тым, што яму рабіць. Але сэрца забілася хутчэй, калі ён, як і раніцай, скокнуў уніз. На зямлі ён не ўтрымаўся на нагах і ўдарыўся пысай, бо зноў адчуў рэзкі боль у лапе, але неўзабаве ўжо стаяў. Ён бачыў, як Рыгор адступіў да кабіны, залез туды і машына кранулася з месца, абдаўшы яго смярдзючым дымам. Ён чхнуў і збянтэжана саступіў убок. Доўга яшчэ ён прыслухоўваўся да шуму машыны, якая аддалялася ўсё далей, і ўрэшце здагадаўся: ён вольны. Дрыжыкі хваляй прайшлі па яго спіне.

Луп скокнуў з дарогі, але ланцуг знаёма звягнуў і ўдарыў яго па грудзях. І тады ён зноў не вытрымаў. Як не раз у мінулым, ён з лютасцю накінуўся на жалеза, кусаў і грыз яго, скакаў убакі, матляў галавой, але дарэмна — ланцуг цупка трымаў яго за горла і катаваў сваёй непераможнасцю.

Успышка шалёнасці прайшла, і ён у знямозе ўпаў на зямлю і доўга ляжаў, часта дыхаючы. Хацелася піць. На імгненне ён задрамаў, але неўзабаве ўскочыў на ногі. Прыкметна ўжо сцямнела, і на небе між соснаў там-сям заблішчалі зоркі. Слабы вецер амаль сціх, але вершаліны дрэў ледзь-ледзь хісталіся і часам рыпелі. Бразганне ланцуга, які цягнуўся за ім, перашкаджала яму слухаць. Некалькі разоў ланцуг чапляўся за сасоннік, за сухія галіны паваленых дрэў, потым за сук. Луп доўга кідаўся ўбакі, пакуль урэшце сук трэснуў.

Ён не ведаў, куды бег і колькі, але нешта падказвала яму, нейкае падсвядомае пачуццё выбірала напрамак. І вось перад ім бліснула шырокая паласа вады. То была меліярацыйная канава. Ён збочыў, прагна папіў і пабег уздоўж яе.

Праз нейкі час на шляху яго паўстаў невялічкі мост. Ён быў драўляны, з такімі ж парэнчамі і стаяў на драўляных палях. Луп з маху ўскочыў на мост і амаль перабег на другі бок, як раптам ланцуг, які цягнуўся за ім збоку, праваліўся ў шчыліну паміж дошак, і ён заараў пысай ад нечаканага штуршка. Са злосным адчаем ён адчуў, што зноў палонны і воля яго абмежаваная зненавідным ланцугом. Ён доўга шалёна рваўся, але дарэмна. Ланцуг трымаў яго. І тады ён лёг на дошкі і заціх.

Імкліва надыходзіла доўгая восеньская ноч. Цэлы россып зорак мігцеў у небе, якое ачысцілася ад хмар: то быў Млечны Шлях. Толькі яго дыханне ды тонкі, нібы камарыны, гук далёкай аўтамашыны парушалі цішыню. Але гук усё мацнеў і мацнеў, і ён трывожна ўзняў галаву і неўзабаве ўбачыў, як на пагорку бліснулі фары і сталі няўмольна набліжацца, і тады ён падхапіўся і рвануўся, спадзеючыся вызваліцца, але дарэмна —

ланцуг трымаў моцна, і ён зноў лёг і прыціснуўся да дошак.

*18 гадзін.*

Мастак дабіраўся на спадарожнай машыне, але мусіў пакінуць яе, падзякаваў шафёру — той паехаў у іншы бок — і зноў апынуўся ў бязлюдным месцы. Сутонела. Ён доўга стаяў на дарозе ля драўлянага шчыта — хаваўся ад ветру, пакуль яго не падабраў аўтобус.

У аўтобусе ехалі вясельнікі. Пасля таго, як шлюб быў зарэгістраваны ў сельсавеце, маладыя накіроўваліся ў вёску, дзе жылі бацькі нявесты і дзе іх даўно чакала застолле.

Наперадзе, справа ад вадзіцеля, сядзеў жаніх. Таўсматы, [redacted] нізкім пад цёмным чубком. лобікам, брывасты і з платаядным шырокім ротам, ён амаль не прымаў удзелу ва ўсеагульным гармідары, трымаўся паважна, нібы Буда. Побач [redacted] ім уладкаваліся сябры, сваякі, знаёмыя. Ззаду чуўся дзявочы віск, смех, успыхвалі песні — там сядзела нявеста. Гэта была звычайная дзяўчына з круглым, крыху кірпатым тварам, які прыхарошвалі шэрыя вочы. Яна часта ўсміхалася, і тады на пярэднім зубе цьмяна бліскала залатая каронка.

Каб дарога не была сумная, усе пасажыры акрамя маладых паспелі прысмактацца [redacted] бутэлек і весяліліся. як хто мог. Мужчыны ўключылі магнітафон, і заліхвацкая песня грымнула моцнымі маладымі галасамі: «Мой адрес не дом и не улица — мой адрес Советский Союз...» Сват, каржакаваты дзядзька гадоў трыццаці пяці, з ручніком праз плячо, ускочыў і хацеў нават станцаваць, але пахіснуўся і пад агульны рогат упаў на сядзенне. Усіх хістала і трэсла на палявой дарозе.

За вокнамі ў святле фар цягнулася ўвесь час адно і тое ж: кустоўе вербалозу абапал дарогі, часам пабеленыя бетонныя слупкі ці пні абы-як спілаваных дрэў — па нечым вар'яцкім загадзе паўсюдна нішчылі прысады.

Раптам праз гудзенне рухавіка, шолах шын, музыку і шумную гамонку ў аўтобус прасачыўся яшчэ адзін гук. Спачатку ледзь чутны, ён спакваля мацнеў, узнімаўся ўсё вышэй і прымусіў усіх прыслухацца.

Уладальнік магнітафона выключыў музыку.

— Што за канцэрт і хто спявае?

Шафёр, малады прышчаваты дзяцюк, якога ўсе звалі Пецяа, спыніў аўтобус, але фары не выключыў, і ўсе ўбачылі, як на драўляным мастку бліснулі ім насустрач два агеньчыкі — вочы, а ў вушы выразна ўварвалася працяглае, ніколі раней не чутае жудаснае выццё.

— Сабака сядзіць і вые,— сказаў Пеця.

— Чаму, навошта, што здарылася? — пыталіся ззаду дзяўчаты і выцягвалі шыі.

Потым усе сцішыліся, і запанавала маўчанне, у якім існаваў толькі адзін працяглы жудасны гук.

— Калі на дарозе так завылі — не да дабра!

— І праўда, нядобра!

— А тут вяселле — дрэнная ж прыкмета!

Сват устаў са свайго месца.

— Ціха,— сказаў ён,— чым забабоны разводзіць, пайшлі паглядзім, што там.

Пеця адчыніў дзверы, і мужчыны падаліся наперад. Мастак выйшаў разам з усімі. Вылезлі і дзяўчаты, а за імі і жаніх з нявестай.

— Глядзіце ўсе сюды,— сказаў сват.— Сабака зачапіўся ланцугом. А то ўжо прымхі розныя збіраеце!

— Іш, небарака.

Пеця апынуўся бліжэй за ўсіх да жывёлы і пацягнуўся да ланцуга. Ён быў спрытны, і да таго ж свабодная частка ланцуга была з які метр — паўтара,— толькі таму ён паспеў адскочыць, бо Луп моўчкі кінуўся на яго.

— Цьфу ты, чорт!

— Бач, колькі злосці.

— Ну і стварэнне!

— А чаму ён не брэша?

— Шалёны, пэўна.

Пакрысе перад мастком сабралася ўсё вяселле. Да Лупа падыходзіць ніхто, аднак жа, не адважваўся.

— Калі шалёны, то чаму на ланцугу?

— Сарваўся і бегае.

— Прыстрэліць трэба!

— Чым жа яго прыстрэліш?

Мастак падышоў бліжэй і спыніўся разгублены. Але ж бывае, што і бык лятае. Перад ім, несумненна, быў той самы воўк, якога, ён бачыў, раніцой прадавалі на рынку. Тая ж вялікая, лабатая галава, падгалісты жывот, нават ланцуг з аброжкам тыя ж. Мастак меў добрую зрокавую памяць і не мог памыліцца. Але як апынуўся воўк тут і ў гэты час? Збіралі ж грошы на рынку, каб выкупіць жывёлу, і ён таксама даў, але цяжка зразумець, чаму ўсё скончылася тут, на мастку праз канаву. Хаця можна і здагадацца: выпусцілі на дарозе, а ланцуг не знялі — вось і вынік. Эх, каб спытаць жывёлу. Але ж гэта немагчыма. Мастак нават успомніў, што мянушка ваўка — Луп, і хацеў паклікаць яго, але мусіў спыніцца. Невядома, як стане паводзіць сябе вяселле, калі даведаецца праўду.

— І я кажу, шалёны,— пачулася з гурту.

— А як праехаць? Ён жа замінае.

— Што ён — перашкода?

— Мне нешта ніякавата,— сказала нявеста і дадала няўпэўнена: — Па-мойму, гэта воўк. Я ў дзяцінстве бачыла забітага. Бацька прывёз аднойчы.

Жаніх засмяяўся.

— Ці ж ваўкі на ланцугах бегаюць?

Нявеста пацепнула плячыма і сказала:

— Вусцішна нешта. Пайду ў машыну.

— Чаго мы стаім? — спыталі з гурту.

— Паехалі. Нас чакаюць.

— А ён? Мост жа вузкі.

— А ты адчапі паспрабуй!

— Спазняемся, паехалі!

Мастак асцярожна заўважыў:

— Не трэба з пляча сячы — жывое ўсё-такі.

— Ідзі і вызваляй!

— Пакусае, унь які злосны! І маўчыць увесь час, а такія знянацку і кусаюць.

Пеця зачапіў нагой каменьчык і шпульнуў у жывёлу.

— Праз яго не паеду.

— Сітуацыя.

— Не да дабра гэта.

— Каркаеш абы-што!

— Вып'ем пакуль.

— Дай і мне.

Нехта нахіліўся долу, і зноў каменьчык паляцеў у жывёлу. Луп кінуўся, і ланцуг зноў не пусціў яго.

— Эйш, не спадабалася!

— Сарвецца — дык каго-небудзь добра абдзярэ.

— Чаго на яго глядзець, вунь камення колькі!

— Зброя пралетарыяту!

— Ану дай!

Убаку ад мастка сапраўды ўзвышалася куча

камення: дробнага і вялікага — усё, што вясной пазбіралі з палеткаў. Да камення пасунуліся некаторыя з хлопцаў.

— Патраплю ці не?

— Г-э-х-х!

— Замятаўся, як Марка па пеклу!

— Бі!

Мастак стаў на масток.

— Досыць, хлопцы! Не ганьбіце сябе!

— Шалёны ж!

— Канчай яго!

— Не трэба,— сказаў няўпэўнена жаніх.— Якнебудзь аб'едзем.

— Праскачу,— падтрымаў яго ўжо і Пеця.

— Будзьце людзьмі,— сказаў Мастак.

— А мы што, не людзі?

Мастак адразу зразумеў, што зрабіў памылку. Пэўна, ва ўсякім зборышчы малазнаёмых людзей трапляюцца істэрычныя і злосныя. І вяселле не абышлося без такіх. Той, хто выкрыкнуў яму пра людзей, быў даволі высокі, але вузкаплечы хлопец гадоў дваццаці. Сальныя пасмы спаўзалі на яго вузкі лоб, вочы ён адводзіў, а рот быў шырокі, як у ментуза.

Мастак прамаўчаў.

— Сеў на халяву і камандуе! — выкрыкнуў зноў велікароты. Ён кінуўся да кучы, дзе выхапіў важкі камень.

— Я яго!

Ён не трапіў у Лупа, але цяпер нібы прарвалася нябачная плаціна, і каменне палядела з усіх бакоў. Азартна, з віскам, кідалі і дзяўчаты.

Мастак схапіў велікаротага за рукі.

— Спыніся! Крыві захацеў?

Той істэрычна завішчаў, вырываючыся. Некаль-

кі рук ухапілі Мастака за штармоўку, адцягнулі ўбок.

— Адпусціце, дурні! Звар'яцелі, ці што?

— Трымайце яго! — вішчаў велікароты.— Трымайце, а то я за сябе не адказваю!

Луп кідаўся на ланцугу, і дыханне яго з хрыпам вырывалася з горла. Адзін камень трапіў убок, другі — у грудзі, трэці — у спіну. Ён не ведаў, чаму людзі напалі на яго з такой варожасцю. І зноў на нейкае кароткае імгненне яго ахапіла пачуццё адзіноты і вялікай тугі, як і тады, калі ён ляжаў збіты аўчаркай і Рэкс рыхтаваўся перагрызці яму горла.

Камень перабіў яму пярэднюю лапу, другі трапіў у галаву, і пацэліць у яго стала зусім лёгка. Мастак вырываўся, але яго трымалі моцна. Ён бачыў, як велікароты збегаў да аўтобуса і выскачыў адтуль з рыдлёўкай. Убаку раўнадушна назіраў за ўсім сват і раз-пораз, як астраном, задзіраў галаву і падносіў да рота бутэльку. Велікароты адпіхнуў аднаго, другога, прарваўся праз гурт і з размаху сякануў рыдлёўкай. Праз хвіліну ўсё было скончана. Не гледзячы адзін на другога, усе пацягнуліся да аўтобуса. Засталіся велікароты і шафёр Пеця. Мастака адпусцілі.

— Трэба ехаць,— вінавата сказаў яму Пеця.

— З вамі не па дарозе.

— Я ж не хацеў, казаў, што не варта.

— І як цяпер у вочы будзеце адзін аднаму глядзець?

— Палайцеся, і паедзем!

— Праз яго? — спытаў Мастак і кіўнуў на Лупа.

З машыны засігналілі, замігалі фарамі, а потым святло пагасла.

— Адцягнем убок,— згадзіўся Пеця.— У мяне ліхтарык ёсць, зараз запалю.

Велікароты не адыходзіў, прыслухоўваўся.

— Не ў канаву ж яго,— сказаў Мастак.— Закапаць трэба. Жорсткасць якая нялюдская. Гады вы!

— Дык мы яшчэ і гады! — зноў узвіўся велікароты.— Чуеце, мужыкі? — крыкнуў ён.

Тыя, хто яшчэ не паспеў залезці ў аўтобус, спыніліся.

Луп ляжаў на баку. Ён быў яшчэ жывы, калі мужчыны асвяцілі яго ліхтарыкам. Мастак расшпіліў тугі аброжак, такі тугі, што поўсць на шыі была выцертая да скуры, і зняў яго. Разам з ім упаў і ланцуг. І Луп, правальваючыся ў бездань, праз боль, які выцякаў з яго разам з жыццём, усё-такі краем падсвядомасці адчуў, як ланцуг упаў з яго, і падзівіўся таму, што воля і смерць прыйшлі адначасова.

Мастак распраміўся і зрабіў крок да велікаротага.

— Пагляджу на цябе. Можа, дзе сустрэнемся!

Нехта кінуў яму пад ногі рукзак, і Мастак усцягнуў лямкі на плечы.

— Абражаць? Мяне? — велікароты піхнуў яго ў твар.

Мастак зрабіў крок наперад, і рука яго ўзляцела ў паветра. Кулак трапіў велікаротаму ў сківіцу, і той, ікнуўшы, паклаўся на зямлю.

— Нашых б'юць!

Мастака зноў схапілі за рукі, скруцілі ззаду. Велікароты падхапіўся, патрос галавой, прыходзячы ў сябе, і ўдарыў яму нагой раз, другі. Вакол завіхаліся, перашкаджалі адзін другому. Нехта ўвесь час тыцкаў Мастаку збоку кулаком у твар.

— На ланцуг яго!

— Вяжы рукі!

Неслі ўжо ланцуг, накінулі на шыю аброжак, зашпілілі. Ад аброжка пахла псінай. З аўтобуса выскачыў Пеця, за ім вылез і жаніх.

— Вам прыгод мала?

— Пакіньце яго!

— Не,— сказаў велікароты.— Ён нас усіх абразіў.— Няхай на ланцугу паскача!

Мастака пацягнулі да аўтобуса. Канец ланцуга прывязалі да фаркопа, а рукі сцягнулі ззаду вяроўкай.

— Завадзі! — велікароты махнуў рукой.

— Я на волі не занудзіўся,— сказаў Пеця.— Не хачу з вамі за краты.

— Змоўкні ты, гнілы! — накінуўся на яго велікароты.— А то і цябе на ланцуг, разам пойдзеце! А я машыну павяду, ды не на першай перадачы, а на трэцяй. Пабегаеш, сука!

Пеця прыкметна разгубіўся.

— Што вы надумалі? — спытаў трывожна жаніх.— Якія гэта жарты — чалавека на ланцугу цягаць?

Але яго ўжо вялі ў аўтобус, паляпвалі па плячах, угаворвалі не хвалявацца.

— Няхай ахалодзіцца крыху,— падтрымаў велікаротага сват.— Правязём крыху, як сабаку, каб не абражаў вяселле, а потым адпусцім.

— Паехалі!

Яны паўскоквалі ў машыну. Панура палез туды і Пеця. Дзверы зачыніліся. Аўтобус крануўся з месца, і Мастак адчуў, як рыўком яго тарганула ўперад, ланцуг нацягнуўся, і ён міжволі ступіў услед. Прама перад сабой, за шклом, ён убачыў усмешлівыя твары, і дзяўчаты таксама смяяліся

і глядзелі на яго. Яны там нешта казалі адзін аднаму, але ён не мог чуць.

Пачынаўся дождж са снегам, раптоўна знікаў, і неба ачышчалася ад хмар, але набягалі новыя, і зноў твар яму асыпала дробнай імжой. Напаўпусты рукзак з'ехаў са спіны і біў па нагах. Мастак уявіў, што, пэўна, мае дзікі і недарэчны выгляд са звязанымі рукамі, на ланцугу і рукзак зваліўся з плеч. Але ж ён зрабіў усё, што мог, і не яго віна ў тым зневажальным становішчы, у якім ён зараз апынуўся. Не, не яго.

З асветленага аўтобуса нехта ўключыў ліхтарык і накіраваў на яго. Усе яны там, за шклом, здаваліся Мастаку бязглуздымі рыбамі ў акварыуме. Аброжак сціскаў яму шыю, але дыхаць ён мог. Вось толькі каб яны сапраўды не прыбавілі ў хуткасці, бо яго пацягне волакам.

Ён стараўся думаць аб іншым. Аб тым, напрыклад, ці такія ўжо бязглуздыя рыбы? Ці можа быць бязглузды кіт, які хаця і не рыба, а плавае дзе-небудзь у далёкім акіяне? А коршак у небе ці крот у зямлі? Дзерсу казаў на жывёл: людзі. Так, яны таксама народы, якія па трагічнай выпадковасці трапілі разам з намі ў нерат жыцця, зямных пакутаў, у нерат часу.

З-за шкла на яго больш ніхто не глядзеў. Аўтобус пайшоў хутчэй, там зноў уключылі магнітафон, і яму нагадалася, што пра яго ўвогуле забыліся. Мастак падумаў, што калі б ён здолеў вызваліць рукі, то лёгка расшпіліў бы і ашыйнік, але яго звязалі грунтоўна, а рук ён ужо амаль і не адчуваў. Вось каб ланцуг аказаўся стары, то ён мог бы і парвацца.

Ён раптам успомніў бацьку, які памёр у далёкім дзяцінстве, і як яны ішлі аднойчы летам да цягніка і ён усё енчыў: «Хачу піць». Бацька падвёў

яго да студні і апусціў вядро, але, калі стаў падымаць, ланцуг нечакана парваўся. І тады бацька сказаў яму, што ніводны ланцуг не бывае мацнейшы за самае слабае сваё звяно. Толькі пасля Мастак зразумеў сэнс яго слоў, якія ўспомніў цяпер.

Яго ўжо цягнулі волакам, і ён задыхаўся. Некалькі разоў ён крыкнуў, але яго не чулі. Дым з выхлапной трубы трапляў яму ў твар, кроў штуршкамі біла ў скроні. Яго нудзіла. Часам на тым кавалку неба, якое скакала перад вачыма, ён бачыў буйную, самотную зорку, і яна таксама скакала ў далёкай вышыні і, здавалася, рабілася ўсё больш яркая, і хмары адступалі перад ёй, пакуль не адышлі зусім.

*1988 г.*

# ПЕРАПРАВА

Каля невялікай вёскі на ўзбярэжжы ракі французскае войска рыхтавалася да пераправы на другі бераг. Да вады, па якой ужо там-сям плыў першы лядок, з лесу, з дарог ехалі абозы, з усіх бакоў сцягваліся конныя і пешыя салдаты.

Убаку ад дарогі ўзвышаліся замшэлыя валуны. Бялелі паплавы за ракой, а далёка за імі дыміліся каміны. Рып асвераў адтуль ледзь чутным рэхам адбіваўся ў прыбярэжным лесе.

Ад самой вёскі засталося ўсяго некалькі хат. Астатнія разабралі сапёры генерала інжынерных войск Эбле. У ледзяной вадзе ракі на глыбіні, якая ў іншых месцах броду дасягала шасці футаў, салдаты пачалі забіваць першыя палі. Стаяў лістапад, і навокал ужо ўсё было прысыпана снегам. Пантанёры, глынуўшы віна (на беразе грувасцілася некалькі бочак з выбітым верхам), лезлі ў ваду, цягнулі бярвенне, валілі сосны, вылазілі на бераг, каб крыху пастаяць ля вогнішчаў, і зноў спускаліся да вады, уваходзілі ў сцюдзёную плынь.

Да адной з уцалелых хат пад'ехалі сані. Адкінуўшы падраны дзяружны полаг, з іх вылез афіцэр у зношанай футэрцы. У левай руцэ ён трымаў саквяж, прышпілены да запясця ланцужком.

— Пачакай, Франсуа,— сказаў ён фурману,— зайду сюды, спытаю.

Кульгаючы, бо адседзеў нагу, пакрочыў да хаты. Раптам ён заўважыў некалькі трупаў, якія

былі складзены непадалёку. Мёртвых накрылі радном, і пасінелыя іх ногі тырчалі з-пад яго. Снег быў чырвоны ад крыві, і ён падумаў, што людзі, напэўна, былі забіты нядаўна.

Шырокі і цяжкі, ён ледзь прасунуўся ў дзверы. Калі увайшоў, ажыўленая гутарка змоўкла. Некалькі п'янаватых афіцэраў сядзелі на лаўках. У печы гарэла галлё, пахла дымам. На забруджаным стале — рэшткі ежы, напаўпустыя бутэлькі. Ля самых дзвярэй корпаўся салдат-дзяншчык.

— Прывітанне ўсім! — сказаў афіцэр з саквояжам.— Дазвольце крыху абагрэцца.

— Вядома, можна, калі ласка,— запрасіў круглагаловы і даўганосы з зарослым шчаціннем тварам капітан. Ён ускочыў і ў знак памяркоўнасці нават неяк дзіўна дрыгнуў тонкай нагой.— Мы прымаем усіх!

— Я інтэндант, шукаю маршала Дару,— не звяртаючы ўвагі на прытоены здзек, адказаў афіцэр.— Вязу, між іншым, сакрэтную пошту.

— І чым вы гэта дакажаце? — радасна спытаў капітан. Усе моўчкі разглядалі чужынца.

— Калі доказ патрэбны, то вось ён,— інтэндант дастаў паперу, разгарнуў і аддаў капітану.

Той моўчкі прачытаў і вярнуў яе. Твар яго з лагоднага стаў сумны.

— Сядайце. Ваш Дару з усімі сваімі тылавікамі дзесьці паблізу. Дакладна не ведаем. Чым можам служыць?

— Анічым. Паеду шукаць далей.

— Вы не з Грэнобля? — нечакана спытаў капітан. У вачах яго мільгануў агеньчык.

— Але. Як вы здагадаліся?

— Па дыялекце. Дый такая ў нас служба. Капітан разведкі Жэрар,— адрэкамендаваўся ён,— проста Жэрар, бо мы не называем свае прозвішчы.

— Проста Анры,— усміхнуўся ў адказ інтэндант.— А вы адкуль, капітан!

— З Брэтані.

— Будзем знаёмы,— інтэндант працягнуў па чарзе кожнаму руку.

Афіцэры назвалі сябе. Адзін з іх гаварыў па-французску з акцэнтам. «Найміт»,— вызначыў інтэндант.

— У месцы размяшчэння арміі могуць знаходзіцца рускія лазутчыкі,— растлумачыў капітан.— Магчыма, заўтра тут пачнецца пераправа. А магчыма, і не. Рускія пакуль што не павінны нічога ведаць. Геній імператара вызваліць нас з гэтых балот, але ж і мы мусім выканаць свой абавязак.

— Усё так складана? — спытаў інтэндант. Ён адхіліў прапанаванае яму віно.

— Самі бачыце. Рускія заціснулі нас з трох бакоў, але ж маршал Удзіно прыдумаў хітрасць,— капітан прыжмурыў вочы.— За гэтым, як яго — Барысавам,— ён старанна выгаварыў назву незнаёмага горада,— унізе па рэчцы будуецца яшчэ адна пераправа. Якая з іх сапраўдная — ведаюць нямногія, ну і я ў тым ліку. Маскавіты павінны заглынуць прынаду. Мы ж тым часам палюем тут розных падазроных. На ўсялякі выпадак. Бо вопытны разведчык адразу зразумее, якая будуецца пераправа — сапраўдная ці не.

— І многа напалявалі? — спытаў інтэндант.

— Пэўна ж, убачылі там, за хатай. Не гаварыце пра іх нікому, Анры! — капітан жартоўна пагразіў пальцам.— Але вас нічым не зацікавіш, месье інтэндант?

— Не вельмі,— згадзіўся той.— Там, за хатай, што — усе шпіёны?

— А хто дакажа мне, што вось ён не шпіён? —

пытаннем адказаў капітан і кіўнуў на салдата-дзеншчыка.— Ці, напрыклад, вы? — ён хіхікнуў ад свайго жарту.— Але ж вашу асобу пацвярджае маршал, а яго я ведаю даўно (ён зноў кіўнуў на дзеншчыка, які слухаў яго ненатуральна ўважліва, аж вырачыў вочы). Ну, а тых, за хатай, ніхто не ведае. Лазутчыкі, вядома, не бяруць з сабой ніякіх дакументаў.

— Вось як? — нібы сумняваючыся, здзівіўся інтэндант.— А мне здалося, што тут усё ціха.

— Памылка тылавікоў — лічыць, што ў іх ціха,— улез у гутарку лейтэнант з вуграватым, у невялікіх скулах тварам.— А тут можна застацца і назаўсёды. Казакі насядаюць на плечы.

— Маўчы, Шарль,— сказаў капітан.— Не трэба пужаць госця.

Інтэндант абыякава праглынуў кепік. Ён стомлена прыслухоўваўся да гаворкі, да крыкаў, шуму звонку. На выгляд яму можна было даць і пад сорак, хаця на самай справе не было і трыццаці. Ладная галава, шырока расстаўленыя вочы. Пачырванелыя на марозе шчокі ўсе ў драпінах, але паголеныя. Амаль не прыслухоўваючыся да гаворкі, ён задумаўся аб нечым сваім.

Рускі паход, які маляваўся спачатку прываблівым праменадам, вылазіў бокам. Ззаду засталася спаленая Масква, наперадзе — невядомае. Ні хвіліны спакою: падавай звесткі аб пудах мукі, сена, аўса, хлеба, солі... Тыл стаў небяспечны — трывожаць казакі, мясцовыя ліцвіны паляць сена, забіраюць фуражыраў і маркітантаў. Няма дзе памыцца, адпачыць... Вайна. Салдаты пачалі ператварацца ў марадзёраў, забойцаў. І бруд, паўсюдна бруд, нечыстоты. Тое, што хавалася ў людзях глыбока на дне душы, цяпер кіруе іх учынкамі.

Пасля Барадзіно ён лічыў, што бачыў у жыцці

ўсё. Досыць. Вайна не для яго. Адзінае, што цікавіць яго далей,— ён сам. Інакшы ён ці такі, як усе?

— Я інакшы,— прамармытаў ён.

— Крыху гучней,— нагнуўся да яго хтосьці з афіцэраў.

— Так, нічога,— ён расплюшчыў вочы і зразумеў, што апошнія словы сказаў уголас. Яго шырокі твар перасмыкнуўся. «Толькі не хапала адкрыць усім гэтым спрытнюгам свае думкі».

Раптам пачуліся невыразныя крыкі, бразнулі дзверы, падзьмула холадам. У хату нязграбна ўваліўся капрал у падраным мундзіры пад такім жа заношаным шынялём, але ў новых ботах.

— Спаймалі яшчэ аднаго,— далажыў ён.

— Хто такі? Дзе? — прыўзняўся капітан.

— Хаваўся ў лесе,— глытаючы словы, пачаў капрал.— Салдаты хацелі забіць, але ж ваш загад — спачатку ўсіх весці сюды. Я не даў.

— Дарэмна не даў,— раптам пазяхнуў капітан.— Бадай, цяпер можна і не весці.

Ён выцягнуў з кішэні гадзіннік, зірнуў на яго і ўталопіўся ў дзверы.

У хату ўцягвалі высокага дужага селяніна з сухім, гожым тварам, у кашулі, портках, лапцях.

— А дзе яго вопратка? — здзівіўся капітан.— Так і хаваўся голы? Дзе яго футра?

Капрал і салдаты сумеліся, глядзелі адзін на аднаго, нібы не разумелі, пра што ў іх пытае капітан. Кажух і ўсё цёплае яны даўно падзялілі.

— Падлаеды! — вылаяўся капітан.— Прэч адсюль, а яго пакіньце!

Селянін сутаргава пацёр далоні і агледзеў усіх у хаце. З-пад светлых пасмаў насцярожана бліснулі вочы.

— Як ты мяркуеш, гэты ліцвін лазутчык ці не? — звярнуўся капітан да найміта.— А можа,

ён не ліцвін? Спытай у яго. Папрактыкуйся, бо ў цябе апошні выпадак. Я чакаю важную вестку,— капітан пачынаў відавочна пасміхацца. Востранькі тварык найміта-перакладчыка, які, пэўна, не разумеў жартаў, наадварот, быў сур'ёзны і паважны.

— Тутэйшы? — спытаў наймiт па-мясцоваму.

— Адсюль,— расцяў вусны селянін.— З гэтай вёскі, пан афіцэр.

— Як назва вёскі?

— Студзёнка, пан афіцэр.

— Чаму ты адзін, дзе астатнія жыхары?

— Паўцякалі, мяркую.

— Ты яшчэ мяркуеш, быдла! — незалюбіў перакладчык.— Скажы праўду: цябе сюды нехта прыслаў? Што ты павінен тут выведаць?

— Я сам прыйшоў.

— А навошта, калі ўсе ўцяклі? Чаму адзін ты вярнуўся?

— Хату разбурылі. Хацеў паглядзець.

Усе, у тым ліку і інтэндант, прыслухоўваліся да незнаёмай гаворкі. Капітан наліў сабе віна, спытаў:

— Ну, што ён?

— Як тая каза,— сказаў перакладчык.

— Чаму — каза? — спытаў лейтэнант, якога звалі Шарлем.

— Калі казу нешта напужае,— засмяяўся перакладчык,— яна заўсёды вяртаецца, каб паглядзець, што гэта было. Так і ён.

— Лухта,— сказаў капітан,— жаночая ж звычка. А вось вопратку яго не пашкодзіла б праверыць дасканала. Мо які знак зашыты. Але ж дзе яе зараз шукаць, тую вопратку? Мусіць, капрал прадаў яе.

— Дык нічога не ведаеш? — спытаў перакладчык.

— Не ведаю, пан афіцэр.

— Не ведаючы шкодзіць — на гэта ўся ваша хеўра здатная.

— Што такое хеўра? — схамянуўся капітан.

Перакладчык тузануў галавой, але потым зноў утаропіўся вачамі ў твар палоннага.

— Адпусціце! — з пачуццём уласнай годнасці сказаў селянін.

— Спачатку ўсё раскажаш. А калі запамятаваў што-небудзь, мы табе пяткі галавешкай падагрэем.

— Пан афіцэр не зробіць такое.

— Салодка спяваеш, ды морда злая! — зазначыў перакладчык. Ён яўна пераймаў капітана. Апошнія словы былі для ўсіх і прагучалі па-французску.

— Так,— пацвердзіў капітан.— Там, дзе я нарадзіўся, гаварылі: дробнай рыбіне не варта гуляць з вялікімі — гэта небяспечна. Хап — і няма яе! А калі і была, дык хто дакажа?

За дзвярыма зазвінеў бляшаны посуд, на падлогу зваліўся квасны карэц — дзверы расчыніліся, і на парозе заззяў радасны твар хударлявага ад'ютанта па спецыяльных даручэннях.

— Ха-ха-ха! Рускія клюнулі! — рагатаў ён.— Усё-такі клюнулі, мой капітан! Яны адыходзяць: іх вогнішчы тухнуць... Берцье пра ўсё далажыў імператару.

— Ага! Я так і ведаў! — падхапіўся з лаўкі капітан.— Вось цяпер мы ім пакажам, дзе сапраўдная пераправа, возьмем рэванш за адступленне. Мая місія скончана,— кіўнуў ён ад'ютанту, звярнуўся да перакладчыка: — Што там?

— Нічога цікавага,— па-французску адказаў

той.— Пэўна, селянін з мясцовых.— Ён пераказаў змест допыту.

— Бандыт,— раўнадушна падагульніў капітан.— Расстраляць! Эй! — гукнуў салдатам.— Выконвайце!

Інтэндант уважліва разглядаў затрыманага. Ён успомніў, што рэкруты-ліцвіны з мясцовай губерні паказалі сябе мужнымі салдатамі пад Барадзіно. «Гэтым варварам усё роўна — што жыццё, што смерць»,— сказаў тады нехта ў штабе Дару. «Такімі і павінны быць сапраўдныя салдаты,— буркнуў на тое маршал.— Армія існуе, каб загінуць».

— Пачакайце, Жэрар,— звярнуўся ён да капітана.— Не забівайце яго, адмяніце загад. Гонару ні вам, ні імператару — забіць чалавека без зброі. Эй вы, хвіліну!

— Дарагі Анры, я выконваю загад.

— Лухта, капітан.

— Гэта лазутчык! — капітан п'яна тыцнуў пальцам у палоннага.— У мяне нюх, як у сабакі. Спудлаваць у апошні момант — не!

— Адмяніце загад! — раптам устаў з лаўкі інтэндант.

— Цьфу,— плюнуў той.— Я магу расстраляць і вас, нягледзячы на вашы паперы! Не суньцеся не ў сваю справу!

Падрапаны твар інтэнданта пайшоў плямамі.

— Маўчаць! — зароў ён. Рука ўжо цягнула нечы палаш.— Маўчаць, альбо я вас выклікаю!

Капітан ускочыў з лаўкі, п'яна пахіснуўся, пацягнуўся да зброі.

— Казакі! — закрычалі за дзвярыма.

Пачуліся стрэлы, дзынкнула, рассыпалася шыба. Усе, адпіхваючы адзін аднаго, пачалі выскокваць з хаты.

З лесу лавай выскачылі коннікі, з віскам рыну-

лі на салдат, на вогнішчы. Лаянка, крыкі, стрэлы — усё злілося ў гвалт і лямант.

«Калмыкі»,— вызначыў інтэндант. Ён ведаў, што яны не асноўныя сілы конніцы рускіх, а невялікія атрады, якія сноўдалі па тылах, наводзячы паніку. «Але ж, калі прарвуцца, пасякуць шаблямі»,— падумаў ён, выцягнуў з саквояжа пісталеты, узвёў куркі.

Апошні час вопытныя ў такіх справах салдаты хутка, як заўсёды ў хвіліны небяспекі, занялі абарону. Пярэднія ўкленчылі, выставілі штыкі. Заднія пачалі бязладна страляць з ружжаў. Конныя рассыпаліся па баках, некалькі зваліліся. Інтэндант чакаў з пісталетам напагатове. Раптам трохвуголка зляцела з галавы. Стралялі па ім. «Што такое? — мільганула думка.— Чаму ззаду?» Усё навокал мітусілася, мільгацела, нібы ў патрывожаным асіным гняздзе. Калмыкі зніклі раптоўна, як і з'явіліся. Ён падняў трохвуголку, разгледзеў дзірку. Нападалі з лесу, чаму ж стралялі ззаду?

«Дзе мае сані і куды знік Франсуа?»

Азіраючыся, паволі пайшоў назад, да хаты. Ён ішоў і разважаў, чаму вяртаецца туды, дзе яму, здавалася, няма чаго больш рабіць. І ўрэшце знайшоў адказ. Ён вяртаўся, каб капітан не палічыў яго баязліўцам.

Дзверы ў хату былі расчынены. «Пэўна, няма нікога»,— падумаў ён і ступіў за парог.

У печы дагарала галлё. Яшчэ было досыць светла, і ён адразу ўбачыў ля акна капітана, які назваў сябе Жэрарам. Той ляжаў тварам уніз. Побач валяўся пісталет.

Інтэндант укленчыў і асцярожна дакрануўся да яго. Капітан быў мёртвы.

«Д'ябальскія жарты»,— падумаў ён. Але што

такое? За спінай ён адчуў шолах, азірнуўся і ўздрыгнуў.

У закутку за печчу, наставіўшы на яго пісталет, сядзеў на падлозе ліцвін.

— Не варта крычаць ці хапацца за зброю,— па-французску сказаў былы вязень.— Я страляю хутчэй!

Ашаломлены інтэндант адразу зразумеў усё. Ліцвін быў сапраўдным лазутчыкам.

— Хто вы?

— Я афіцэр рускай арміі,— загаварыў той,— я паранены. У яго,— ён кіўнуў на труп капітана,— было два пісталеты. Ён страляў праз акно. Калі ўсе выбеглі адсюль, я стаў за дзвярыма.

«Страляў у мяне»,— падумаў інтэндант пра капітана.

Ліцвін апусціў пісталет і скрыгатнуў зубамі.

— Яны мелі рацыю, затрымаўшы мяне, і яны зараз вернуцца,— прамармытаў ён.— Няўдала ўсё.

— Пакажыце рану,— падхапіўся інтэндант.

— Не падыходзьце,— узняў зброю лазутчык.

Інтэндант спыніўся.

— Я сапраўды ліцвін, таму і адпаведны маскарад,— сказаў лазутчык,— калі трапіце ў палон, раскажыце пра мяне, у вас будзе прывілея.

— Дарэмна,— запярэчыў інтэндант.— Імператар перахітрыў усіх вас, і спадманная пераправа...

— Не дапаможа,— перапыніў яго лазутчык.— Хаця мы і не прагледзелі. Ратуйце жыццё.

— Што ж рабіць? — спытаў інтэндант.

— Ідзіце адсюль і хутчэй,— сказаў лазутчык,— бо я магу страціць прытомнасць, а жывым трапіць у іх рукі мне нельга.

— Вы мужны чалавек,— сказаў інтэндант. Ён зразумеў, што заставацца тут яму сапраўды небяспечна. Ён выбег з хаты і раптам праз некалькі

крокаў і секунд, якія цягнуліся, як вечнасць, пачуў тое, што міжволі чакаў,— глухі гук стрэлу ў хаце. Ён здрыгануўся.

Спакваля сутонела. Наваколле нагадвала вялізны мурашнік. Паўсюдна завіхаліся салдаты. Зырка палалі вогнішчы, вушы праціналі крыкі каманд.

Раптам нехта крануў яго за руку. Побач стаяў перапалоханы дзяншчык.

— Я ўсё выведаў,— зачасціў ён.— Тут побач штаб і абозы — усё разам. Паехалі, месье!

Пастутпова супакойваючыся, інтэндант пакрочыў да саней. Яшчэ раз азірнуўся напаследак.

Стаяла на сваім месцы хата, па-ранейшаму накрытыя радном, ляжалі трупы, як ён цяпер ведаў — ахвяры людзей капітана Жэрара. Такой жа ахвярай мог стаць і ён сам. Толькі зараз ён уявіў велічыню небяспекі.

Лагер Дару быў непадалёку. На паляне размясціліся рэшткі раскіданага інтэнданцкага ведамства — усё, што дакацілася да Бярэзіны. Усе былі заняты падрыхтоўкай да пераправы.

— Анры! — закрычаў нехта.— Дзе ты бадзяешся? Мо пабываў у палоне?

Да яго, смеючыся, падыходзіў Андрэ Дам'е, высокі, бялявы, востры на язык. Следам — Жан Вірэ — афіцэр прыкладна яго ўзросту.

Ён паціснуў рукі знаёмым са штаба Дару. Адчуў, што стомлены страшэнна. Хацелася спаць.

Дару было не да яго. Мімаходзь прагледзеў пошту, прабурчаў нешта, махнуў рукой, адсылаючы.

Ноччу ўдарыў мароз. Каля вогнішчаў спалі ўпокат, варушыліся, стагналі, трызнілі салдаты. На небе ліхаманкава зіхацелі зоркі. Інтэндант неўзабаве прачнуўся ад холаду, грэўся побач з салдата-

мі. Да раніцы ён сабраў у саквяж рукапісы, дзённікі, кінуў у агонь непатрэбнае.

Пасля поўдня два масты былі ўрэшце гатовыя. Імператар асабіста назіраў за работай. Тут жа былі спалены прапары і штандары палкоў. Арміі больш не існавала. Як і заўсёды ў прысутнасці імператара, сапёры з апантанасцю самазабойцаў у ледзяной вадзе завяршалі сваю справу. Кожны з іх адчуваў, што загіне. Генерал Эбле, які кіраваў работамі, вылез з вады, але на беразе страціў прытомнасць і зваліўся на рукі афіцэраў. Яго пацягнулі да вогнішча.

На другі бераг у ліку першых пераправіўся імператар са старой гвардыяй. За імі пацягнулася артылерыя, пяхота.

...Уведзеныя ў зман асноўныя сілы рускіх спяшаліся на месца сапраўднай пераправы, уступалі ў бой.

Казакі напалі, як заўсёды, нечакана.

— Божа, злітуйся над намі!— маліўся побач Жан Вірэ. Ён і Андрэ Дам'е схаваліся за возам, адстрэльваючыся з пісталетаў.

— Сцеражыся, Анры!

Асунуўся з прабітай галавой Дам'е. Кроў пырснула на снег. Заенчыў працяты пікай салдат.

Адзін з казакаў імчаў проста на яго. Інтэндант разгледзеў барадаты твар, занесеную шаблю. Кінуў непатрэбны пісталет. «Зараз заб'е»,— мільганула думка. Раптоўна схапіў саквяж, падставіў рыўком пад удар. Ляснула зверху, пранёсся побач, храпучы, конь. Пасыпаліся на снег кнігі, дзённікі.

— Дзе ты, Вірэ?— ён заўважыў, што з-пад воза тырчаць ногі ў падраных ботах, пацягнуў да сябе.— Жывы?

Плюючыся, той выціраў далонямі твар, нібы

рыба, хапаў разяўленым ротам паветра. Заўважыў кроў, мёртвага Дам'е.

— Глядзі, Вірэ, сёння я атрымаў самы вялікі ганарар за ўвесь час. Кошт яго — жыццё.— Інтэндант паказаў рассечаны саквяж.— Хто пасля гэтага скажа, што заняткі літаратурай не прыносяць карысці?

Казакаў адбілі. Зарыпелі абозы, папаўзлі на масты. Кінуўшы ўсё, нават цёплую футэрку, інтэндант бег да ракі. З натоўпам салдат праціснуўся на мост. Той пачынаў ужо асядаць у ваду. Хісталіся пад нагамі бёрны, лагі.

Як і заўсёды, нібы збоку, назіраў ён за сабой у хвіліны небяспекі. «Ці не баязлівец я?»

Другі мост пад цяжарам абозу абрынуўся якраз пасярэдзіне. Плынь паглынала людзей, рыштунак.

Трэба было шукаць каня.

— Зірні, у такіх саквяжах возяць сакрэтную пошту,— сказаў есаул маладому смугляваму харунжаму.

Сотня спынілася на адпачынак. Казакі, у задачу якіх уваходзіла канваіраванне палонных, напаілі коней і чакалі загаду рухацца далей.

— Ану падымі,— загадаў харунжы ардынарцу.

Той пацягнуў за ланцужок, расчыніў.

— Кніга,— сказаў ён,— і сшытак, і на зямлі некалькі.

— Дай сшытак,— сказаў харунжы,— кнігу не трэба.

Ён разгарнуў сшытак.

— Пачытай, што там,— сказаў есаул.— Ты ж адукаваны! І не ведаю, што б я без цябе з гэтай французнёй рабіў!

Маладзенькі харунжы зачырванеўся ад пахвалы.

«...Як шаўкапрад з шаўкоўніцы, я ўволю наеўся з дрэва жыцця. Наеўшыся, ён адчувае патрэбу поўзаць і ткаць сабе шаўковую турму. Так і пісьменнік».

Ён пераклаў.

Есаул засычэў расчаравана.

— Пэўна, нейкі пісака,— сказаў харунжы.

— А прозвішча?

Харунжы пагартаў сшытак.

— Анры Бейль,— сказаў ён.

# РВАНАЕ ВУХА

І ўсё-такі стрэлы грымнулі нечакана, бо ён позна пачуў сабак, якіх раней мог пачуць на вялікай адлегласці. З трывожным «грухх-грухх!» статак імкліва кінуўся прэч: ладныя самкі і вепрукі — адзін з іх з віскам заараў у снег і застаўся ляжаць — маладыя дзікі, якія паспелі вырасці за некалькі месяцаў, і ён, важак па мянушцы Рванае Вуха, таксама кінуліся прэч. У гэты момант цмокнула, хвастанула вышэй лапаткі ў карак, але ён ужо набраў хуткасць, імчаўся ў супрацьлеглы бок.

Ззаду чуўся ўзбуджана-істэрычны брэх: пусцілі сабак. Рванае Вуха ўжо ведаў, што рабіць у такіх выпадках, бо меў адпаведны вопыт. Трэба было звесці сабак за сабой, каб мог пазбегнуць пагоні статак, а потым — потым ён ім пакажа. Рванае Вуха адчуў, як у ім закіпае лютасць. Ён знарок не вельмі спяшаўся, і сабакі лёгка наганялі яго. Сабак было чацвёра. Наперадзе імчалася маладая гончая-двухгодка. За ёй з бакоў ляцелі дзве лайкі, а апошні рытмічна адмахваў, слаўся па снезе пяцігадовы ганчак. Выгляд велікана-секача, які так спрытна пакідаў поле бою (а такога вялізнага яны ніколі яшчэ не бачылі), намнога павялічваў іх храбрасць. Вось ён, уладар лесу і гэтых мясцін, уцякае, параненны іх гаспадарамі, і кроў яго на снезе п'яніць іх, штурхае наперад. Яны ўжо амаль хапалі яго за ногі, калі Рванае Вуха пачаў рабіць так, як рабіў шмат разоў ра-

ней у такіх выпадках, бо цяпер ён упэўніўся, што двухногія пабягуць за сваімі сабакамі і пакінуць у спакоі статак.

Ён прыбавіў хуткасці і адарваўся ад гончай, якая аж вішчэла ў яго за спінай, уламаўся ў кустоўе, імкліва затармазіў, раптам рэзка павярнуўся і з усёй спрытнасцю, на якую быў здольны, кінуўся насустрач сваім нахабным ганіцелям.

Малавопытная маладая сука не зразумела яго манеўру, а калі зразумела, то было ўжо занадта позна. Апошняе, што яна ўбачыла і адчула,— было нешта маланкавае і жахлівае, што раптам вылецела з хмызняку ёй насустрач. Потым лес навокал і неба закружыліся ў яе вачах, і больш яна нічога не бачыла, бо Рванае Вуха ўдарам магутных іклаў імгненна разарваў ёй жывот, падкінуў у паветра і, калі яна ўжо качалася па зямлі, затаптаў у снег.

Усё было настолькі нечакана, што астатнія сабакі літаральна аслупянелі і не напалі на яго ўсе разам. Рванае Вуха ведаў, што гэты іх стан працягнецца нядоўга, сабакі абкладуць яго з усіх бакоў, а іх гаспадары не так ужо і далёка. Таму ён адразу кінуўся да бліжэйшай лайкі. Гэта быў моцны і рухавы самец з падціснутымі па-ваўчынаму вушамі і закручаным абаранкам хвастом. Той паспеў адхіліцца ад першага ўдару, але Рванае Вуха быў знаёмы са звычкамі сабак. Ён зрабіў падманны рух і дастаў усё-такі, прыціснуў да зямлі гэтую ненавісную, нахабную, істоту, якая завішчала ад смяротнага страху. Іклы праткнулі лайцы грудзі, і тая, адразу захлынуўшыся крывёю, змоўкла.

Ганчак і другая лайка ўцяклі. Рванае Вуха разумеў, што яны пабеглі да сваіх гаспадароў і ў

бліжэйшы час наўрад ці асмеляцца напасці на яго зноў.

Толькі цяпер ён адчуў боль у карку і пах уласнай крыві, якая сцякала пад жывот і потым на снег — двухногія здолелі параніць яго. Але ж гэта не вельмі непакоіла: нейкім сваім пачуццём ён разумеў, што рана не цяжкая. Ён баяўся за статак, які знік, нібы растаў у гэтым незнаёмым, каварным лесе. Ён раней прывёў яго сюды, кіруючыся сваёй інтуіцыяй, але атрымлівалася так, што яна падвяла яго. Рванае Вуха жыў ужо шмат гадоў і даўно зразумеў, што колькасць гэтых прагадоў неяк разыходзіцца з пачуццём вынослівасці, спрытнасці і сілы. І хаця ўсё гэта ў яго яшчэ было, ён старэў. Вялізныя вушы, адно з якіх было парванае ў шматлікіх бойках з іншымі секачамі, чулі не так далёка, як раней, вочы бачылі горш (большая частка дзікоў, кажуць, бачыць толькі тое, што пабач), а ногі сталі не такія хуткія і моцныя, як у маладосці.

Але, нягледзячы на ўсё гэта, ён меў вялікі вопыт, што для жыцця статка было найважнейшым. Гэты вопыт і падказваў яму зараз, што статак тэрмінова трэба вывесці з небяспечных мясцін, хаця і багатых кормам. Лепш заўсёды трымацца далёкіх запаведных краёў, дзе ніколі не гучаць стрэлы, не ліецца кроў і дзе, хаця і багата такіх жа статкаў і не хапае часам прасторы, усё-такі лепей, бо там няма двухногіх з іх грымучымі палкамі, якія забіваюць на адлегласці.

Ён разумеў, што статак, пэўна, быў ужо далёка. Адшукаць яго ўвогуле было няцяжка, але ён страціў шмат сіл і траціў іх з кожнай кропляй крыві, якая цякла, хаця і не так моцна, як раней, і казытала парослы сівавата́й шчэццю жывот.

Рванае Вуха прыслухаўся і ўцягнуў паветра. Разам з гэтым паветрам ён улавіў мноства пахаў, якія зараз гаварылі яму аб тым, што рабіць далей. Трэба было неадкладна рухацца ўслед за статкам, але яшчэ больш глыбокі інстынкт падказаў яму пабыць крыху нерухомым, бо тады хутчэй спыніцца кроў.

Зіма для яго заўсёды была самым цяжкім часам. І не таму толькі, што зямлю накрываў снег, надыходзілі маразы, менш станавілася ежы—усё гэта не страшна для статка. Горш, жахлівей было тое, што загадкавыя і ўсемагутныя двухногія пачыналі ў гэты час аблавы, пасля якіх статак меншаў. Рванае Вуха вучыўся абмінаць небяспеку, хітрыць, адцясняць слабейшых, абыходзіць моцных. Ён, безумоўна, не мог ведаць сэнсу паводзін і ўчынкаў двухногіх, але, калі выпадала, заўсёды імкнуўся зразумець наваколле, увесь няпросты свет, у якім жыве шмат розных істот. Абвостраным сваім чуццём ён угадваў наступленне цяжкіх часін і імкнуўся толькі да аднаго — захаваць, абараніць статак. Але рабіць гэта станавілася ўсё цяжэй. Ён старэў, а жыццё ўсё паскарала і паскарала свой няўмольны бег, і каб паспяваць за ім, трэба было прымярацца і рабіць так, як раней ніколі не даводзілася рабіць.

Кароткі зімовы дзень імкліва ператвараўся ў прызмерак. Першая яркая зорка заблісцела між вершалін у чыстым далёкім небе. Рванае Вуха ледзь-ледзь бачыў яе і, вядома, не ведаў, што гэта Венера, але адчуў нейкую палёгку, бо зорку гэту назіраў і раней, а ўсё знаёмае ім, як і ўсімі жыхарамі лесу, успрымалася як выраз трываласці, дастатку і раўнавагі.

Вялізная, клінападобная, амаль на трэцюю частку цела галава яго змяшчала шмат звестак,

навыкаў, уражанняў іназіранняў. Тут былі ўспаміны аб дзяцінстве, аб далёкіх вандраваннях, аб шматлікіх паядынках з іншымі дзікамі, аб усіх жывых істотах, якіх ён, Рванае Вуха, сустракаў у сваім жыцці, а сустракаў ён многа чаго і многіх.

Вось і зараз ён зноў успомніў (апошнія гады гэты ўспамін наведваў яго ўсё часцей і часцей) сябе зусім малым на беразе нешырокай, чыстай лясной рэчкі. Статак, у якім калісьці нарадзілася маці Рванага Вуха і дзе, дарэчы, убачыў свет ён сам, заўсёды прыходзіў туды на вадапой. Потым статак раздзяліўся, як гэта заўсёды здараецца, калі там становіцца больш, чым трэба, асобін, але Рванае Вуха доўга яшчэ прыходзіў сюды з маці. Пад яе пяшчотнае «гро-гро-гро» разам з такімі ж, як і ён, парасятамі Рванае Вуха (тады ён яшчэ не меў гэтай мянушкі, бо вушы яго былі цэлыя) уваходзіў у ваду па чыстым пясчаным дне, па якім часам слізгацелі невялічкія, пужлівыя рыбкі. Ён заходзіў у ваду заўсёды далей за астатніх, бо быў цікаўны і смелы, спрабаваў нават плысці, за што маці не раз злёгку кусала яго. Ля парослага асакой, часам балоцістага берага шмат лужын з цёплай вадой, у якіх дзікі валяліся, пакуль не аблепліваліся гразёй, як панцырам,— пасля гэтай працэдуры ім не страшныя былі ні камары, ні авадні, ні іншыя крывасмокі. Да таго ж тут заўсёды можна было адкапаць розныя смачныя карэнні, а калі крыху збочыць — апынуцца ля вялізных, магутных дубоў, пад якімі з восені зямлю ўсцілалі жалуды. У летнюю спёку ля вады было незвычайна прыемна, але не толькі таму палюбіў Рванае Вуха лес і лясныя рэчкі: тут ён упершыню спазнаў разнастайнасць і неабсяжнасць свету, яго прыгажосць. І яшчэ ён ведаў цяпер, што так добра і прыемна, як было тады, у тыя далёкія часіны ма-

ленства,— ніколі ўжо не будзе. Бо з узростам прыйшло шмат клопатаў і нават паспаць удосталь ужо не было калі. Тым больш у сталыя гады, калі ён стаў важаком і быў вымушаны вартаваць бяспеку ўсяго статка. А статак быў самым галоўным з усяго, што толькі ёсць у гэтым няпростым, варожым свеце.

— Хухххх! — Рванае Вуха ўздыхнуў і паціху рушыў далей. Усё-такі ён страціў шмат крыві, трэба было і паесці, але на гэта не заставалася часу. Раніцай ён дагоніць статак і павядзе яго зусім у іншы бок, у тыя месцы, дзе лепш і адкуль ужо ён не пойдзе ніколі. Калі спатрэбіцца, ён выцесніць хітрасцю ці сілай іншых істот з іх мясцін і завядзе статак туды, дзе ён будзе ў бяспецы. А статак, напалоханы, зацкаваны, накіроўваўся між тым якраз у той бок, куды вандраваць не трэба было ні ў якім выпадку. Рванае Вуха ведаў, што там яго чакае пагібель.

Ён набраў у грудзі паветра, каб выдыхнуць яго ў абураным «груфф!», як раптам насцярожыўся і застыў на месцы. Вялізныя вушы яго, нібы лакатары, павярнуліся ў той бок, дзе за мноства крокаў адсюль пачуліся гукі, якія падказвалі яму аб набліжэнні новага ворага. Хто быў вораг? Рванае Вуха яшчэ не вызначыў гэтага. Але хутка па характары гукаў зразумеў — не, не двухногі. Было ясна толькі, што незнаёмы ўчуў яго і менавіта сюды скіраваў свой шлях. Рванае Вуха, які не баяўся ні ваўкоў, ні мядзведзя-бадзягі (даводзілася ўступаць у бойку і з ім) ці якога іншага насельніка лесу і ніколі нікому не саступаў дарогі, зараз пачаў вагацца. Ён шкадаваў часу, бо клопат пра статак быў цяпер самы асноўны. Да таго ж рана непакоіла яго. Ён адчуваў слабасць, а бегчы, каб дагнаць статак, трэба было ўсю ноч.

Хто ж гэта такі? Рванае Вуха старанна прыслухоўваўся, чуйна ўлоўліваў пахі лесу, спрабаваў зразумець, што за новая небяспека чакае яго ў гэты нешчаслівы дзень.

Яшчэ пакуль ворагі пабачылі адзін аднаго, Рванае Вуха па паху зразумеў, што яго даганяе малады сякач. А калі той вылецеў з зараснікаў і апынуўся перад ім, Рванае Вуха адчуў толькі адно жаданне — бегчы далей. Раней ён бы скрышыў, знішчыў гэтага занадта цікаўнага задзіру, дурня, даў бы яму сапраўдны ўрок паводзін — але толькі не цяпер. Ён адчуваў, што сілы на зыходзе.

У вячэрнім змроку праціўнікі пакуль што прымерваліся і прыглядаліся адзін да аднаго. І хаця ўсё да дробязей разгледзець ужо было немагчыма, Рванае Вуха адзначыў, што неспадзяваны яго вораг — вельмі вялікі вепр, амаль такі, як і ён сам, з вострай гарбатай спінай, з высокім загрыўкам і вузкім задам. Увесь ён быў пакрыты густым і цёмным шчаціннем. Як шчотка, стаяла яно ў яго і над галавой. Злосна глядзелі навокал каламутныя маленькія вочкі.

Рванае Вуха сярдзіта чмыхнуў і зрабіў тое, ад чаго раней згарэў бы ад сораму, што было для яго амаль немагчыма. Ён скіраваў убок і хацеў аббегчы забіяку. Але той імгненна заступіў яму дарогу. Малады вепр прагнуў бойкі. Ён добра адпачыў днём, а перад гэтым ноччу разгроб і перарыў бульбяны капец ля адной з бліжэйшых адсюль вёсак і быў не галодны. Да капца ён хадзіў ласавацца некалькі разоў, і ўсе разы ўдала. Цяпер ён адчуваў прыліў энергіі і злосці. Зараз ён правучыць гэтага старога няўклюду — малады сякач даўно ўжо адчуў пах крыві і ўцяміў, што становішча старога дрэннае. Ён ненавідзеў гэтых ганарлівых важакоў,

якія вельмі высока думаюць пра сябе. Вось ён яму зараз і пакажа. І ён рынуўся наперад.

Рванае Вуха і так ужо зразумеў, што без сутычкі не абысціся. Ён мацней упёрся нагамі ў снег і з цяжкасцю адбіў першы страшны наскок маладога вепра. Той быў малады, і гэтым сказана ўсё. Рванае Вуха разумеў, што доўга не выстаіць — сілы было менш. Трэба было тэрмінова нешта рабіць. Але што?

— Рррхуххх! — яшчэ адзін удар, ледзь не ў шыю. Гэты задзіра і дурань біўся, аднак жа, каварна і подла: імкнуўся тыцнуць ікламі ў вочы, укусіць у шыю, за вушы. Раптам Рванае Вуха спатыкнуўся — нага яго трапіла ў пень — і пачаў валіцца на бок. Праціўнік адразу кінуўся, пацягнуўся ікламі да жывата. Рванае Вуха задыхаўся ад цяжару. Смерці ён не баяўся і адносіўся да яе так жа проста, як і да жыцця. Але, калі загіне ён, можа загінуць і статак. І ўсё з-за гэтага не ў час сустрэтага нахабніка і задзіры. Лютасць, сляпая, страшэнная, расла ў ім. Ён сабраў апошнія свае сілы, ускочыў на ногі і рынуўся на ворага. Націск быў нечаканы і такі моцны і страшны, што малады сякач не ўстаяў. Ногі яго не вытрымалі, раз'ехаліся, і ён на адно толькі імгненне стаў безабаронны, падставіў для ўдару плячо. Рванае Вуха ўдарыў, і праціўнік зусім страціў раўнавагу, упаў на снег. З разарванай яго лапаткі палілася кроў. Рана яго была не з цяжкіх. Рванае Вуха ведаў гэта, але не стаў дабіваць — вораг быў пераможаны.

Рванае Вуха бег далей. Ужо легла цемната навокал, і зоркі, большасць якіх ён увогуле не мог бачыць, зіхацелі на небе. Серпік месяца вісеў над лесам. Праз некаторы час ён напаў на след статка, а потым нечакана выявіў і след свайго былога ворага — маладога секача. След вёў з лесу да

бульбянога поля, за якім, як вызначыў Рванае Вуха, была вёска.

Ён раптам адчуў, што сіл больш няма. Трэба было адпачыць. Ён крыху збочыў і зайшоў у густы ельнік, у глыбіні якога пад вывернутай сасной знайшоў выпадкова лежбішча перамоджанага ім секача — цёплую і ўтульную яму. І хаця Рванае Вуха ўлоўліваў увесь апошні час нейкі ледзь чутны сігнал небяспекі, ён ужо не мог звяртаць на яго ўвагі, бо вельмі стаміўся. Ён павагаўся крыху і залёг. Не варта было залягаць каля вёскі — гэта было адно з асноўных, самых важных яго правіл, але сёння ён яго парушыў. Тым больш, што статак прайшоў побач. Хутка ён адшукае яго і назаўсёды адвядзе з гэтых варожых мясцін.

...На світанні ўсе ўдзельнікі аблавы былі ў месцы прызначэння. Дагэтуль яны атрымалі ліцэнзію на адстрэл дзіка, які доўгі час наносіў вёсцы шкоду — амаль штоноч разрываў капец з насеннай бульбай і не столькі еў яе, колькі марозіў. Двойчы каля капца рабілі засады, але нахабны і хітры дзік блізка не падыходзіў, мабыць, адчуваў людзей здалёк.

Яшчэ з вечара мароз крыху паменшаў. Надыходзіла якраз кароткая і адзіная за ўсю зіму адліга. Адчувалася ўжо хуткае набліжэнне вясны.

Паляўнічых было трое. Брыгадзір, малады шаракавокі і прыгожы хлопец, які восенню адслужыў у арміі і якому нядаўна даверылі калгасную брыгаду, выцягнуў з сумкі ад супрацьгаза моцны палявы бінокль, расшпіліў футляр і ўзняў бінокль да вачэй, аглядаючы наваколле. Са стрэльбамі за плячамі побач стаялі каржакаваты, чырванатвары ветурач і мясцовы ляснік — меланхалічны, за-

думлівы дзядзька ў гадах. Сабакі ля ног павісквалі і абнюхвалі адзін аднаго.

— Ну, што бачна, Паўла? — нецярпліва спытаў ветурач.

— Класная тэхніка, люкс! — брыгадзір, якога звалі Паўлам, адняў ад вачэй бінокль, паляпаў па скураному футаралу.

— Што такое? — захваляваўся ветурач.— Дай мне!

— Птушкі над ельнікам,— сказаў Паўла.— А гэта значыць,— ён раптам весела і нечакана моцна ляпнуў лесніка па плячы — той аж адхіснуўся,— гэта значыць, што ён сёння там!

— Няўжо сапраўды на лежні? — прамармытаў ляснік.— Ну і ну. Дрэнь яго справы цяпер.

— Ну дык па сваіх месцах! — сказаў Паўла. Ён быў за распараджальніка.— Пайшлі...

Праз нейкі час участак, дзе, па іх меркаванню, знаходзілася лежбішча дзіка, быў абкружаны. Пусцілі сабак.

Рванае Вуха прачынаўся і зноў засынаў некалькі разоў. Цяпер жа ён падхапіўся ад нечаканага і трывожнага пачуцця. Прама над ім, на елцы, застракатала сарока. Гэта было непрыемна, але яшчэ горшым было тое, што паветра данесла да яго пахі двухногіх, пораху, ружэйнай змазкі і сабак. Ён пачуў іх брэх.

Ён не жахнуўся, бо не ведаў жаху, але на імгненне разгубіўся, бо каб так не шанцавала — з ім гэтага яшчэ не здаралася. Што ж, ён адпачыў і прыме бой, калі так створана ў гэтым свеце. А можа, яму пашчасціць і ён дасягне адным рыўком ратавальнага гушчару, які быў амаль адразу за ельнікам. Там яго не так лёгка будзе дагнаць.

Сабакі ўжо насядалі, і ён ірвануўся з ельніку, але, як толькі апынуўся на чыстым месцы, нешта ўдарыла яму ў жывот збоку, ён пачуў гукі стрэлаў і зразумеў, што ўжо не выбрацца. У жываце і грудзях пякло, там нешта булькацела, і ён бег ужо прама туды, адкуль палыхнула агнём і дзе былі ворагі. Лютасць да гэтых ворагаў напаўняла яго, і ён прагнуў цяпер аднаго — дабрацца да іх і адпомсціць.

Ён не бачыў, як спужаўся, кінуў стрэльбу і ўцякаў ветурач, як схаваўся за дрэва Паўла, бо яму не было ўжо часу перазарадзіць сваё ружжо, і як узняў у апошні раз стрэльбу ляснік. Прама перад ім зноў палыхнула агнём і зноў ударыла ніжэй галавы пад левую лапатку. І тады ён раптам адчуў сваё сэрца, бо цяпер яно білася ўсё мацней і мацней і з грукатам, які пераўзыходзіў усё: і стрэлы, і брэх сабак, і іншыя гукі. Ногі яго падламаліся, і ён упаў у снег. Яму раптам стала вельмі горача, і ён прагнуў цяпер толькі аднаго — ратавальнай прахалоды, і вось, здаецца, яна прыйшла, і ён зноў уваходзіць у тую самую імклівую лясную рэчку — рэчку свайго маленства, і вада бяжыць і бяжыць перад ім, кружыцца, кружыцца. І вось ён ужо плыве, і рэчка пашыраецца і пашыраецца, і берагоў ужо не бачна — адна бязмежная, бясконцая далечыня.

# БЕЛА-ЧЫРВОНАЯ ПТУШКА ШЧУР

Птушка была малінава-чырвоная, з дзвюма белымі палоскамі на крылах, доўгім хвастом і масіўнай кручкаватай дзюбай. На вершаліне сасны, якую яна аблюбавала сабе, было і кубло, але ці належала яно бела-чырвонай птушцы або проста засталося ад якой вароны — невядома.

Малады Яўген Макарэвіч высільваўся ўспомніць, калі і дзе раней мог пабачыць такую птушку, але так і не ўспомніў. У памяці замест гэтага ўзніклі поплаў на світанку з халоднай ад расы травой, мігцеючае павуцінне, зарослая аерам рачулка, буслы на выгане і буслянка з высахлым трупікам птушаняці, якое выпіхнулі з гнязда і якое так і засталося вісець. Памяць падказала і ўзнавіла вясковую вуліцу і ластавак, якія перад дажджом імкліва імчалі ўздоўж яе, хмарнае навальнічнае лета, кінамеханіка, што аднойчы збіў яго за тое, што ён залез у клуб праз гарышча. Кіно было з серыі чорных гангстэрскіх драм, і ён гады са два шкадаваў, што так і не паглядзеў яго. Яшчэ ўспомніліся снегіры на снезе і сабака Шарык, якога ўзімку недалёка ад вёскі лёгка ўзяў воўк. А такую вось птушку, здаецца, ніколі і не

бачыў. Ці ж нам справа да нейкіх птушак. Ён і заўважыў яе выпадкова: з акна кабінета на пятым паверсе назіраў у тэатральны бінокль — падарунак да дня нараджэння — за прадаўшчыцай з прамтаварнага павільёнчыка ля ўваходу ў сквер. Дзяўчына часам прадавала нешта рэдкім пакупнікам, а больш сумавала: глядзелася ў люстэрка, фарбавала вочы, чытала кнігу. За павільёнчыкам пачынаўся сквер, у якім раслі старыя сосны. На адной з іх жыла птушка.

Яўген Макарэвіч працаваў карэспандэнтам у раённай газеце ў аддзеле сельскай гаспадаркі. Яго прыслалі сюды пасля універсітэта. «Раёнка», нібы цмок, патрабавала ахвярных радкоў. Трэба было пісаць кожны дзень: як рыхтаваліся да жніва і ўбіралі ўраджай, як капалі бульбу, чым кармілі жывёлу і колькі малака давалі каровы, як рамантавалі трактары і сеялі жыта.

Вясна брала сваё, але сяўба яшчэ не пачыналася. З раніцы ён прадыктаваў машыністцы сваю мадзённую норму — дзвесце радкоў, а працаваў Макарэвіч хутка, дыктаваў прама з блакнота, куды запісваў іншы раз толькі лічбы і прозвішчы і чым у душы ганарыўся — сваёй аператыўнасцю, маладой памяццю, назіральнасцю. Але ў рэдакцыі не заўважалі яго спраў, а рэдактар старанна крэсліў усякія на яго погляд рызыкоўныя вольнасці: апісанні характараў людзей, асабістыя думкі. Рэдакцыя ўразіла маладога Макарэвіча. Адказны сакратар Тупіцкі, ветлівы, быццам ціхі інвалідзік, быў адзін з самых гнюсных людзей, якіх ён бачыў у сваім жыцці, а тое-сёе ён паспеў пабачыць. У Тупіцкага і мянушка была адпаведная: Гнюс. Нагадвала яго і загадчыца аддзела пісьмаў Беларэцкая. Яны вялі паміж сабой бязлітасную вайну, у якую спакваля ўцягнулі астатніх супрацоўнікаў. Вайна

гэтая, як даведаўся Макарэвіч, ішла з пераменным поспехам. У ёй вяліся наступленні, былі здрады, істэрыкі і сваркі.

Бегаў падобны на таракана, з маленькай галоўкай намеснік рэдактара Лапатаў. Макарэвіч адзначыў у яго моцны хапальны рэфлекс, зайздрослівасць і схільнасць да інтрыг. Ён з часам яўна мерыўся ў рэдактары. У рэдакцыі падслухоўвалі і цікавалі ля дзвярэй і ненавідзелі адзін аднаго пасля размеркавання ганарару.

Нікому з супрацоўнікаў Макарэвіч пра птушку не сказаў — вырашыў, што так лепш, няхай яна будзе толькі яго птушка.

— Хлоп, хлоп, хлоп! Бух! Бух!

Макарэвіч адчыніў стол, дастаў бінокль і навёў яго на панадворак, які цягнуўся ўбок ад сквера. За панадворкам пачыналіся дамы мікрараёна. У бінокль ён добра разгледзеў парушальніка цішыні — хлопец палкай выбіваў дыван. Рэха ад сцен дамоў утварала гукі, нібы на стралковым палігоне.

— Бух! Бух! Хлоп, хлоп, хлоп!

Макарэвіч доўга разглядаў выбівальшчыка дываноў. Яго здзівіла, што хлопец калашмаціў палкай заўчора, учора і тыдзень з раніцы да вечара.

Цяпер, калі снег сышоў і стала цяплей, дываны выбівалі ва ўсіх дварах. Калі вы не маеце якога няхай і таннага дыванка, гэта ўжо знак галечы, убогасці, а такімі перад суседзямі, пэўна, ніхто не хоча выглядаць, думаў Макарэвіч. І гэты ёлуп аж высільваецца, непакоіць маю птушку. Макарэвіч вылаяўся сам сабе і ўгледзеўся ў хлопца, які няспешна махаў палкай.

— Хлоп, хлоп, хлоп!

Паўза.

Хлопец быў худы, нягеглы, апрануты ў танныя

картовыя штаны, такую ж куртку. На нагах — салдацкія чаравікі. Плечы вузкія, твар хваравіты, бледны. Дрэнна пастрыжаная галава трымалася на тонкай кволай шыі.

Макарэвіч перавёў бінокль на сасну, дзе было гняздо. Птушка нервова скакала між ігліцы. «З-за таго рупліўца,— падумаў ён,— яна можа пакінуць гняздо. Пэўна, птушка атаясамлівала сквер з лесам. Але ж раней тут сапраўды быў лес. Вось і цярпі зараз, дурнічка. Урбанізацыя. Цікава, што за птушка?» Макарэвіч яшчэ паназіраў за ёй — птушка знікала, зноў з'яўлялася, дзяўбла нешта ў галінках. Ён зноў адзначыў прыгажосць яе чырвона-белай афарбоўкі, ладную моц хваста, ястрабіную дзюбку.

Вечарам па дарозе дамоў, хаця месца, дзе ён жыў, можна было назваць домам толькі ўмоўна— Макарэвічу далі пакой у інтэрнаце,— ён зазірнуў у кнігарню і адшукаў там кніжку пра птушак з каляровымі малюнкамі. Трэба было ўрэшце класіфікаваць незнаёмку.

Птушка аказалася лясной госцяй, дакладней, госцем — гэта быў самец шчура. Тое, што лясная птушка не жадала пакідаць горад, навяло Макарэвіча на сумныя думкі. Не жадае, і ўсё. Дык хто яна там, у сваім птушыным свеце,— вар'ят ці ахвяра?

У абед малады Макарэвіч пайшоў у сквер, знайшоў знаёмае дрэва і агледзеўся навокал. Было ціха і амаль не холадна. На сінім небе з рэдкімі маларухомымі хмарамі высока-высока цягнуўся белы шлейф рэактыўнага самалёта. Тут жа, між дрэваў, ніхто не блукаў у гэты час, толькі ззаду грукала.

— Хлоп, хлоп, хлоп!

Макарэвіч знайшоў на зямлі сухую галінку і пастукаў па ствале, ціха свіснуў.

— Фіў, фіў!

Зверху на яго пасыпаліся трухлінкі, аскабалачкі кары.

Птушка нечакана скокнула аднекуль збоку, ашчаперыла галінку лапкамі-кіпцюрамі над яго галавой і скоса зірнула вокам-пацерачкай, пасядзела так, пагайдалася, потым пырхнула ўгору і знікла.

— Ага. Дык ты не супраць пазнаёміцца,— сказаў Макарэвіч.— Сцеражыся катоў, чуеш?

Ён пайшоў назад, але збочыў і скіраваў туды, дзе грукалі палкай. Там у зямлю было ўкапана нешта накшталт невялікіх футбольных варот. На іх вісеў дыван, ля якога стаяў пануры выбівальшчык, трымаючы палку ў руцэ,— усё той жа хлопец. Ён быў нібы ў одуме — пэўна, адпачываў і здрыгануўся, калі Макарэвіч падышоў усутыч.

— Прывітанне,— сказаў Макарэвіч.— Катоў тут не бачыў?

Хлопец здзіўлена пахітаў галавой і моўчкі чакаў.

— Заможны ты, столькі дываноў маеш. Нібы ў Рашыдава.

Хлопец расцяў вусны і глуха сказаў:

— Не маё гэта. Мне заплоцяць, я раблю.

Макарэвіч здзівіўся.

— І колькі табе плоцяць? — спытаў ён.

— Як хто,— сказаў хлопец.— І пейсят капеек і дваццаць. А хто і рубель.

Ён выцягнуў з кішэні і паказаў жменьку дробязі.

— А рублі?

Хлопец уцягнуў галаву ў плечы і збянтэжана ўсміхнуўся. Пярэдняга зуба ў яго не было.

— Мальцы тут забралі. Кажуць, пазыч, пасля вернем. Я даў.

— Б'юць, ці што? — удакладніў Макарэвіч.

— Спачатку набілі, а цяпер не, не б'юць. А навошта табе каты?

Макарэвіч не ведаў, што думаць. Ён прыгледзеўся да выбівальшчыка больш пільна. Бледны нездаровы твар, скура шэрая, як у хворых, усё тая ж сіняя картовая куртка, танная кашуля пад ёй, салдацкія чаравікі.

— Ты хто — біч?

Хлопец пахітаў галавой.

— Я ў цёткі жыву. А вунь і яна сама ідзе.

Сапраўды, да іх ужо не ішла, а бегла невысокая рухавая жанчына ў ватніку. Раззлаваная, яна яшчэ здалёк закрычала:

— Што табе ад яго трэба, прайдзісвет?

Макарэвіч зразумеў, што гэтыя словы адрасаваны яму. Жанчына падбегла бліжэй, але не спынілася, а нечакана накінулася на яго з кулакамі. Ён адступіў на крок, збянтэжаны.

— Вярні яму грошы, ну!

— Не браў я грошай,— запярэчыў Макарэвіч. Яму стала чамусьці брыдка.

— Ці ж я ў акно не бачыла? Усё аддаў? І зноў ты за сваё?

Хлопец не згадзіўся.

— Не браў ён нічога. Ніякі ён не гад. Ён ката шукае.

Жанчына раптам умольна сашчапіла рукі.

— Васіль, ну колькі я цябе прасіла не хадзіць сюды, не ганьбіць мяне. Што суседзі падумаюць? Ну хіба табе дрэнна ў мяне, есці няма? Навошта табе тыя грошы? Я ж табе давала.

— Просяць жа,— збянтэжыўся Васіль.

— Ненавіджу,— сказала жанчына і паглядзела

на вокны дамоў.— А што хворага просяць, яны ведаюць? Здзекваюцца, сволачы, каму ахвота. У-у, звяругі!

— Не трэба, цётка Вера,— сказаў Васіль.— Мне галава баліць.

— Чый гэта дыван? — спытала цётка Вера.— Твой? — яна зноў павярнулася да Макарэвіча.

— Я чалавек бедны,— адмовіўся ён.— У мяне такога багацця няма.

Дыван і сапраўды быў багаты: вялікі, ручной работы, з прыгожым узорам.

— Унь яго,— кіўнуў Васіль на адно з вокнаў: у ім тырчэла чыясьці лысая галава — назіралі.

— Ідзі дамоў,— загадала выбівальшчыку цётка Вера,— зараз жа. Выпі лекі. Я дыван яму сама аддам.

Васіль пайшоў. Палку ён не кінуў, панёс з сабой.

— А вы хто такі будзеце? — спытала Макарэвіча цётка Вера больш лагодна.

Ён сказаў.

— Божа, божа,— жанчына выцягнула пакамячаную насоўку і прыціснула да вачэй,— а вы ведаеце, які ў яго лёс? Нікому не пажадаю. Я раскажу, а вы запішыце. Я вам такое раскажу, што і не паверыце.

Яна сказала, што завуць яе Вера Іванаўна, жыве з мужам, дзяцей ім бог не даў, а Васіль яе далёкі сваяк, якога яна мусіла выпісаць на тыдзень з дома інвалідаў. Бацька Васіля памёр, па бацьку яны і сваякі, а маці жывая, дык тую маці трэба знайсці і расстраляць і каб гэта па тэлевізары паказвалі ўсяму свету. Пасля яна дадала Макарэвічу, што Васілёў бацька памёр, а маці нібы з ланцуга адчапілі. Вырашыла, пэўна, гадаўка, што недабрала ў маладосці. Малы ёй, вядома, перашка-

джаў, то яна кіне яго ў кватэры аднаго і знікне на тыдзень, а то і два. А хлопчык усё ніяк не паміраў, то бульбіну якую знойдзе сырую, то цыбуліну, вадой зап'е, і ўсё, чакае маці. Вядома, суседзі даведаліся, умяшаліся, але позна: хлопчык захварэў, галава ў яго стала балець. Сваячка тая дамаглася свайго — аддала яго ў дом інвалідаў.

— А я ж пра тое ўсё не ведала. Паехала ў той дом, укленчыла перад глаўурачом, каб хлопца аддалі, як стаяла, прасіла, так і ўпала на калені, ды адпусцілі яго толькі на тыдзень, бо ніякіх дакументаў ён не мае, але паабяцалі выпісаць потым зусім. Трэба толькі розныя даведкі і паперкі сабраць. Бюракраты, каб на іх!

Пакуль жа Васіль мусіць зноў назад ехаць, але яна спадзяецца, што ненадоўга. У яе, працягвала Вера Іванаўна, наконт хлопца ёсць план. Хлопца трэба ўладкаваць у які калгас побач, так, у калгас. Ён жа любіць жывёлу. Яму каля жывёлы лепш будзе, раз людзі адхіліліся. Дасць бог, жыць як здолее, мо і ўдавіцу якую знойдзе. А тут, ледзь адвернешся, у паслугачах. Набілі шпанюкі нядаўна, грошы адабралі. А якія ў яго грошы? А суседзі думаюць — яна яго сюды пасылае.

— А дзе зараз яго маці? — спытаў Макарэвіч.

— Жыве ў Н.,— Вера Іванаўна назвала суседні горад.— А дзе дакладна, і не ведаю. Каб яна там і спруцянела.

— Ну, бывайце здаровы,— сказаў Макарэвіч.— А пра Васіля, спадзяюся, і напішу, параюся толькі.

— Усяго і вам добрага. Чыстага вам хлеба, крынічнай вады, і каб не было бяды,— сказала Вера Іванаўна і дадала наўздагон: — Вы прабачце, што накрычала на вас. А як мой план?

— Задумка ў вас правільная,— павярнуўся Макарэвіч.— А ён сам як?

— Адно просіць, каб назад не аддавалі. Я ўжо баюся яму сказаць, што трэба праз дзень збірацца.

□

Назаўтра па дарозе на працу Макарэвіч зноў пачуў знаёмыя гукі і ўбачыў выбівальшчыка дываноў на звычайным месцы. Васіль няспешна махаў палкай.

— Хлоп, хлоп!

Макарэвіч збочыў да яго.

— Цёткі не баішся? — спытаў ён.

— А яна на рабоце,— усміхнуўся Васіль.— А мяне адзін тут дзядзька папрасіў.

Уводдалі, ля пад'езда, на лаўцы сядзеў самавіты мужчына ў вайсковай кашулі хакі, трыко і пантофлях. На плячах у яго быў накінуты бушлат.

— Яго заказ?

Васіль згодна кіўнуў, засаромеўся.

— А грошы даў?

— Не пакуль.

— Так ты абанкруцішся,— сказаў Макарэвіч.— І фірма твая нічога не вартая, адны выдаткі. Хочаш, дапамагу?

Васіль зацікавіўся.

— Як?

— Цётка казала, што ты жывёлу любіш. А ў вёску ты б паехаў жыць? Тут недалёка. У мяне там старшыня калгаса знаёмы, ён і ўладкуе. Там і жыць дзе ёсць. А да цёткі ў госці ездзіць будзеш. Згода?

Васіль адклаў палку і задумаўся.

— А не маніш?

— Вось мой тэлефон. Праз тыдзень які пазвані, а я пра ўсё дамоўлюся.

Макарэвіч вырваў з блакнота паперку, напісаў

сваё прозвішча і рабочы тэлефон.

Васіль недаверліва зірнуў і запіхнуў яе ў кішэню.

— Дзякуй.

— Што, хутка ў калектыў? — спытаў Макарэвіч. Ён хацеў сказаць у інвалідскі дом, але, вядома, стрымаўся.

— У інтэрнат? — адразу насцярожыўся Васіль. Ён усё зразумеў.— Не хачу, не.— Ён пабляднеў.

Макарэвіч памкнуўся растлумачыць яму намеры цёткі пра тое, што ў яго, Васіля, пакуль няма ніякіх дакументаў, і каб забраць яго, трэба шмат папер і пераканаць дактароў, але зноў стрымаўся. Навошта? Дамовіцца са старшынёй, і то няблага. А там няхай самі выкарасквающца. Што і казаць — жыццё кволых не лашчыць.

Макарэвіч кіўнуў выбівальшчыку дываноў і пайшоў сваёй дарогай. Ззаду стала ціха.

Ля знаёмай сасны Макарэвіч спыніўся, свіснуў і пазваў:

— Дзе ты, птушка?

Ён пачакаў, а калі ўжо мусіў пайсці, птушка зноў раптоўна выслізнула з-за хвойніку, зрабіла круг у паветры і села на сук над галавой, ашчаперыла лапкамі атожылак, зірнула на яго і пачысціла дзюбу.

— Прывітанне,— сказаў Макарэвіч.— Як ты сюды толькі трапіў, такі прыгажун. Галоўнае — як мага далей ад катоў. Зразумеў?

Птушка скокнула вышэй, пакрасавалася там і неўзабаве схавалася ў шыпульках.

□

Праз дзень Макарэвіч паехаў у камандзіроўку на раён: пачалася пасяўная. Вярнуўся ён позна,

да ночы напісаў артыкул і з блакнотам пад падушкай заснуў.

Раніцой у рэдакцыі адбылася лятучка, пасля якой Макарэвіч дыктаваў на машынку. У машыніcткі былі брудныя пазногці, рот напаўраскрыты, і ў ім блішчэла залатая каронка.

За акном на дрэвах ужо распускалася лісце, але вецер зноў змяніўся, часам ішоў дробны дождж-імжака, пахаладала. Па шэрым небе нізка беглі хмары, змешваліся з дымам, які ўзнімаўся з трубы гарадской кацельні, што была насупраць. Вялікая тлустая муха, якая паспела ўжо ачуняць у цяпле, гудзела і тыцкалася ў шкло.

Макарэвіч пайшоў да сябе ў аддзел, вычытаў тэкст, потым выцягнуў бінокль і навёў яго на дрэва, але птушкі не ўбачыў. Загадчык сельгасаддзела Кусаў — таўсматы, з вялізным жыватом і амаль без падбародка, як упэўніўся Макарэвіч, пабабску помслівы і каварны,— праз стол ад яго курыў цыгарэту.

У дзверы пастукалі, і ў кабінет увайшлі двое ў міліцэйскай форме: высокі, змрочны, у гадах маёр і за ім малады, зухаваты сяржант з адтапыранымі вушамі. Маёр кінуў на іх хуткі позірк, слізгануў вачыма па сталах і сценах кабінета і спытаў Макарэвіча.

— Яўген Сямёнавіч?

— Гэта я,— адказаў Макарэвіч з прадчуваннем, што здарылася благое.

Маёр назваўся — прозвішча ў яго было кароткае: Грук — і паклаў на стол паперку.

— Ваша?

Макарэвіч пазнаў ліст з блакнота, які пакінуў выбівальшчыку дываноў, і згодна кіўнуў.

— Паедзеце з намі,— прапанаваў маёр.

— Куды?

— На апазнанне.

Запанавала паўза. Кусаў глядзеў на іх праз стол з прагнай цікавасцю. Цыгарэта дагарала ў яго руцэ і апякла яму пальцы. Пачулася, як за дзвярыма спыніліся нечыя крокі.

Макарэвіч апрануў плашч і спытаў:

— Што ўсё-такі здарылася, мо растлумачыце?

— Самазабойства,— сказаў маёр.— Дакументаў ніякіх не знайшлі, толькі вось паперку з вашым тэлефонам. Ён хто вам будзе?

Макарэвіч быў ашаломлены.

— Ніхто. Знаёмы.

— Як у вас з нервамі? — спытаў маёр.— А то ж, самі зразумейце, з-пад цягніка выцягнулі, відовішча жахлівае. А хто ён і чаму такое зрабіў, мяркую, вы нам па дарозе раскажаце.

— Трэба цётцы паведаміць,— здагадаўся Макарэвіч.— Яна вам больш раскажа.

Маёр ажывіўся.

— Што за цётка?

— Побач жыве,— растлумачыў Макарэвіч,— я пад'езд ведаю, а кватэру — не.

— Не праблема,— падагульніў маёр.— Знойдзем.

□

У кабінеце рэдактара, якому ўжо далажылі пра таямнічы візіт міліцыянераў, малады Макарэвіч скончыў расказваць і дадаў:

— Цяпер трэба неадкладна паехаць у Н., знайсці тую жанчыну, расколецца яна, а як жа, неяк адрэагуе. А потым напісаць. Мяркую, добры матэрыял атрымаецца.

Рэдактар моўчкі слухаў. Праз два гады ён павінен быў пайсці на пенсію. У яго была прычоска, як

у лідэр-вакаліста з рок-гурту «Брыгада С». Рэдактар час ад часу закідваў сальныя валасы з праборам пасярэдзіне галавы жэстам вядомага вакаліста, але там была пародыя, тут — арыгінал. Цяпер яго маршчыністы твар быў непранікальны, а позірк чорных вачэй ухілісты. Урэшце ён няшчыра ўсміхнуўся.

— Слухай,— сказаў ён.— Ты малады яшчэ, працуеш добра, нічога не скажу. Ну і працуй. З часам пасаду зоймеш. Навошта табе ўсё гэта? Мы раённая газета, у нас іншыя задачы. Я лічу: не варта завастраць увагу на хворых, на ўбогіх. У нас жа шмат станоўчага, у нас ёсць аб чым пісаць. А за газету хто адказвае, ты? Не, я. Зноў жа на камандзіровачныя ліміт.

У сваім кабінеце малады Макарэвіч сеў за стол, задумаўся. Дождж барабаніў у падваконне. Кусава ўжо не было. Дзверы прыадчынілі і зачынілі зноў. Яшчэ не тапілі, і ў пакоі было холадна. «Холадна ў доме маім»,— падумаў ён словамі з песні вядомай рок-спявачкі. Але ж холад, адзіноцтва — той самы хлеб, які ўзгадоўвае перамогу.

Бліснула на даляглядзе бязгучная веснавая маланка, грому ён так і не дачакаўся, пасмы густых хмар ляцелі па небе. Макарэвіч дастаў чысты ліст паперы і напісаў на ім: «Заява. Прашу звольніць мяне па асабістаму жаданню ў сувязі з рознымі поглядамі на творчы працэс». Потым падумаў яшчэ і дадаў: «і ў сувязі з пераездам у Парыж». Макарэвіч усміхнуўся, паставіў дату і распісаўся, пасля занёс рэдактару і, не чакаючы пытанняў, выйшаў.

Сонца яшчэ не зайшло, а ў скверы ўжо імкліва сутонела. Дождж сціх. На захадзе неба было чырвонае. Потым па гэтаму небу праляцеў самалёт.

Пад сасной чамусьці натапталі, валяліся неда-

куркі, пакамячаныя газеты, а ўбаку, дзе на зямлі прабівалася кволая зеляніна, ляжала бела-чырвоная птушка шчур. Макарэвіч нахіліўся і падняў яе. Птушка была ўжо халодная і зусім лёгкая. З пер'яў на далонь выкаціўся патрончык ад пнеўматычнай вінтоўкі, потым другі. У птушкі было выбіта вока. Малады Макарэвіч узняў галаву і доўга ўглядаўся ў верхавіну сасны, нават пастукаў па ствале чаравікам, нібы спадзеючыся, што зверху выпырхне новая птушка, што там нехта ёсць, але ніхто не вылецеў, і тады ён паклаў птушку ў кішэню плашча і рушыў прэч.

У мясцовы рэстаран па буднях пускалі свабодна. Тут сядзелі ўжо некалькі выпівакаў, бадзяўся коратка стрыжаны дзяцюк з наколкамі на руках. Твар у яго быў звычайны, але па-дзіцячаму пульхныя вусны нечакана выяўлялі прыхаваную жорсткасць. Афіцыянтка ўсё круцілася вакол аднаго з заўсёднікаў — Макарэвіч ведаў яго — мясцовага карцёжніка: мужчыну гадоў трыццаці з вачыма, якія амаль сыходзіліся на перамычцы носа. Рукі ў яго былі белыя, жаноцкія, ■ даўгімі пальцамі. Карцёжнік быў не адзін: побач з ім сядзела маладая дзяўчына.

Макарэвіч выпіў гарэлкі і змусіў пераканаць сябе, што нельга ненавідзець людзей, а трэба ненавідзець іх недахопы. Потым ён разлічыўся, прыхапіў з сабой бутэльку сухога віна і спусціўся ў гардэроб.

Гнуткая бландзінка ■ вялікімі падфарбаванымі вачыма, нечым узрушаная, спытала, ці не правядзе яе Макарэвіч дадому, бо наверсе ўвесь час чапляецца нейкі крымінальнік, няйнакш, і яна ўцякла сюды, каб пазбавіцца ад яго. У бландзінцы Макарэвіч пазнаў прадаўшчыцу з прамтаварнага павільёнчыка. Яна яму спадабалася.

Макарэвіч згадзіўся, і яны выйшлі на вуліцу.

— Я б дзяўчат адных у рэстаран не пускаў,— сказаў ён,— тым больш такіх прыгожых.

— Дома сядзець, шкарпэткі вязаць? — не згадзілася бландзінка. Яе звалі Людміла.

— А мяне завуць Руслан,— сказаў Макарэвіч.— Я з Парыжа.

— Думала: ты сур'ёзны,— заўважыла Людміла.— Ну і жарты ў цябе. І куды мы ідзём?

— На пахаванне,— сказаў Макарэвіч,— а пасля, калі хочаш, да цябе. Справім памінкі.

Людміла кісла ўсміхнулася.

— А каго хаваюць? Так позна? Зноў ты за сваё.

Макарэвіч выцягнуў з кішэні бела-чырвоны камяк.

— Гэта мой сябар — птушка шчур. Яна памерла праз сваю даверлівасць.

Людміла спынілася.

— Але ж гэта занадта,— сказала яна.— Да пабачэння. Ты проста псіх.

Дзяўчына знікла. Макарэвіч зноў паклаў птушку ў кішэню, пацінуў плячыма і пайшоў назад.

Праз тыдзень ён ад'язджаў дамоў, у Парыжу. Так сапраўды, з націскам на апошнім складзе, называлася вёска ў Чэрвеньскім раёне, адкуль ён быў родам. Пабудзе крыху там, а потым — потым пабачыць. Ён са здзіўленнем адчуваў, што стаміўся.

Прыкметна пацяплела. Дрэвы апрануліся ў зялёнае. Сонечныя промні пяшчотна лашчылі брудзнае, пакрытае пылам лісце.

Аўтобус крануўся, і праз шкло ён бачыў, як пахіснуліся і паплылі назад адзінокія постаці людзей і будынак вакзала. Два хлопчыкі, паступова адстаючы, беглі ўслед — пэўна, некага праводзі-

лі. Іх галовы кранаў вецер, і светлыя валасы, нібы пух, узнімаліся над ілбамі.

У салоне сядзелі цёткі аднекуль здалёк, ціха перагаворваліся паміж сабой. Бабуля побач уладкоўвала свой невялікі скарб — у яе быў засяроджаны, маршчыністы твар; енчыла дзіцё на руках у жанчыны насупраць. Стары з кійком у руцэ глядзеў і глядзеў у акно: на лес і слупы, што мільгалі адзін за адным, на шлях, што адбягаў у мінулае разам з жыццём,— глядзеў выцвілымі, дзіцячымі, усёдаравальнымі вачыма.

Литературно-художественное издание

**ЛУП**

**Повесть, рассказы**

**СТАНКЕВИЧ Юрий (Георгий) Васильевич**

Минск, журнал «Молодость», на белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**ЛУП**

**Аповесць, апавяданні**

**СТАНКЕВІЧ Юрый (Георгій) Васільевіч**

Мінск, часопіс «Маладосць», на беларускай мове

Галоўны рэдактар **А. Грачанікаў.**

Рэдактар **У. Саламаха.**
Мастак **В. Казлоў.**
Мастацкі рэдактар **В. Казлоў.**
Тэхнічны рэдактар **Я. Важнік.**
Карэктар **В. Башак.**

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Здадзена ў набор 5.09.89. Падпісана да друку 20.10.89. АТ 12272. Фармат 70×100 1/32. Друк высокі. Гарнітура школьная. Умоўн. фарбаадб. 5,44. Ум. друк. арк. 5,16. Ул.-выд. арк. 5,03. Тыраж 2 218 экз. Зак. 360. Цана 35 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Цана 35 к.

Індэкс 74821



**Юры (Георгій) Станкевіч** нарадзіўся ў 1945 годзе ў Барысаве. З пятнаццаці гадоў працаваў на фабрыках і заводах горада, вучыўся ў вячэрняй школе. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Цяпер — супрацоўнік рэдакцыі барысаўскай газеты «Камуністычная праца».

Апавяданні і публіцыстыка друкаваліся ў «Маладосці» і «Літаратуры і мастацтве», іншых выданнях рэспублікі.